ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

20 ЖНІЎНЯ 1993г № 33 (3703) Кошт 10 руб.





Невыпадкова музычны гурт беларускага аўтэнтычнага фальклору мае назву «Ліцвіны». Кіраўнік гурта Уладзімір БЯРБЕРАЎ /ён на здымку/ і ягоныя сябры не толькі выканаўцы, але і збіральнікі, даследчыкі народнай творчасці. Аўтэнтычны — значыць сапраўдны. Калі спяваюць «Ліцвіны», нібыта чуеш жывыя галасы старажытнай Літвы-Беларусі.

*Фота У.ПАНАДЫ*

## Кола дзён

***Безуладдзе, якое панавала ў краіне ў пачатку жніўня, здаецца, скончылася: Станіслаў Шушкевіч перапыніў адпачынак і прыступіў да выканання сваіх абавязкаў. Успомніў пра Беларусь і Вячаслаў Кебіч. З далёкага поўдня патэлефанаваў ён у Маскву і «адным званком зняў усе праблемы з газам». Знаёмы стыль, ці не праўда? Між тым, безуладдзем паспелі пакарыстацца прадстаўнікі парламенцкай большасці. Без капейкі грошай /!/ з'ездзілі яны ў Маскву і падчас перамоваў з Р.Хасбулатавым і В.Герашчанкам «знялі ўсе праблемы» наогул. Не хвалюйцеся, будзем мы з нафтай і газам, з расійскімі грашыма, з «заўчасным» крэдытам... Ні слова пра тое, чым, як і калі мы будзем плаціць за расійскую «добродетель», ні слова пра тое, хто ўпаўнаважваў іх, а не ўрад, вырашаць дзяржаўныя праблемы. Так бы мовіць, ініцыятыва знізу. Пасля такіх «ініцыятыў» ураду-маўчуну трэба поўным складам падаваць у адстаўку. Прыехалі...***

### НАВІНА ТЫДНЯ

19 жніўня ў Маскве адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча з Прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным. Калі чытачы атрымаюць гэты нумар «ЛіМа», яны ўжо будуць ведаць з паведамленняў радыё і тэлебачання, пра што ішла размова на сустрэчы, і якія яе вынікі. Мы ж пакуль можам канстатаваць адно: у чарговую гадавіну путча «пушчысты» не сабраліся разам — Прэзідэнт Украіны Л.Краўчук прымаць удзел у сустрэчы адмовіўся. А шкада, быў момант паконычыць з СНД, як раней з СССР, пакуль тое не зрабілі неакамуністы, якія апошнім часам надта ж «палохаюць» нас гэтым.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Тое, што эканоміка і фінансава-крэдытная сістэма Рэспублікі Беларусь, якая мела добрыя першапачатковыя магчымасці, апынуліся за тры гады ля разбітага карыта, вінаватыя перш за ўсё гэтыя Савет Міністраў, Вярхоўны Савет, адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета, Нацыянальны банк і — персанальна — іхнія кіраўнікі. Яны ведалі праўсё і дзесяткі разоў былі праінфармаваны апазіцыяй БНФ і іншымі дэпутатамі дэмакратычнага блока. Цяпер, пасля вераломных крокаў Расіі і маніпуляцый з рублём, здарылася тое кепскае, пра што мы папярэджвалі Урад і Вярхоўны Савет... У гэтай сітуацыі, калі пацярпелі тысячы людзей, што не змаглі выехаць у адпачынак за межы Беларусі, калі наша дзяржава па віне безадказнасці палітыкі нясе страты, калі Нацыянальны банк фактычна прызнаў памылковасць сваёй пазіцыі, мы яшчэ раз нагадваем аб неабходнасці тэрміновай і ўсебаковай падрыхтоўкі да ўвядзення беларускага талера, да хуткага яго прыняцця ў якасці нацыянальнай валюты, патрабуем неадкладнага правядзення рынкавых рэформ эканомікі і карэкціроўкі адпаведных законаў».

*(З заявы апазіцыі БНФ у ВС Беларусі)*

### КАНФУЗ ТЫДНЯ

Ні на адно канкрэтнае пытанне не атрымалі канкрэтнага адказу журналісты на прэс-канферэнцыі, наладжанай у Нацыянальным прэс-цэнтры прадстаўнікамі Дзяржэканомплана, Дзяржбанка і Мінфіна Рэспублікі Беларусь. Што маглі сказаць «эканамісты», «банкіры» і «фінансісты», калі, па-першае, практычна нічога ад іх саміх не залежыць, па-другое, і дзякуй Богу, што не залежыць. З прэс-канферэнцыі зразумела адно: Беларусі не выгадна пакуль уводзіць нацыянальную валюту і яна застанецца ў «рублёвай зоне». Але што ж гэта за такая «адзіная рублёвая зона», калі ўнутры яе існуюць розныя курсы аднаго і таго ж расійскага рубля?

### СКАНДАЛ ТЫДНЯ

Да барацьбы супраць Беларускага згуртавання вайскоўцаў і адраджэння беларускай гісторыі падключыўся і Мінскі гарвыканкам. Ён забараніў правядзенне мітынгу і прaняцце прысягі на вернасць беларускаму народу ў скверы Янкі Купалы ў Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасня, а дазволіў толькі правесці «музычна-літаратурную праграму» на пляцоўцы перад Дзяржаўным тэатрам оперы і балета. Аднак аргкамітэт свята, у які ўвайшлі прадстаўнікі БНФ, БЗВ, НДПБ, АДПБ, БСДГ і БСП, плануе ўсё ж правесці сімвалічную прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь, бо, па словах старшыні БЗВ Міколы Статкевіча, «ніхто не можа забараніць нам выказаць святыя словы клятвы на вернасць Радзіме». Усе, хто пажадае фінансава дапамагчы правядзенню свята, могуць пералічыць ахвяраванні на рахунак N 700906 банка «Дукат» г.Мінска, код 767 з паметкай «Для свята «Орша—93».

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

На мінулым тыдні ў Беларусі зарэгістравана тысячнае сумеснае прадпрыемства. Ім стала беларуска-амерыканская фірма «Стэнфард-тэхна-цэнтр РБ» з устаўным фондам 100 тысяч долараў. Заснавальнікамі фірмы сталі Мінгарвыканкам і амерыканская карпарацыя «Стэнфард РБ інтэрнэшнл карпарэйшн». Фірмаў большае, а тавараў, як ні дзіўна, не прыбаўляецца, не з'яўляюцца новыя рабочыя месцы і не падаюць цэны. Чаму? Хто б заняўся гэтаю праблемай?

### ПРАВАКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Каля 23 гадзінаў 15 жніўня ў прыёмную Вярхоўнага Савета Беларусі патэлефанаваў нехта Алег Шакалаў і паведаміў, што на шэсць гадзін раніцы 16 жніўня рыхтуецца арышт Станіслава Шушкевіча і ўвядзенне ў краіне надзвычайнага становішча. Яшчэ адзін грамадзянін паведаміў пра гэта ж у міліцыю. Аднак, 16 жніўня нічога падобнага не здарылася. Кампетэнтныя органы, у тым ліку і КДБ, займаюцца высвятленнем абставін, пры якіх зроблены тэлефонныя званкі з папярэджаннем.

Кола дзён

Семінары

# БЕЛАРУСЬ, ГЕАПАЛІТЫКА

14 жніўня на чарговым сойма-вым семінары Беларускага народнага фронту ішла гаворка аб геапалітычным становішчы Беларусі ў мінулыя стагоддзі і сёння. З асноўнымі дакладамі выступілі — Анатоль Грыцкевіч /палітычная гісторыя Беларусі/, Генадзь Сагановіч /ваенная гісторыя/, Юрый Хадыка /ідэалагічны аспект геапалітыкі/.

А.Грыцкевіч нагадаў, што ўжо на самым пачатку беларускай дзяржаўнасці беларускія княствы, асабліва Полацкае, праводзілі актыўную міжнародную палітыку, але, як правіла, абмежаваную адным стратэгічным напрамкам. І толькі пачынаючы ад Міндоўга, ад утварэння Вялікага княства Літоўскага Беларусь /Літва/ пачынае моцна ўплываць на агульнаеўрапейскія і еўразійскія працэсы, аднachасова стрымліваючы агрэсіўныя памкненні ўсходняга суседа — Масковіі. Да падпарадкавання Вялікаму княству Літоўскаму схіляліся Ноўгарад, Пскоў, Разань, бо палітычны лад Літвы выгодна адрозніваўся ад Маскоўскай азіяцкага ўзору дэспатыі.

Княжэнне Вітаўта Вялікага — вышэйшая кропка ў беларускай /літоўскай/ палітычнай гісторыі. Потым пачынаецца эпоха грамадзянскіх войнаў і паступовай страты набыткаў папярэдніх стагоддзяў. Стратэгічная ініцыятыва пераходзіць да ворага Беларусі /Літвы/ — Масковіі, якая, вызваліўшыся ад татарскага панавання, але захаваўшы азіяцкі стыль ва ўнутранай і знешняй палітыцы, абвяшчае сябе «трэцім Рымам». Адпаведна валадары маскоўскія становяцца «гасударамі Усея Русі», а ў самім гэтым тытуле — тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы /Беларусі/.

У гэтых умовах Вялікае княства Літоўскае вымушана ісці на ўмацаванне дзяржаўнага саюзу з Польшчай. Як гаварылі літоўскія паслы на перамовах аб заключэнні уніі: «Мы прыехалі сюды, бо ў нас на плячах вор маскоўскі». Саюз з Польшчай не даў Беларусі нічога добрага, але гэта было меншае зло, чым маскоўскае панаванне. Знясіленая войнамі з Масквою краіна не здолела супрацьстаяць паланізацыі.

На думку навукоўца, «пачэсны пасад між народамі» Беларусь /Літва/ мела да ўтварэння Рэчы Паспалітай.

Генадзь Сагановіч мяркуе, што Вялікае княства Літоўскае не здолела супрацьстаяць Маскве, бо наша дзяржава, у адрозненне ад усходняга суседа, арыентавалася на еўрапейскія каштоўнасці, не ставіла вайну ў ранг палітыкі і не мела моцнай выканаўчай улады. Гаворачы сучаснай мовай «правы чалавека» ставіліся вышэй за правы нацыі і дзяржавы. Скажам, гетман Астрожскі, славуты пераможца ў бітве ля Воршы /1514 г./, юрыдычна будучы дыктатарам, не меў магчымасці пакараць смерцю шляхціца-дэзерціра. У Масковіі такіх праблем не было... Як жартам сказаў адзін з удзельнікаў семінара — «Давялі дэмакраты краіну...»

Юрый Хадыка распавядаў аб прынцыповым адрозненні ўсходняга і заходняга хрысціянства. І хоць мы больш практычныя, чым нашы продкі тысячу гадоў назад, рэлігійныя традыцыі і сёння ўплываюць на фармаванне палітычных дактрын найбольш уплывовых краін свету. Якія, скажыце, калі ласка, геапалітычныя інтарэсы Расіі ў Сербіі? Геаграфічна досыць далёка, але... адзіная рэлігія — хрысціянства ўсходняга абраду.

Управа БНФ мае намер і надалей ладзіць падобныя семінары і «круглыя сталы», прычым запрашаць да ўдзелу ў іх людзей з рознымі поглядамі.

**П.В.**




*Немагчыма выхаваць грамадзяніна суверэннай Беларусі на падручніках, выдадзеных у Савецкім Саюзе пры камуністычнай уладзе. Палітычныя змены апошніх гадоў павінны адлюстравацца і ў навучальных праграмах. Новы час у нейкай ступені адчуваецца ў новых падручніках для школ Беларусі. Найперш у падручніках па беларускай мове і літаратуры, гісторыі, геаграфіі. Выдавецтвам «Беларускі дом друку» зараз рыхтуецца да выхаду ў свет 27 назваў агульным накладам 1 мільён 700 тысяч асобнікаў для 4—11 класаў. А ўсяго плануецца надрукаваць 15 мільёнаў падручнікаў ста трыццаці назваў.*

*На здымку: паліграфічную якасць новых падручнікаў кантралюе інжынер-тэхнолаг Таццяна ВАЙТЭНКА*

*Фота А.МІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ*

Юбілей

# ХТО КАЛЕЧЫЦЬ, ТОЙ І ЛЕЧЫЦЬ

***Даволі пышна і гучна адзначыў сваё 35-годдзе Наваполацк. Якімі толькі словамі не называлі яго за гэтыя гады нашы браты-журналісты! І малады, і прыгожы, і белакаменны, і горад вялікай хіміі, і жамчужына, і горад-казка, і г.д., і г.д. У другой палове 80-х прыгожыя эпітэты прыціхлі, а на вуліцы горада выйшлі навапалачане з лозунгамі накшталт: «Выратуем нашых дзяцей!», «Мы задыхаемся», «Нас душыць вялікая хімія!».***

Акцэнты ў газетах змяніліся, то там, то тут пачалі пісаць пра пастаянныя дымы над Наваполацкам, пра тое, што на самым пачатку будаўніцтва горада не была ўлічана ружа вятроў, пра аварыі на наваполацкіх гігантах, пра рост алергічных захворванняў, пра тое, што на лецішчы паблізу горада вырастае небяспечная гародніна...

Чалавек, як вядома, можа прывыкнуць да ўсяго. Да хвароб і бедаў — таксама. Памятаю, як некалькі гадоў назад у адзін з хлюпотных зімовых вечароў на плошчу перад будынкам гаркама партыі /тады ён яшчэ быў/ і гарвыканкама выйшлі, селі на шэзлонгі пяць чалавек і абвясцілі аб сваёй галадоўцы. Сярод іх быў, дарэчы, і паэт Сяржук Сокалаў-Воюш. Гэта быў іх пратэст супраць пашырэння вытворчасці на заводзе бялкова-вітамінных канцэнтратаў, які з'яўляецца адным з асноўных «пастаўшчыкоў» алергіі для гараджан.

Галадоўка скончылася нічым, калі не лічыць інтэрв'ю ў мясцовай газеце першага сакратара гаркама КПБ, у якім ён бедаваў, што вельмі заняты агульнагарадскімі справамі, а то і сам і не адмовіўся б пагаладаць: для здароўя, маўляў, карысна. Ды ліха з ім, з былым першым. Ён паспяхова наладзіў сваё жыццё-быццё ўдалечыні ад Наваполацка, дарэчы, як і большасць былых кіраўнікоў горада /даўно заўважана, што Наваполацк з'яўляецца надзейнай стартавай пляцоўкай для тых, хто робіць службовую кар'еру/. У маю памяць з тае падзеі ўрэзалася іншае: многія навапалачане папракалі галадоўшчыкаў за іхнюю акцыю. Памятаю, як адна жанчына, якая была на прыкметным падпітку, літаральна лямантавала .над іхнімі панурымі галовамі /скончваліся другія суткі галадоўкі/: «Чаго вы тут, лайдакі, расселіся? Ішлі б лепей ды працавалі! Я вунь калі працую як трэба на НПЗ, дык усё маю. Вунь боты нядаўна на заводзе новыя купіла! А што мы будзем рабіць, калі нашы заводы пазачыняюць?» Самае горкае, што тая п'янаватая жанчына ў новых ботах як у ваду глядзела. Прайшоў час — і ў Наваполацку амаль ніхто ўжо не ўспамінае пра тыя падзеі і пра рух «зялёных», пра тыя мітынгі і патрабаванні. Над горадам пастурова навісае новая праблема — скарачэнне вытворчасці прамысловых прадпрыемстваў, а значыць і... «Што мы будзем рабіць, калі нашы заводы пазачыняюць?» — уз-

Кола дзён

# НЕ ШАНУЮЦЬ УЛАДЫ «ПАГОНЮ»

У сакавіку мінулага года наша газета змясціла на першай паласе інфармацыю пра тое, што скульптар Валянцін Занковіч працуе над рэльефам Дзяржаўнага герба, які неўзабаве ўпрыгожыць фасад будынка Вярхоўнага Савета Беларусі /раней тут месціўся ЦК КПБ/. Калі ўсё залежала толькі ад мастака, так бы яно і было. Але не атрымалася «неўзабаве», бо не шануюць нашыя ўлады «Пагоню», усё спадзяюцца, што вернецца Савецкі Саюз з «серпом-молатом». Толькі гэтым можна растлумачыць, чаму выключнай важнасці дзяржаўны заказ выконваецца так марудна.

Дык вось, нягледзячы на штучныя перашкоды, праца завершана, рэльеф герба гатовы. Цяпер яго ніяк не забяруць з ліцейнага цэха ў Калядзічах. Не здзіўлюся, калі герб адтуль, нягледзячы на ахову, кудысьці знікне: калі ніхто «не заўважыў», як побач з Домам урада ў ноч з 8 на 9 верасня мінулага года злачынцы спалілі велізарны бел-чырвона-белы сцяг — дык нельга выключыць і такое.

Кажуць, няма грошай на транспарціроўку і мантаж. На «серп-молот» знайшлося б! Дарэчы, на флагштоку Дзяржаўнага сцяга, што над будынкам Вярхоўнага Савета, дагэтуль замест афіцыйна зацверджанага наверша з шасціканцовым крыжам «Пагоні» — пяцікутная зорка. Таксама няма грошай, каб замяніць. Пяцікутная зорка дагэтуль не знята з фасада будынка Міністэрства абароны. Калісь яна была чырвоная, цяпер ад часу пабялела і стала падобнай на зорку амерыканскага сцяга. Зняць яе ў генералаў рукі не падымаюцца, а зноў фарбаваць у чырвань баяцца. Так і жывуць постсавецкія генералы пад двухсэнсоўнай эмблемай.

**В.БОГУШ**

# УЛАДА, ДЗЯРЖАЎНАЯ І МЯСЦОВАЯ

Споўніўся год, як Беларускі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ /Фонд імя Льва Сапегі/ афіцыйна зарэгістраваны. З гэтай нагоды 14 жніўня ў Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя, а потым — арганізацыйна-метадычны семінар Фонду. На семінары абмяркоўвалася дзейнасць за апошні час і надзённыя праблемы.

Асаблівая ўвага была нададзена пытанням мясцовага самакіравання на Беларусі, узаемаадносінам цэнтральнай і мясцовых уладаў.

Зараз у Канстытуцыйнай камісіі знаходзіцца некалькі варыянтаў закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні. Дэмакратычнымі сіламі прапанаваны праект закона, які прадугледжвае раздзяленне кампетэнцыі дзяржаўных і мясцовых органаў кіравання. Гэтую ж ідэю падтрымлівае і Фонд.

Ёсць варыянт Саўміна, які фактычна пазбаўляе мясцовае кіраўніцтва ўсялякай ініцыятывы, палітычнай альбо эканамічнай, ставіць яго ў залежнасць ад цэнтра. Старшыня мясцовай адміністрацыі, згодна гэтай прапанове, будзе найперш адказны не перад мясцовым людам, а перад вышэйшым начальствам.

Ёсць варыянт самой камісіі, ён кампрамісны, але і ў ім дамінуе саўмінаўская думка. А яшчэ ёсць прапановы ўвогуле нічога не мяняць.

На думку кіраўніцтва Фонду, развіццё дэмакратыі і цывілізаванай эканомікі магчыма толькі пры ўмове падзелу размежавання функцый цэнтральнай і мясцовай уладаў, заканадаўча акрэсленай кампетэнцыі той і другой.

Сваю заканадаўчую прапанову Фонд імя Льва Сапегі накіраваў у Вярхоўны Савет.

**НАШ КАР.**

# ПІЦЕ ПІВА ПЕННАЕ...

14 жніўня ў Доме літаратара праходзіў устаноўчы з'езд Партыі аматараў піва /ПАП/. Як мае быць, на з'ездзе быў прыняты статут і абраны кіруючыя органы. Згодна статуту ПАП — «палітычная партыя ліберальнай арыентацыі парламенцкага тыпу, мэтай якой з'яўляецца рэалізацыя ўласнай Праграмнай Дэкларацыі, якая з'яўляецца яе ідэйнай асновай, шляхам удзелу ў фарміраванні органаў дзяржаўнай улады Беларусі».

Яшчэ фактычна няма партыі, але ўжо ў наяўнасці пагроза расколу ў яе шэрагах. Пакуль асноўная маса дэлегатаў галасавала ў зале за статут, побач, у фае група патэнцыяльных раскольнікаў абмяркоўвала ідэю стварэння ў Партыі аматараў піва фракцыю аматараў гарэлкі. Выказваліся меркаванні, што фракцыя з часам магла б стаць самастойнай палітычнай партыяй і павесці за сабою народ. Хто іх ведае... Але спадары фракцыянеры не бяруць да ўвагі тую акалічнасць, што «партыя гарэлкі» /дакладней, таннай гарэлкі/ у палітычным спектры Беларусі ўжо ёсць. Гэта Партыя камуністаў Беларусі ПКБ /КПСС/. Яе асноўны лозунг — «Пры камуністах было што выпіць і чым закусіць!» А чаго, уласна кажучы, чакаць ад партыі, якая бярэ свой пачатак ад «маёвак» /тыя ж п'янкі, толькі пад чырвоным сцягам/.

Цяпер, калі на Беларусі ёсць партыя і аматараў марксізму /ПКБ/, і аматараў піва /ПАП/ — мабыць, на чарзе утварэнне палітычных партыяў балельшчыкаў мінскага «Дынама» і аматараў спеваў Алы Пугачовай.

**В.Б.**

гадваецца лямант той жанчыны. У горадзе няма іншай прамысловасці. Гэтая небяспека навісла перш-наперш над заводам «Вымяральнік» /яго тут за ахрысцілі «выміральнікам»/, а гэты завод, дарэчы, найменш шкодны ў экалагічных адносінах для навапалачан. Нядаўна падобная ж небяспека навісла над легендарным заводам БВК, усё больш і больш трывожыць кіраўнікоў і горада, і рэспублікі працоўны рытм на ВА «Нафтан».

У Наваполацку цяпер бядуюць над лёсам гігантаў не толькі тыя, хто зарабляе на іх грошы, дарэчы, пакуль што неблагія, але і тыя, хто, здавалася б, не мае да іх ніякага дачынення. Бо хто не разумее, што калі лясне нашы волаты, то некаму будзе пабудаваць школу, якая ўжо цяпер патрэбна пазарэз, некаму будзе падкінуць грошай на рамонт установ культуры, некаму будзе ўзяць пад сваё крыло медыцынскія ўстановы, некаму будзе ўтрымліваць дзіцячыя садкі... Гэткія вось парадоксы горада вялікай хіміі: хто калечыць, той і лечыць. Той і апранае. Той і абувае. Той і корміць.

Валянціна Аколава некалі ў адным з вершаў пісала: «НПЗ, «Палімір», БВК — якты песні». Не спяваюцца нешта гэтыя песні... Вытворчасць скарачаецца, а не заўважна, каб меншала лёгачных захворванняў. Алергацэнтр /ці шмат горадоў пахваляцца гэткай устано-вай?/, на жаль, не пустуе. Ніхто не аспрэчвае, што вылечыць звычайную прастуду ў Наваполацку значна цяжэй чымсьці ў іншым горадзе, не кажучы пра вёску. І, пад'язджаючы ўвечары да горада, здалёк убачыш, як над ім паўзе чорны і доўгі шлейф дыму. У прыезджых гэтае відовішча выклікае мурашкі на скуры, а для навапалачан яно азначае, што горад жыве і працуе.

З усімі гэтымі праблемамі і сустрэў Наваполацк сваё 35-годдзе. Не скажаш, што дата надта круглая, але для трохдзённага святкавання палічылі дастатковай. Шмат гасцей, шмат самых розных мерапрыемстваў: ад мітынгу ля помніка першай палатцы да выставак катоў і сабак. Дарэчы, над галовамі ветэранаў будоўлі ў часе мітынгу чамусьці калыхаліся сцягі дзвюх неіснуючых дзяржаў — СССР і БССР. У часе святкавання было шмат сустрэч, успамінаў, гасцінаў. На адной з гэткіх сустрэч былыя камсамольскія сакратары бедавалі, што перабралася ў Наваполацку сувязь пакаленняў, бо ў горадзе цяпер няма не тое што камсамольскай арганізацыі, але нават і СБМ. Іхняя крыўда зразумелая: горад жа некалі быў аб'яўлены ўдарнай камсамольскай будоўляй, а цяпер — на табе! Па праўдзе кажучы, добра не ведаю, але, здаецца, СБМ у Наваполацку арганізоўваўся... Можа, проста былі занятыя другімі справамі, таму і не прыйшлі на сустрэчу са сваімі папярэднікамі.

Але, напэўна, гасцей, сярод якіх было шмат і былых першых кіраўнікоў горада, супакоіла тое, што не ўсе традыцыі ў Наваполацку загінулі. Напрыклад, карнавал падчас юбілею. Нібы з нетраў мінулых дзесяцігоддзяў выехалі на плошчу пудзілы кракадзілаў, мядзведзяў, цмокаў... А позна ўвечары — гуляць дык гуляць! — над горадам у вячэрнім небе ўзляцеў зіхатлівы і бясклапотны феерверк. Вясёлымі воклічамі яго вітаў вялікі натоўп навапалачан.

Так вось адшумела ды адмільгацела 35-годдзе над горадам вялікай хіміі, над горадам парадоксаў і кантрастаў. Адзін мой знаёмы былы навапалачанін знарок прыехаў на гэты юбілей з Менску, каб паглядзець матч паміж ветэранамі менскага «Дынама» і мясцовай камандай «Нафтан». А другі мой знаёмы на маё пытанне, ці прыедзе ён з адпачынку на святы, абурыўся: «Яшчэ чаго! Што я вораг сваім лёгкім? Калі ёсць магчымасць не быць у Наваполацку, то трэба ў ім не быць». Можна зразумець і першага, і другога: першы прыязджае сюды як госць, а другому тут яшчэ жыць ды жыць. Пажадаем жа, каб ягонага здароўя хапіла не на адзін юбілей.

**І.ЖАРНАСЕК**

# ШЛЯХАМ ПАЎСТАННЯ

## ЗВАРОТ ДА МЯСЦОВЫХ УЛАДАЎ, УСТАНОВАЎ І АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

***Нацыянальны Аргкамітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 г. падрыхтаваў храналогію асноўных падзеяў змагання нашага народа за волю, роўнасць і незалежнасць:***




**24 красавіка** — вызваленне паўстанцкімі сіламі Вільні ад расейскіх акупантаў і ўтварэнне Найвышэйшае Рады Вялікага княства Літоўскага.

**7 траўня** — пераможная бітва паўстанцаў пад камандаваннем генерала Вялікага княства Літоўскага Якуба Ясінскага з расейскім аддзелам каля вёскі Паляны /цяпер Ашмянскі р-н/.

**9 траўня** — далучэнне насельнікаў Берасцейскага ваяводства да паўстання. Утварэнне ў Берасці мясцовага кіраўнічага органа — Парадкавай камісіі.

**27 траўня** — бітва з расейскім войскам пад Ліпнішкамі, за 12 км ад Іўя.

**12—16 чэрвеня** — баявы рэйд аддзела Міхала Клеафаса Агінскага на Меншчыне.

**13 чэрвеня** — вызваленне ад расейскіх войскаў Валожына.

**15 чэрвеня** — абвешчанне ў Івянцы М.К.Агінскім Звароту да грамадзянаў Менскага ваяводства.

**16 чэрвеня** — параза аддзела М.К.Агінскага пад Вішневам.

**26 чэрвеня** — бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам генерала Якуба Ясінскага з расейскімі аддзеламі пад Соламі, ля Смаргоні.

**2 жніўня** — сутычка паўстанцкага аддзела Караля Серакоўскага з расейскім корпусам каля Слоніма.

**1—13 жніўня** — рэйд двухтысячнага аддзела Міхала Клеафаса Агінскага з-пад Вільні праз Браслаўшчыну на Дынабург /цяпер Даўгаўпілс/, дзе да паўстанцаў далучыўся паўтысячны аддзел мясцовай шляхты і сялянаў на чале з генерал-маёрам К.Беліковічам.

**17 жніўня—4 верасня** — рэйд трохтысячнага атрада Стахвана Грабоўскага па Меншчыне і Магілёўшчыне /Івянец, Ракаў, Койданава, Свіслач, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, Глуск, Любань/.

**24 жніўня** — сутычка авангарда С.Грабоўскага на ракаўскім гасцінцы, у 10-ці вярстах ад Менска, з расейскім раз'ездам.

**26 жніўня** — вайсковая нарада ў Пухавічах, на якой вырашана ісці на паўднёвы ўсход Беларусі.

**30 жніўня** — вызваленне Бабруйска.

**4 верасня** — бітва з расейскім аддзелам пад Любанню.

**14 верасня** — сутычка паўстанцаў з авангардам Суворава пад Дывінам /цяпер Кобрынскі р-н/.

**15 верасня** — бой кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Казіміра Рушчыца з суворaўскімі аддзеламі ў Кобрыне.

**17 верасня** — найбуйнейшая бітва паўстанцаў пад камандаваннем Караля Серакоўскага з войскам Суворава каля Крупчыцаў /Кобрынскі р-н/.

**19 верасня** — вырашальная бітва пад Берасцем.

**30 верасня** — нарада кіраўнікоў паўстання — Якуба Ясінскага, Тамаша Ваўжэцкага, Юрыя Грабоўскага, Станіслава Макраноўскага пад старшынствам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі ў Каралеўскім палацы ў Гародні.

Аргкамітэт заклікае ўсе арганізацыі, установы, выканаўчыя ўлады і грамадзянаў Беларусі ўшанаваць памяць паўстанцаў, палеглых у баях за свабоду Бацькаўшчыны, — наданнем імёнаў паўстанцаў вуліцам і плошчам гарадоў і мястэчак Беларусі, усталяваннем памятных знакаў, табліцаў, помнікаў, праявядзеннем урачыстасцяў на месцах баёў і іншых падзеяў Паўстання, у родных мясцінах паўстанцаў; навуковых мерапрыемстваў, выставаў і г.д.

Аргкамітэтам ужо распачата праца па вырабе памятнага медаля; па падрыхтоўцы навуковай акадэміі, прысвечанай асэнсаванню падзеяў 200-гадовай мінуласці; канцэртаў па музычных творах Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх, ды Мацея Радзівіла, а таксама іншых навуковых, культурных, мемарыяльных акцыяў і мерапрыемстваў.

Аргкамітэт звяртаецца да Міністэрства інфармацыі і выдавецтва «Беларусь» з прапановаю паскорыць выданне кнігі «Паўстанне 1794 года на Беларусі», падрыхтаваць і выпусціць юбілейныя плакаты, паштоўкі, буклеты, выпмелы, іншыя выданні і значкі, а таксама да выдавецтва «Навука і тэхніка» паскорыць перавыданне кнігі пра Тадэвуша Касцюшку ў серыі «Нашы славутыя землякі».

Аргкамітэт мяркуе, што Міністэрства сувязі да 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года падрыхтуе і выпусціць канверты, паштоўкі і серыю марак на тэматыку Паўстання.

Справа гонару працоўных калектываў і ўстановаў, якія дагэтуль носяць імя Суворава /у Беларусі ў 35 гарадах і 24 мястэчках ёсць вуліцы імя Суворава/, разгледзець пытанне аб іх перайменаванні, бо менавіта гэты чалавек кіраваў расейскай арміяй, што задушыла паўстанне 1794 г. і нашую незалежнасць. Інакш як здзекам з народнай памяці нельга назваць існаванне Кобрынскага музея і Менскай сувораўскай вайсковай вучэльні, дзе й сёння ўслаўляецца «освободительная роль» і «наука побеждать» Суворава.

Аргкамітэт выказвае надзею, што святкаванне 200-х угодкаў вызвольнага паўстання ў Беларусі спрычыніцца да вяртання гістарычнай памяці нашага народа, згуртуе нас вакол святой справы адраджэння Бацькаўшчыны.

Для тых, хто жадае выступіць фундатарам мерапрыемстваў па святкаванні 200-х угодкаў вызвольнага паўстання на Беларусі, называем наш разліковы рахунак: 700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г.Менска. Код 763. Тэлефоны: 33-50-12, 32-54-46, 31-32-59. Адрас: 220005, Менск, вул.Варвашэні, 8.

**Нацыянальны Аргкамітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 г.**

Ліст з Мельбурна

# ЧЫЕ ДЗЕТКІ Ў АЎСТРАЛІІ?..

Клопатам беларусаў Аўстраліі, а менавіта арганізацый, якія згуртаваліся ў Федэральнай Радзе беларускіх арганізацый Аўстраліі, здаўна было яднанне ды пашырэнне сваёй культуры, звычаяў сярод англасаксонскага асяроддзя.

Але ўсё добра ніколі не бывае. На нашу шматпакутную Бацькаўшчыну зваліласа бяда — чарнобыльская катастрофа, якая знявечыла амаль больш як палову нашых зямель, а вялікая радыяцыя забрала і забірае і па сёння людзей, а найперш малых дзетак. Беларусы Аўстраліі не маглі застацца ўбаку. Выканаўчы камітэт Федэральнай Рады ствараe свой Чарнобыльскі фонд помачы пацярпелым. Большасць сурадзічаў адгукнуліся на заклік Рады і пачалі збіраць грошы, сабралі 37 тысяч долараў. За іх закупілі аднаразовыя шпрыцы, рэнтген-апарат, харчы, шакалад і ўсё гэта даставілі ў Гомельскую абласную дзіцячую бальніцу праз свайго пасланца. На гэтым нашая пачатая праца не скончылася.

Падхапіўшы ініцыятыву бацькоў, маладыя людзі пры Беларускай аўтакефальнай царкве /БАПЦ/ у горадзе Мельбурне робяць балі і іншыя імпрэзы. Карацей кажучы, Чарнобыльскі фонд дзейнічае. Акрамя гэтага, мы сталі думаць, каб да нас прывезлі дзяцей з чарнобыльскай забруджанай зоны, а менавіта з Гомельскай і Магілёўскай абласцей на аздараўленне. Але не так лёгка было наладзіць сувязь з фондам «Дзецям Чарнобыля». Нарэшце на наш запыт адгукнуўся спадар Г.Грушавы, але пры гэтым сказаў, што, маўляў, дзяцей прывезці можна, але для таго, каб іх прывезці і ўтрымліваць, трэба будуць вялікія грошы. А большасць з нас, беларусаў, у пажылым веку, усе пенсіянеры, і нам сказалі, што гэта будзе не пад сілу. Такім чынам, гэтая справа так і засталася нявырашанай, тым больш, што і ў прэсе, асабліва ў нямецкай, пачало пісацца нядобразычлівa пра спадара Грушавога.

І вось толькі паўгода назад наладжвае сувязь з выканаўчым камітэтам Федэральнай Рады нехта спадар Валеры Лісіцын, дырэктар, так бы мовіць, «ініцыятывы «Дзіцячы дыягнастычны цэнтр» горада Магілёва. Ён звязаўся па тэлефоне са старшынёй камітэта Федэральнай Рады спадаром А.Грушам і папрасіў, каб аўстралійскія беларусы заапекаваліся дзецьмі, якіх ён прывязе. А.Груша стаў каардынатарам гэтай справы і даў згоду на пятнаццаць дзяцей і двух праваднікоў на восем тыдняў з 1.4.93 па 27.5.93 года.

Людзі пажылога веку ад 68 да 75 гадоў адгукнуліся на гэтую справу і захацелі ўзяць у сваe сем'і дзяцей. Прыехала дзесяць чалавек: чатыры хлопчыкі і шэсць дзяўчынак ад 9 гадоў і старэй. У гэтай групе быў сам спадар Валеры Лісіцын, яго дачка і яго сын. Мы прыехалі на аэрадром спаткаць іх з беларускім нацыянальным сцягам, кветкамі, ласункамі. Але адразу на нас нагарнулася расчараванне, бо дзеці падаліся нейкімі, ну як бы адчужанымі ці, проста сказаць, ігнаравалі сваіх будучых апекуноў, у якіх яны меліся жыць восем тыдняў.

Ні адно дзіця не гаварыла аніводнага слова па-беларуску, а проста смяялася нам у вочы, што, маўляў, мы не будзем гаварыць на гэтай каравай мове. А сярод нас былі ўсе пажылыя людзі, якія не ведалі расейскай мовы, а некаторыя з іх, каб выратаваць сваю культуру і мову, пакінулі Бацькаўшчыну і на працягу 50 гадоў блукалі па свеце. А гэтыя дзеткі пачалі яшчэ наўмысна здзекавацца з нашай роднай мовы. Нам жа думалася: дапаможам нашым гаротным дзеткам чым толькі зможам. А тут дайшло нават да таго, што людзі не вытрывалі здзеку і трох дзяцей вымушаны былі адправіць назад да каардынатара.

Мы для іх наладжвалі ўсялякія экскурсіі па гістарычных мясцінах, музеях, вазілі на мора, у заалагічны сад, ездзілі на параходзе па тых месцах, куды прыехалі першыя пасяленцы ў Аўстралію, наладжвалі сустрэчы з грамадскасцю — усё для таго, каб паказаць больш цікавага. На пачастунку куплялася ўсё самае лепшае і разнастайнае, але ўсё гэта ім было не даспадобы. І што вельмі здзівіла, больш за ўсё ім падабалася гуляць у карты. Калі мы завезлі іх у царкву, то ніводнае дзіця не пастаяла хоць якіх пару мінут для прыліку. Потым, калі мы абследавалі гэтых дзяцей у спецыяльнай клініцы, то выявілася, што ніводнае з іх не мела радыяцыі. А праваднік на пытанне, навошта ж было везці за свет здаровых, а не малых і хворых, якія найперш чакаюць дапамогі, адказаў, што хворых няма чаго вазіць.

Пасля выявілася, што з гэтых дзетак некаторыя былі ўжо па два, а то і па тры разы ў розных краінах, а сам праваднік Валеры Лісіцын і яго сям'я другі раз у Аўстраліі, а з ім і дзеці багатых бацькоў. Як гэта можна рабіць такія вялікія выдаткі грошай з Чарнобыльскага фонду на здаровых дзяцей, а сапраўды хворыя дзеці, якім так патрэбна дапамога, застаюцца незаўважанымі? Думаецца, што сёння, калі ў Беларусі эканамічны разлад і больш як 250 тысяч цяжкахворых дзяцей, можна пасылаць сотню-другую лёгкахворых дзетак у так званыя былыя савецкія піянерскія лагеры ці санаторыі, якія чыстыя ад радыяцыі. Як нам стала вядома ад нашых суайчыннікаў з Светлагорска, нашы прадчуванні апраўдаліся. Дзеці, якіх мы ўлагоджвалі восем тыдняў, былі дзецьмі людзей, якія займаюць высокія пасады пры ўладзе. Былі выпадкі, што хворае дзіця, якое трапіла ў спіс і нават здало ўжо фотакарткі на пашпарт для выезду, падмянялася дзіцем дырэктара ці доктара. А тое беднае дзіця, якое згубіла матку ці бацьку ў чарнобыльскай катастрофе, так і застанецца на волю лёсу вісець у спісе.

Людзі, якія тут, за мяжой, прымаюць дзяцей з Беларусі, просяць нас, каб мы давялі да ведама ўрада Рэспублікі Беларусь, хто трапляе на аздараўленне за мяжу. Як жа можна на хворых дзецях рабіць нажыву?

Зноў жа вернемся да спадара Валерыя Лісіцына. Мы ведаем, што ён мяркуе ажыццявіць у наступным годзе новую задумку — прывесці 30 дзяцей на пяць месяцаў для навучання ў школах Аўстраліі. Цяпер ён ужо шукае каардынатара, каб правесці сваю задумку ў жыццё. Але хай ведае, што сярод аўстралійскіх беларусаў гэтая афёра ўжо не пройдзе, бо дзеці, якіх ён прывязе, будуць такія самыя, як і гэтыя. Што б ты добрае ні зрабіў таму дзіцёнку, ён табе не падзякуе, не падумае сказаць табе дабранач ці наогул якое ласкавае слова. Нават на аэрадроме, калі ад'язджалі, ніхто з іх не падышоў, не падзякаваў, а мы ж так шчыравалі ды накупілі ім падарункаў, стараліся, каб кожнае дзіцянё паехала з поўнымі валізкамі і добра адзетым.

Так што, дарагія суайчыннікі, калі будзеце ехаць за мяжу, то не думайце, што вы найлепшыя, найадукаванейшыя і найцывілізаваныя. Вас прымуць, як кажа народная прымаўка, па адзежцы, а праводзяць па розуму, а нас, старых беларусаў, вам не ўдасца вучыць русафізму і свае азіяцкае культуры, якую вам прывівалі мангольска-расейскія апрычнікі.

Жыве Беларусь і разам наш змагарны Народ!

**Паўлюк ДУБРОЎСКІ**
*Аўстралія, Мельбурн*

---

Ліст з Масквы

# БЕЛАРУСЫ ЎСЁ СЦЕРПЯЦЬ?

***Прыгадваю, міністр замежных спраў Краўчанка сказаў, што для беларусаў замежжа беларускія пасольствы гэта частка радзімы не толькі ў юрыдычным сэнсе. Можа, дэсьці і так, але пасольства Беларусі ў Маскве для нас чужына.***

Тут можна даведацца, што беларусаў не існуе, а Беларусь толькі вобласць Расеі. А аб тым, што беларускую мову трэба скасаваць, у адкрытую казаў сп.Любчык, заўгас, які тут вырашае за пасла ўсе пытанні. У тым ліку і кадравыя, а таму ад тутэйшых супрацоўнікаў даводзілася пачуць і «Забірайцеся на сваю Беларусь і там размаўляйце на сваёй шавіністычнай мове», і шмат чаго падобнага.

З нашым Маскоўскім таварыствам беларускае культуры пасольства не толькі ўнікае любых кантактаў. Яно імкнецца задушыць таварыства, якому без дзяржаўнае падтрымкі і так цяжка. У пасольстве мы атрымалі пакойчык пасля жнівеньскага путчу, калі Любчык дый іншыя яшчэ баяліся за свой лёс і таму выканалі загад Шушкевіча, каб нам далі памяшканне. А потым сп.Любчык загадаў, каб таварыства вымяталася прэч. А на пратэсты адказаў у тым сэнсе, што беларусы народ пакорлівы, сцерпяць.

Але, зразумеўшы, што такое нахабства пакуль перадчаснае, ён вырашыў таварыства з памяшкання проста выжыць. З гэтага пакоя ён зрабіў сховішча, дзе прыхаваў мэблі, упакаваныя халадзільнікі і рознае смецце. Але галоўным чынам там былі медычныя прылады, ахвяраваныя іншаземцамі для Чарнобыльскае дзіцячае лякарні. І больш за паўгады яны ляжалі ў спякоце, дзе нават лекарскія гумовыя пальчаткі пачынаюць псавацца. Гэта лагічна і сімвалічна: калі ціхутка дапамагаеш знішчэнню беларускае культуры, то гэта трэба аб'яднаць з фізічным вынішчэннем народа. А беларусы сцерпяць, яны рахманыя.

Аб гэтым мы распавядалі не толькі на з'ездзе беларусаў свету. Размаўлялі і з самім сп.Краўчанкам. Вынікаў дачакаліся хутка: адразу пасля вяртання нашае дэлегацыі пасол сп.Даніленка загадаў, каб нас да гэтага пакоя болей не пускалі. Рэакцыя, прадказальная для кожнага, знаёмага з савецкімі звычаямі. А на наступны тыдзень ён прызначыў сустрэчу з прадстаўнікамі беларускае дыяспары.

Я быў на гэтай сустрэчы. Мне яна падалася дзіўнаю. Пачалася яна з прамовы аднаго з нас. Ён казаў у тым ліку і аб тым, што пасольства Беларусі ў Кыргызстане зрабілася душою беларускае дыяспары, і чаму бы сп.Даніленку не пайсці за гэтым прыкладам і не супрацоўнічаць з таварыствам?

Але сп.Даніленка размаўляе толькі па-расейску. А таму баюся, што з усёй прамовы ён зразумеў адзіна тое, што з ім размаўляюць рахмана. Значыць, яго рэакцыя зноў была прадказальная. Пераважна гэта быў крык прыблізна такога зместу: ён чалавек жорсткі, з ім размова кароткая! І маскоўскім беларусам тут няма чаго рабіць! І хай яны скардзяцца Краўчанку, Кебічу, усё роўна каму! Гэта дыпламатычная ўстанова, дзе не можа быць месца для розных таварыстваў! У дадатку, Беларусь краіна талерантная! Нацыянальныя спрэчкі тут не патрэбныя! І таварыства не мае права абражаць тут людзей беларускаю моваю! Бо гэта пасольства Беларусі!

Хаця ўсё тут болей нагадвае правінцыйную гаспадарчую кантору. А пасольствы краін былога Саюза, якія і выглядаюць як сапраўдныя пасольствы, лічаць гонарам для сябе трымаць пад сваім дахам культурныя арганізацыі сваіх дыяспар. Але ў логіцы сп.паслу не адмовіш. Беларусь жа краіна асаблівая! Тое, што іншыя народы лічаць ганебным, беларусы абавязаныя ўспрымаць як натуральнае. Свабоднаму чалавеку плююць у твар, і ён абражаецца. А вось нявольнік гэтага і не заўважыць. Звык.

У адказ жа на нашыя пытанні сп. Даніленка чамусьці даваў да нас інфармацыю аб тым, што Віцебскі савет нядаўна прыняў рашэнне далучыцца да Расеі. Сэнс гэтае заявы для нас застаўся незразумелы.

Аб скрынках жа з чарнобыльскаю дапамогаю ён сказаў, што адвезці іх на Беларусь не было магчымасці, бо кожнае месца ў самалёце каштуе шмат грошай. Хаця хапіла б аднаго грузавіка. А спадарыня, выконваючая абавязкі радцы па культурных справах, тут жа растлумачыла, што беларускую гімназію пры пасольстве, пытанне аб якой ужо ўзгоднена з Міністэрствам адукацыі, адкрыць немагчыма, бо ўсе сродкі патрэбныя для ліквідацыі наступстваў Чарнобыля. Хаця вядома, што народ, страціўшы сваю культуру, робіцца вечным жабраком, што для беларусаў было б смерцю ў фізічным сэнсе.

А пасля сустрэчы выявілася, што скрынкі з дапамогаю з пакоя зніклі. Застаецца спадзявацца, што іх сапраўды адаслалі да менскае анкалагічнае лякарні, як нам гэта сказалі.

Зрэшты, сп.Даніленка ўсё ж дазволіў таварыству паіснаваць тут яшчэ крыху і паабяцаў дапамагчы ў адкрыцці гімназіі. Але падалося, што ён так і не зразумеў, што гэта такое. Абодва бакі сустрэчаю засталіся незадаволеныя. Уражанне склалася кепскае. Чужынцамі мы тут былі, чужынцамі і застанёмся.

А таму, калі сюды трапіце, то нічому не здзіўляйцеся. Памятайце, што Вы беларус, ці то чалавек рахманы, паслухмяны, пакорлівы, які нарадзіўся ўжо ўкленчаным. Чыя мова ёсць ганебным кляймом барбарства і вясковае цемрадзі. Не прымушайце, каб у Вашым жа пасольстве аб гэтым Вам нагадалі працоўныя тут грамадзяне іншае дзяржавы. Ведайце сваё месца, і душа Вашая застанецца спакойнаю. «Благостною».

**Віктусь ІВАНОЎ**
*г.Масква*

**P.S.На выпадак, калі гэтая гісторыя падалася бы камусьці неверагоднаю, мы маем магнітафонны запіс таго, што адбывалася на сустрэчы са сп. Даніленкам.**

---

Ліст з Беластока

# ТО БЫЎ ПАКЛЁП

Шаноўны спадар Рэдактар!

У 24 нумары Вашага часопіса ад 18 чэрвеня 1993 г. Алесь Чобат з Гародні напісаў пра мяне. З аднаго боку, мне вельмі прыемна, што маё скромнае прозвішча знайшлося побач з пані польскай прэм'ер-міністрам, з другога — спадар Чобат, невядома чаму, хлусіць ад пачатку да канца. Я палемізаваць з ім не стану, паколькі гэты пан, пэўна, і не чуў пра журналісцкую этыку. З вялікай пашанай адношуся я да Вашага тыднёвіка, і таму некалькі слоў хачу сказаць пра сябе. Тут, на Беласточчыне мяне ўсе добра ведаюць і паклёпы спадара Чобата мне не перашкаджаюць. Ёсць у мяне, аднак, сябры і знаёмыя з другога боку мяжы, і перш за ўсё пішу да іх.

Я працую журналістам ужо 25 гадоў і амаль праз увесь гэты час займаюся беларускай праблематыкай, вяду перадачы на беларускай мове ў Радыё Беласток. Можа, не выпадае хваліцца, але гэта між іншым дзякуючы і мне ў нас у эфір штодзень ідзе перадача «Пад знакам Пагоні».

Спадар Чобат, невядома чаму, «прышыў» мне Маскву /маскоўскае выхаванне/. Ніколі я ў Маскве не вучыўся, а два разы быў там як турыст. Нарадзіўся я ў Берасці ў 1942 годзе і да 1958 быў грамадзянінам БССР. Скончыў я 9 класаў савецкай школы, у якой мы тады яшчэ крыху вывучалі беларускую мову. Потым з усёй сям'ёй пераехалі мы ў Польшчу. У 1968 годзе я пісаў магістэрскую дысертацыю пра Цішку Гартнага, і тады мне першы раз давялося пабываць у Менску, каб збіраць матэрыялы. Дапамагаў мне ў гэтым прафесар Сцяпан Александровіч. У 1969 годзе закончыў Варшаўскі універсітэт на аддзяленні беларускай філалогіі і адразу распачаў працу ў беластоцкім радыё. У Гародні нас добра чуваць, і спадар Чобат даскапала аб гэтым усім ведае.

У лістападзе мінулага года, сапраўды, я быў у Гародні. Спадар Чобат ахвяраваў мне нават пасяброўску зборнік сваіх вершаў. Сапраўды, мы паехалі па слядах Ажэшкі, але, заўважце, я прасіў, каб пра Арэшчыцу гаварылі мне беларускія паэты, а не нехта іншы. Затым, не прывык я з беларускімі паэтамі гаварыць па-польску /хіба што іх запісваю для польскай перадачы/.

Спадару Чобату, здаецца, шампанскае змуціла розум. Ён усё пераблытаў. Я знаходжуся ў лепшай сітуацыі, бо нашыя размовы запісаў я на магнітафонную стужку і зрабіў дзве цікавыя перадачы, адну на польскай, другую на беларускай мовах. Частка матэрыялу не магла пайсці ў эфір, асабліва тое, дзе спадар Чобат гаварыў пра польскі ўрад і палякаў увогуле. Невядома чаму, гэты «беларускі нацыяналіст» пагражаў нават савецкімі танкамі. У мяне захавалася стужка з запісам. Калі хто б зацікавіўся, магу яе дасласць. Спадар Чобат ганарыцца, між іншым, сваім дыпломам інжынерскім. Кепскі з яго, мусіць, і інжынер, бо сёння нават кожнае дзіцё ведае, што магнітафон можа працаваць і на батарэйках, калі інжынер адключыць яго ад току.

Беларусь і беларусаў я ведаю ад дзяцінства. Па жонцы ў мяне шмат сваякоў на Гайнаўшчыне. Дасканала ведаю беларускую гасціннасць. Кожнае выключэнне толькі падмацоўвае прынцып. Шкада толькі, што ў невядомых для мяне мэтах нехта выкарыстаў Ваш часопіс.

З павагай —

**Станіслаў ПАЗНАНСКІ**
*г.Беласток*

# «ПРАЦАВАЦЬ З ІМКНЕННЕМ ДА ВЫШЭЙШАГА»



## ГУТАРКА НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА СА СТАРШЫНЁЙ РАДЫ ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ГАННАЙ СУРМАЧ

**— Спадарыня Сурмач, ці было для вас абранне на пасаду старшыні Рады ЗБС нечаканасцю?**

— Не, не было. Але не ў тым сэнсе, што я занадта самаўпэўненая. Працуючы над падрыхтоўкай з'езда, я разумела, што такое пытанне можа ўзнікнуць, раз ужо давялося выйсці на пярэднія пазіцыі ў гэтай справе. Але мне не было калі думаць пра гэта, бо для мяне найважней было добра зрабіць справу. А да ўсялякіх пасад я стаўлюся, найперш, як да выніку працы. Права на іх трэба спачатку заслужыць — тады ўсё ідзе натуральным шляхам. Прызнацца, мяне нават палохала такая перспектыва. Я больш думаю пра адказнасць. А праца старшыні Рады ЗБС «Бацькаўшчына» мне ўяўляецца надзвычай адказнай і, думаю, складанай, бо такога вопыту мы яшчэ не маем, у адрозненне ад другіх народаў, якія ўжо даўно зразумелі неабходнасць супрацоўніцтва са сваёй дыяспарай. Давядзецца спадзявацца пакуль што на ўласны вопыт, здабыты ў прафесійнай працы, а таксама ў грамадскай дзейнасці.

**— ЗБС «Бацькаўшчына», як вядома, арганізацыя грамадска-культурная, а не палітычная. Ці можна сказаць, што пытанні сучаснай палітыкі вас зусім не тычацца? Як наогул вы ставіцеся да палітыкі?**

— Што такое палітыка — гэта найперш барацьба за ўладу. За яе набыццё, ці ўтрыманне. «Бацькаўшчына» гэтымі мэтамі не турбуецца і ніколі іх не ставіла. Мэты, што мы вызначылі для сябе, могуць цікавіць **усіх**, кожнага прадстаўніка нацыі. Гэта тое, што стаіць вышэй за палітыку — нацыянальны ці жыццёвы інтарэс нацыі. Але складанасць у тым, што нацыянальны інтарэс цесна пераплецены з ідэяй нацыянальнай дзяржаўнасці. Свая дзяржаўнасць стварае найлепшыя ўмовы для існавання і развіцця нацыі. Адсутнасць яе можа стацца драмаю для народа. Паглядзіце, сёння мы апынуліся ў такім цяжкім эканамічным стане, асабліва інтэлігенцыя, бо працавалі не на сваю дзяржаву, а на іншую, на былую савецкую імперыю. Мы нічога не маем. Куды ўкладзена наша праца на працягу дзесяцігоддзяў? Такім чынам, наш агульнанацыянальны інтарэс — адбудова нацыянальнай беларускай дзяржаўнасці, дзе дзяржава будзе клапаціцца пра грамадзян, а грамадзяне, у сваю чаргу, будуць шанаваць і давяраць сваёй дзяржаве. Нам патрэбна дзяржава, якая будзе апорай для ўсіх беларусаў у свеце, дзе б яны ні жылі. І ўсё гэта звязана з палітыкай. У такіх суадносінах нас і цікавіць сучасная палітыка. Але мы ў сваёй працы арыентуемся на выкарыстанне непалітычных сродкаў — культурна-асветная праца, спрыянне нацыянальнаму адраджэнню.

### МАНАЛОГ У ДЫЯЛОГУ

*«Мая сапраўдная адукацыя як гісторыка адбылася ў архівах. Бо архівы — крыніца інфармацыі пра мінулае і пра сучаснасць... Інфармацыя ў сучасным свеце з'яўляецца матэрыяльнай сілай, і хто валодае інфармацыяй - той валодае магчымасцямі. Такім чынам, архіўная служба дае доступ да інфармацыі, грамадская дзейнасць — дазваляе арыентавацца ў палітычнай сітуацыі. І вельмі важны яшчэ вопыт адміністратара, бо ён дапамагае рацыянальна і эфектыўна арганізоўваць працу і дасягаць сваёй мэты. Акрамя таго, працуючы ў архівах, засвойваеш асновы навукі кіравання, справаводства, пачынаеш арыентавацца ў сістэме дзяржаўнага кіравання.*

*У застойныя гады архівы захоўвалі аб'ектыўную інфармацыю пра «пабудову сацыялізму»: працуючы з рознымі дакументамі, мы пераконваліся, што ў сапраўднасці робіцца зусім не тое, пра што піша друк... Але асабліва паўплывала на маё станаўленне праца ў архіве літаратуры і мастацтва. Тут захоўваецца дакументацыя, звязаная з творчым патэнцыялам нацыі. Творчая інтэлігенцыя — гэта людзі найбольш развітай думкі, неардынарнага мыслення. У нас захоўваюцца таксама дакументы перыяду беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя, сярод іх — архіў рэдакцыі «Нашай Нівы», дакументы Віленскага беларускага музея імя І.Луцкевіча. Архіў «НН» быў доўгі час засакрэчаны. Калі я, дзяржаўны чыноўнік, захавальнік «сакрэтаў», паглядзела, якія там пісьмы, як людзі пісалі, як думалі, у мяне ўзнікла недаўменне: чаму ж гэтая газета закрытая ад людзей, яе ж трэба ўсім паказаць... Калі я сутыкнулася з такой супярэчнасцю, пачала шукаць іншыя дакументы, вывучаць гісторыю адраджэнскага руху. Пазнаёмілася з дзейнасцю такіх адданых беларускай справе людзей, як браты Луцкевічы, Ластоўскі і інш. Затым я ўбачыла, што побач са мною ёсць людзі, якія думаюць гэтак жа, як і я, якія знайшлі адказы на пытанні. Гэта падштурхнула да грамадскай дзейнасці, да чаго я ўвогуле схільная. Маё асабістае нацыянальнае ўсведамленне, такім чынам, развівалася сваім шляхам, індывідуальна, але яно супала з агульным развіццём палітычных падзей у другой палове 80-х гадоў, з пачаткам новага беларускага адраджэння. Памятаю, як мяне здзіўляла афіцыёзная крытыка першых праграмных дакументаў БНФ, абвінавачванне ў іх адарванасці ад жыцця. Мне ў іх было зразумелае кожнае слова, бо яны грунтаваліся на ідэях беларускага адраджэнскага руху...»*

*Нарадзілася і вырасла Ганна Іванаўна Сурмач у вёсцы Пацэвічы Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыла гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта і з таго часу працуе ў сістэме дзяржаўнай архіўнай службы. Апошнія 11 год — дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. У рабоце Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» прымае ўдзел ад пачатку заснавання арганізацыі ўвосень 1990 года; на Першым з'ездзе беларусаў свету ў ліпені г.г. абрана старшынёй Рады ЗБС. Удзельнічае таксама ў жаночым руху Беларусі. Выхоўвае сына.*

### МАНАЛОГ У ДЫЯЛОГУ

*«Мы пераконваемся, што голас крыві — ці не наймацнейшая аб'ядноўваючая сіла. Падзеі, што адбываюцца ў свеце, паказваюць, што ў міжнародных адносінах пачынаюць праяўляцца і дамінаваць працэсы нацыянальнай кансалідацыі. Распаліся імперыі, народы хочуць жыць уласным розумам. Свет, створаны Вышэйшым Розумам, павінен спакваля асэнсаваць, што місія кожнага і чалавека, і народа — быць самім сабой. І чалавецтва — я ўпэўнена — вяртаецца і вернецца да гэтага перакanання.*

*Скажам так: ніхто не зможа пакіраваць табой лепш, чым ты сам гэта зробіш.*

*Усе мы спрычынены да гэтага працэсу, і ўсё, што адбываецца ў Беларусі, можна разглядаць, зыходзячы з такога бачання свету».*

**— Тады, можа, варта вызначыць дзейнасць, скіраваную на нацыянальнае згуртаванне /ва ўсім свеце, і ў Беларусі таксама/, як — вышэйшы ўзровень палітыкі альбо як палітыку ў «шырокім» сэнсе слова?**

— Я б сказала ў «высокім» сэнсе слова. Звычайна палітыка цяжка стасуецца з маральнасцю. Палітыка — гэта зброя для дасягнення мэты, у тым ліку і для дасягнення нацыянальнага інтарэсу. Калісьці сродкам забеспячэння супольнага інтарэсу былі племя, абшчына і г.д. Зараз такім сродкам з'яўляецца дзяржава. Таму мы падтрымліваем такую палітыку, якая высокамаральная і скіравана на нацыянальны інтарэс. Але яшчэ раз хачу падкрэсліць, што пад нацыянальным інтарэсам я разумею жыццёвы інтарэс нацыі, зыходзячы з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцей і права кожнага народа на існаванне ў свеце нароўні з іншымі, а не за кошт іншых.

**— Працэс аб'яднання беларускай нацыі выклікае ў некаторых колах грамадства і негатыўную рэакцыю, гучаць абвінавачванні ў нацыяналізме. Некаторыя нават бачаць тут падабенства да сіяніцкага руху. Ці пагадзіліся б вы з такім вызначэннем.**

— Ні ў якім разе.

Тым, хто схільны бачыць у нашых дзеяннях праявы нацыяналізму, можна нагадаць класічнае вызначэнне нацыяналізму — як непавагі да іншых народаў і ўзвышэнне свайго перад усімі. Мы ж стаім на тым, што хочам паважаць сябе і іншых аднолькава.

У параўнанні з сіяніцкім рухам таксама не бачу аналогіі. Сіяніцкі рух мае свае нацыянальныя інтарэсы. Але іх прырода, скажам так, занадта адрозная ад беларускай, гісторыя іх паходжання зусім не падобная. Сіяніцкі рух адлюстроўвае інтарэсы нацыі, якая рассеяна па свеце і якая толькі з 1947 года атрымала кавалак зямлі, на якім змагла стварыць сваю дзяржаву. У нас жа зусім іншая сітуацыя. Мы здавён мелі сваю тэрыторыю і дзяржаўнасць і страцілі апошнюю толькі на працягу двух стагоддзяў. Адсюль — розныя ўмовы нацыянальнага існавання, розныя гістарычныя мэты. Для сусветнага яўрэйства цяжка прымяніць паняцце «дыяспара»: рассеянне па свеце — у пэўным сэнсе натуральная форма яго існавання і пражыцця; беларуская ж дыяспара стваралася так, як і ў іншых народаў, якія мелі раней сваю дзяржаўнасць, — найперш натуральныя міграцыйныя працэсы. Але ёсць і асаблівасці — масавыя плыні прымусовай эміграцыі, звязаныя са стратай сваёй дзяржавы; палітычная эміграцыя пасля разгрому паўстанняў, у час войнаў, і эканамічная — бо край не забяспечваў матэрыяльнага дабрабыту. У гэтым заключаецца драматызм беларускай эміграцыі. Драматычна і тое, што паміж Беларуссю і яе дыяспарай не было адзінства, а часам існавала і варожасць. Таму не было згуртаванасці, якая характэрна для яўрэйскага руху. Цяпер жа, калі мы аб'ядноўваемся, то найперш дзеля адбудовы сваёй дзяржавы, а не для замацавання сваіх пазіцый у краінах, дзе жывуць беларусы. Таму для нашага руху характэрна адкрытасць.

**— А вам не здаецца, што гістарычныя і сучасныя няўдачы беларускага палітычнага руху ў многім абумоўлены якраз яго залішняй адкрытасцю, у той час як у гісторыі іншых народаў, некаторых нашых суседзяў, таксама важную ролю адыгралі такія з'явы, як таемныя таварыствы і да т.п.?**

— Згодна з вамі ў тым, што ў патаемнасці ёсць свая сіла, але ў ёй ёсць і слабасць з маральнага боку. Гэта якраз тое несупадзенне палітыкі з мараллю. Я, аднак, лічу, што ў свеце сёння адбываюцца падзеі, якія прывядуць да таго, што гэтыя паняцці — палітыка і мараль — такія несумяшчальныя сёння, стануць сумяшчальнымі, супадуць.

— ?

— Я веру ў гэта, бо на сёння гэта ці не адзіная магчымасць выжыць свету. І свет урэшце стане лічыцца з інтарэсамі і думкамі кожнага народа, бо няўвага і ігнараванне іх занадта дорага чалавецтву каштавалі — успомнім хоць бы дзве сусветныя вайны XX стагоддзя. Так сталася, што навукова-тэхнічны прагрэс прывёў чалавецтва да такой пагрозы самазнішчэння, што прадухіліць яе можна толькі **духоўнымі** сродкамі. Праз мараль і маральнасць дачыненняў. І менавіта ў гэтым, я лічу, — місія беларусаў. Мы можам і маем права паказаць, што такое магчыма. Мы нацыя, якая ад амаральнай палітыкі заўсёды цярпела, як і іншыя нацыі, і сёння мы можам даць прыклад іншай арганізацыі суіснавання. Нашы людзі таму і шануюць памяркоўнасць і шчырасць у адносінах, што гэта першасныя, зыходныя якасці, якія закладаюць гуманную і трывалую аснову існавання людзей у адным супольніцтве. І толькі гэтыя якасці закладаюць падмурак бяспечнай будучыні. Усё астатняе, любыя спробы падмануць, перахітрыць, пайсці патаемнымі шляхамі рана ці позна прывядуць да абвастрэння сітуацыі, калі нейкі адзін чалавек можа вырашыць лёс чалавецтва, націснуўшы на кнопку.

**— Баюся, Ганна Іванаўна, што на практыцы спраўджваць гэты ідэал вельмі цяжка...**

— Не толькі цяжка, але і доўга яшчэ давядзецца ісці да яго.

Я лічу, што сёння трэба працаваць з імкненнем да высокага. Мы як нацыя знаходзімся ў стадыі адраджэння, аднаўлення асноў. Калі яны, асновы, будуць здаровымі, то нешта здаровае і вырасце. А калі ў аснову будзе пакладзена нейкая патаемнасць, нейкі варыянт тутэйшага масонства, будаванне нацыі рознымі «такімі» шляхамі, дык, я думаю, тады мы можам і не пратрымацца. «Звыклымі» шляхамі могуць пакуль ісці тыя нацыі, што стварылі сваю інфраструктуру, арыентуючыся якраз на гэтыя ўмовы. У іх ёсць сваё лобі, фінансавыя сродкі і да т.п. Мы ж нічога такога не маем. Сёння мы можам зацікавіць свет толькі сваёй маральнасцю і адкрытасцю — рысамі характару, якія маюць перспектыву для ўсяго чалавецтва. У астатнім мы нікога не перахітрым.

**— Ці ж гэта не ідэалізм?**

— Так, гэта ідэалізм, але ў першасным яго значэнні, як імкненне да ідэальнага. Да яго, дарэчы, я прыйшла праз практычную дзейнасць. Вы, напрыклад, пыталіся, ці не нажыла я падчас працы ў архіве службовых непрыемнасцяў і канфліктаў з начальствам — калі мае перакананні пачалі супярэчыць сэнсу маёй службы? Не, не нажыла, бо ніколі не працавала ўпотай, падпольнымі метадамі. Я заўсёды працавала адкрыта. І калі нешта гаварыла, дык імкнулася даводзіць сваю думку доказна і пераканаўча, цытуючы крыніцы і прыводзячы факты. А доказным аргументам цяжка ж запярэчыць...

### МАНАЛОГ У ДЫЯЛОГУ

*«Многім можа падацца, што да тэарэтычных высноў я прыйшла, седзячы пад скляпеннямі архіва. Але ўсё наадварот — пад гэтымі скляпеннямі сяджу я якраз і не шмат, а больш бываю ў іншых месцах, кантактую з людзьмі... Найбольш моцныя пазіцыі складваюцца тады, калі ты спакойны за маральны бок справы; калі ты ні на кога не наступіў — а гэта значыць, што пасля ён на цябе не наступіць; калі ты паспрыяў іншым, рабіў не толькі сваю справу, але адначасова, робячы сваё, падтрымліваў іншых, хто побач. Потым, калі табе спатрэбілася дапамога, яна прыйшла збоку як бы сама сабою. Я не стваряю сабе ворагаў /а ворагі ствараюцца найбольш праз падман/. Ты не можаш увесь час думаць пра тое, каб абараніцца ад нейкага ўдару, — таму нельга ствараць іх пагрозу. Я лепш буду думаць пра самую справу, пра тое, каб пабудаваць такі падмурак, як будавалі раней, калі раствор замешваўся на курыных яйках, — хоць і марудна і дорага гэта было, ды затое падмурак выходзіў найтрывалы.*

*Калі ты да кагосьці паставіўся несумленна, дык пасля, калі ты пачнеш выходзіць «наверх», табе гэта абавязкова «адгукнецца». Тады ты маеш слабы бок... Дык вось: і ў працэсе падрыхтоўкі з'езда, і падчас яго мы імкнуліся ўсе пытанні маральнасці вытрымаць. Па праўдзе кажучы, падчас з'езда я столькі ўсяго «гэткага» нагледзелася, што вопыту хопіць надоўга, каб ніколі не ўступаць на такі слізкі шлях...»*

**— Як вядома, у падрыхтоўцы З'езда беларусаў свету ўдзельнічалі і былі зацікаўлены два бакі — урадавы і грамадскі /у асобе «Бацькаўшчыны»/. Дарэчы, за гэты «звяз» «Бацькаўшчына» і падвяргалася крытыцы дэмакратычных сіл: маўляў, пайшлі на здрадлівы кампраміс з антынацыянальнай дзяржавай. Але адзіна справядлівы паказчык «здрадлівасці» альбо « няздрадлівасці», на маю думку, — рэальныя вынікі падзеі. Якія вынікі З'езда беларусаў, зыходзячы з гэтага пункту гледжання?**

(Працяг на стар. 12)

Сярод кніг

# НА ШЛЯХУ ДА СЯБЕ

Па-рознаму складваецца ў творцаў лёс. У адных — ён прамы, нібы страла, з пастаянным вектарам накіравання ўверх, у другіх — а гэта значна часцей — павілясты і пакручасты, дзе ўзлёты чаргуюцца з правалами, з пакутлівымі хвілінамі нематы ці пустаслоўя.

Думаецца, Віктар Ярац не пакрыўдзіцца, калі скажу, што для яго шляху ў літаратуру больш характэрны другі варыянт. Пачаўшы досыць упэўнена і цікава, упоравень і разам з Алесем Разанавым, Яўгеніяй Янішчыц, Вольгай Іпатавай, Леанідам Галубовічам, ён затым неяк непрыкметна адышоў у цень.

Не, кніжкі выходзілі, і публікацый хапала, але сярод гладкапісу, агульшчыны пачаў губляцца адметны голас паэта, яго творчасць станавілася пэўным стандартам у агульным літаратурным працэсе.

*Віктар Ярац. Дняпроўскі бакен. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

Ведаю, як цяжка вырывацца з гэтай спакойнай раскі, з гэтых цянётаў, якія нібыта намёртва сквалі мышцы, падавілі волю і пошук. І рады, што Ярацу гэта ўсё *больш і больш удаецца, што яго голас* зноў пачынае гучаць свежа і цікава, не губляецца ў агульным патоку. Сведчанне гэтаму — яго нядаўняя кніга «Дняпроўскі бакен».

**…Увойдуць рэкі ў берагі, увойдуць.**
**І будзе сонца вудзіць з рэк ваду,**
**І зацвіце зноў жаўтацветам лотаць,**
**І лугавыя краскі зацвітуць.**
**І ажывуць мурашнікі між сосен,**
**І запытальна ў вочы глянуць нам:**
**— Як дыхаюць у атамным стагоддзі**
**Вада вякоў і вечнасці трава.**

Я наўмысна выбраў гэтыя радкі, хоць тут прыдзірлівы крытык мог бы заўважыць чыста тэхнічныя хібы /рыфмы **нам—трава, ваду—зацвітуць**/, бо ў вершы ёсць пэўны настрой мудрасці і філасафічнасці, пакутлівага роздуму пра ўчарашні, сённяшні і наступны дзень, тут ужо няма чыста халоднага версіфікатарства, якое сустракалася, на жаль, у В.Яраца раней.

І яшчэ адна ілюстрацыя:

**Хай у пракосах вянуць травы**
**і тлее грэбень небакраю.**
**Гарачых воч зара жывая,**
**не астывай, пакуль жывём.**
**Няхай сцяжынка абрываецца**
**і рэчка недзе ўсё ж канчаецца —**
**не абрывайся, сувязь сэрцаў,**
**і не згасай, агонь крыві!**
**І што тут вечна і не вечна —**
**не разгадаць ні дню, ні вечару,**
**ні нам, атуленым зарой**
**над мудрай цішынёй рачной.**

В.Ярац — традыцыяналіст. У наш час адны гэта лічаць за камплімент, іншыя — за творчую пасіўнасць, нежаданне заняцца пошукам, пэўную інфантыльнасць. На мой погляд, справа не ў форме, бо ў тых жа І.Бродскага ці А.Вазнясенскага, Р.Барадуліна ці М.Танка побач з фармальнымі пошукамі існуюць і вершы, выкананыя чыста ў традыцыйнай манеры. Ды і «вечны шукальнік» А.Разанаў у апошнім «Дні паэзіі» парадаваў прыхільнікаў свайго таленту традыцыйным па форме шчымлівым лірычным вершам.

Як мне здаецца, у форме традыцыйнай паэзіі значна больш складана загаварыць сваім голасам, прымусіць чытача спыніцца, узрушыцца, засяродзіцца на думках і пачуццях аўтара. Таму тут вельмі важна не скаціцца на той жа гладкапіс, халоднае ўмельства.

**Бакеншчыка домік.**
**Флюгер. Мачты.**
**Бераг — мацярык каля вады.**
**Пакуль сэрца будзе чуць і бачыць,**
**ногі самі прывядуць сюды.**
**Чаек узбярэжныя прычалы.**
**Ластаўкі намоклае крыло.**
**Дзякую, што ўсё гэта было**
**і яшчэ жыве,**
**не адгучала.**

Шкада толькі, што такіх вершаў, такіх азарэнняў вечным сумам і непадробнай настальгіяй у даволі аб'ёмным зборніку

# ЯК РАКА ЦУДАДЗЕЙНАЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ПАЭТЫЧНАЯ СКАРЫНІЯНА

***Урачыста і святочна было адзначана на Беларусі 500-годдзе Францішка Скарыны. Да слаўнага юбілею былі выдадзены дзесяткі кніг, манаграфій, навуковых прац. Аднак значэнне Скарыны для нашай культуры настолькі вялікае, што колькі б мы пра яго ні пісалі, усё роўна застануцца нераскрытыя тэмы, незакранутыя аспекты, неразгледжаныя праблемы. Чакае свайго даследчыка і беларуская паэтычная Скарыніяна. Больш за сто нашых паэтаў прысвяцілі вялікаму сыну беларускага народа свае вершы, паэмы, творы іншых паэтычных жанраў.***

Да пачынальнікаў паэтычнай Скарыніяны адносяцца Янка Быліна, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля, Пётра Крэчаўскі, Казімір Сваяк, Максім Багдановіч. Менавіта Максіму Багдановічу належыць самы першы, з вядомых нам, верш «Безнадзейнасць» /1913 г./, прысвечаны Ф.Скарыну. Толькі праз дзесяць гадоў з'яўляецца верш пра Скарыну Змітрака Бядулі. Пра гэтыя творы шмат напісана, у тым ліку і ў даследаванні Франца Шумчыка, што друкавалася ў адным са зборнікаў «Дзень паэзіі», таму больш падрабязна разгледзім творы найперш тых аўтараў, імёны якіх доўгі час на Беларусі нават не згадваліся.

Трэцім да вобраза Скарыны ў сваёй творчасці звяртаецца Вацлаў Ластоўскі. Ён прысвяціў яму свой верш «Адзінокі. Эпізод з жыцця Ф.Скарыны». Верш быў надрукаваны ў газеце «Крывіч», што выходзіла ў Каўнасе, у нумары 6 за снежань 1923 года.

... На пляцы перад ратушай у Вільні натоўп сабраўся, каб спаліць кнігі Скарыны. Толькі двое мяшчан спачуваюць яму і любуюцца ягонай працай: «Усё ж прыгожы гэты завіток са змеяй...», «Мала тут лаціны — усё болей гукі... Ёсць у простай мове для пасольства друкі». Але і яны баяцца ўступіцца за друкара і баль правіць сляпы натоўп — гараць Скарынавы кнігі. Сам Скарына балюча перажывае гэта:

**Горкім палыном шлях мой буяе,**
**Горыч ліць у чарку жыццё не скупіцца**
**І супакою сэрца не знае...**
**Ох, як ужо трудна далей так біцца!..**

Але вечарам вяртаюцца з работы касцы і спяваюць складзеную Скарынам песню... Пасеянае зерне — узыдзе, яго не затаптаць, не знішчыць — сцвярджае паэт сваім вершам.

Прайшло яшчэ менш двух гадоў і, зноў жа за межамі Беларусі, да вобраза Скарыны звярнуліся Пётра Крэчаўскі і Казімір Сваяк — вершы «Прысвячаецца доктару Ф.Скарыне з povаду 400-х угодкаў беларускага друку» і «Памяці Францішка Скарыны, слаўнага доктара з Полацка». К.Сваяк нібы аглядае 400-гадовы шлях Скарынавай спадчыны:

**Вось лет чатырыста,**
**як кнігі Скарыны**
**пабачылі сусвет. Прайшлі як сонца**
**між вякоў, сагрэўшы душы.**

Верш К.Сваяка напісаны лацінкай. Гэтаксама, як і верш Янкі Быліны «Вялікі муж». У гэтым творы Скарына паўстае мужным і рашучым чалавекам. Грамадзянскі подзвіг яго вызначаецца тым, што працаваў ён у бядзе, нядолі, на чужыне... каб даць Айчыне

**Не золата, не серабро,**
**А то духоўнае дабро,**
**Каторае дае нам сілы**
**Паўстаць з адвечнай магілы.**

Звярталася ў сваёй творчасці да постаці Скарыны і адна з таленавіцейшых паэтак беларускага замежжа Наталля Арсеннева — верш «У гасподзе падуанскай». Звернем увагу і на адзіную паэму, напісаную ўдалечыні ад Беларусі — у Нью-Йорку. Гэта паэма Янкі Юхнаўца «Калумбы», напісаная ў 1962 годзе. Як відаць з самой назвы, паэт параўноўвае Ф.Скарыну з Калумбам за тое, што ён адкрыў для беларускага народа краіны ведаў, асветы. Напісаны твор белым вершам, змест і форма — вельмі арыгінальныя.

З гэтага відаць, што ў паэтаў-эмігрантаў назіраецца больш устойлівая, з карацейшымі перапынкамі цікавасць да асобы Скарыны, чым у паэтаў, якія жывуць на Беларусі. Але, тым не менш, апошнімі вобраз Скарыны намаляваны больш завершана і грунтоўна, што і заканамерна. Дасягнута гэта, зразумела, за кошт непараўнальна большай колькасці твораў. Дарэчы, найчасцей пісалі паэты пра Скарыну ў апошнае дзесяцігоддзе.

Старэйшы беларускі паэт Станіслаў Шушкевіч прысвяціў Скарыну два вершы. У адным з іх першадрукар, знаходзячыся ў Празе, сумуе па сваёй радзіме, ірвецца туды. У другім аўтар разам са Скарынам абураецца цемрашальскім светам, які патрабуе друкара і яго кніг «публічна пакараць», радуецца, як Скарына перамагае жыццёвыя нягоды, упарта прымаецца зноў за добрыя справы.

Асаблівую старонку ў паэтычную Скарыніяну ўпісала Ларыса Геніюш. У дзесяці вершах яна закранае тэму Скарыны, звяртае ўвагу на галоўную якасць асветніка — нязменную любоў да роднай мовы і свайго народа, лічыць Скарыну «першым доктарам на ўсходзе Еўропы».

Глыбінёй, светлатою фарбаў, запамінальнасцю, грунтоўнасцю пранікнення ў тэму вызначаецца Скарыніяна Максіма Танка. Самы значны з вершаў — «У Татрах». Гэта дыялог Скарыны з праваднікоm у час яго вяртання дамоў.

Першым беларускім паэтам, які прысвяціў Ф.Скарыну дзве паэмы, з'яўляецца Мікола Арочка. Яго драматычная паэма «Судны дзень Скарыны» — другі значны твор на Беларусі /пасля паэмы Міхася Клімковіча/ пра Скарыну. Тут М.Арочка даволі поўна і дакладна апісвае нерацыянальную, перашкаджаючую асноўнай жыццёвай справе Скарыны, вымушаную судовую цяганіну, у якую незаконна і гвалтоўна яго ўцягваюць тыя, хто баіцца асветніцкай дзейнасці сярод беларускага народа.

Вельмі ўважліва ставіцца да дарагога нам вобраза Ніл Гілевіч. Усім пяці вершам паэта характэрны высокі пафас, усе яны адчувальна «ўгрызаюцца» ў граніт пароды, якая называецца «праблема Ф.Скарыны».

Рыгор Барадулін у «Самоце паломніцтва» прывычна, у наватарскай форме, раскрывае значэнне дзейнасці Скарыны для ўзмуднення беларускай мовы, расказвае пра няўдалую спробу Ф.Скарыны данесці святло навукі да Масквы і адначасова палепшыць сваё цяжкае фінансавае становішча. Шматлікія жыццёвыя няўдачы Скарыны, хуткае «астыванне» і нежаданне яго фундатараў займацца непрыбытковай для іх справай наводзяць Скарыну да ўсведамлення сваёй адзіноты:

**Палону пазнання**
**Палоннік**
**Сваёй спагадае бядзе.**
**Абраннік дарогі —**
**Паломнік**
**Сам-насам**
**З самотай ідзе.**

Алесь Разанаў да праблемы Скарыны падышоў з іншага боку. У трох невялікіх, напісаных белым вершам, паэмах ён перадае асноўны змест некаторых Скарынавых кніг, у тым ліку яго прадмоў да іх. Змястоўна, глыбока і маляўніча пераказвае паэт прадмову Ф.Скарыны да ўсіх кніг «Біблії», пра сутнасць і значэнне біблії:

**Гэтая кніга**
**дзецям і простым людзям —**
**навука,**
**а мудрацам і вучоным —**
**дык дзіваванне.**
**Яна, як рака цудадзейная,**
**адначасова**
**плыткая —**
**можна па ёй і дзіцяці брысці, —**
**і незвычайна глыбокая —**
**слон плысці мусіць.**

Адно з важнейшых пытанняў скарыназнаўства, не закрытых да сённяшняга дня, — час нараджэння асветніка — даследчыкі і, як бачым, паэты, спрабуюць вырашыць пры дапамозе скарынаўскага кніжнага знака, які, як вядома, складаецца з адлюстравання сонечнага дыска, правы бок якога /дыска/ прыкрыты паўмесяцам. Уладзімір Скарынкін уласцівымі паэзіі метадамі і сродкамі ў паэме «Астральны знак Скарыны» даследуе гэту праблему на фоне першых крокаў у самастойнае жыццё, якія былі зроблены насуперак жаданням бацькі, на фоне асветніцкай дзейнасці далёка за межамі і на роднай зямлі. Вуснамі самога Скарыны паэт раскрывае таямніцу астральнага знака першадрукара, якой, відаць, і сам прытрымліваецца:

**— Маё нараджэнне было**
**Адзначана рэдкай**
**прыроднаю з'явай —**
**На сонейка**
**месяц наплыў,**
**як бяльмо.**
**Зірнуў недасведчана**
**жах з-пад павек...**
**Мне з цемраю невуцтва**
**наканавана**
**Самаахвярна змагацца ўвесь век.**
**Пакуль уладарыць**
**імгла па-над светам,**
**Спакойна і ціха**
**я жыць не магу.**
**Аднак неўзабаве**
**развее асвета**
**Змрок невуцтва**
**і цемрашальства смугу!**

З вялікай колькасці беларускіх паэтаў, якія пісалі пра Скарыну, варта назваць яшчэ Алеся Пшыркова, Ніну Загорскую, Сяргея Панізніка, Данута Бічэль-Загнетаву, Валянціну Аколаву, Алега Лойку. Паэты ж суседніх народаў, на жаль, абмінулі ўвагай беларускага першадрукара ў сваёй творчасці. Аўтар мае звесткі толькі пра два вершы на рускай мове — «Белорусь» Уладзіміра Грышановіча і «Франциску Скорине» Ядвігі Дзвінскай. Але і яны напісаны

менш, чым хацелася б і самому аўтару, і чытачу, хоць, паўтаруся, узровень яго значна вышэйшы за папярэднія.

Нейкая ўнутраная нясмеласць, празмерная скаванасць не дазваляюць часам В.Ярацу раскрыцца да канца. Тады ўзнікае ўражанне, што аўтар саромеецца сваіх пачуццяў, «наступае на горла» сабе там, дзе гэтага не трэба рабіць. Ёсць у зборніку і вершы неабавязковыя, «прахадныя», без якіх ён мог бы выглядаць больш кампактным і больш цэльным. Гэта тычыцца так званых «падарожніцкіх» радкоў /вершы «Іспанія», «Чарнігаўская ноч», «Апшэронскі вечар», «Каўказ» і г.д., а таксама «Нашы прыйшлі», «Меліярацыя», некаторыя чатырохрадкоўі/.

І ўсё ж, мне хочацца зноў вярнуцца да лепшага ў кнізе — да глыбокіх філасофскіх і лірычных вершаў «...У вузлах каранёў, у шурпатых...», «...Яшчэ нябёсы ў хмарах кучаравых...», «...Ігрушына здзічэлая на кручы...», «...Спакойнае соснаў дыханне...», «Балада сустрэчы», «Начная песня верасня»... У іх бачу паэта з чулай ранімай душой, з болем, з роспаччу і спадзяваннем. Аксіёма, што вершы — гэта працяг жыцця, гэта вынік імгненняў найвышэйшай напружанасці духу, сінтэз мудрасці, пачуцця, прадказання...

Шлях да сябе кожнага паэта — пакутлівы, складаны і балючы. На гэтым шляху яго заўсёды падсцерагаюць міны. І кожная з іх можа надоўга ці, нават, назаўсёды выбіць яго з сядла, адкінуць на ўзбочыну, завесці ў непралазны гушчар ці глухі тупік. Ад гэтага не застрахаваны ніхто. Але вось азірнецца Віктар Ярац на свой дняпроўскі бакен, узгадае свой глыбокі тужлівы ўздых, які выліўся ў такія вось радкі: «Там, дзе дубы ўрасліся моцна ў глебу, дзе крык начных гусей па берагах, я адчуваў, як уздыхае неба па ўсіх, хто пыл глытае на шляхах далёкіх ад бацькоўскага парога, старых чаўноў на сцішанай вадзе, ад кнігаўкі трывожнай, што вядзе сваіх дзяцей сцямнелым мяккім логам...»

І зноў пацягне ў пошук, у шлях да сябе, згубны і радасны адначасова, недасяжны ў сваёй мэце і вельмі жаданы.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*г.Наваполацк*

---

рускамоўнымі беларускімі паэтамі. На беларускую мову з украінскай былі перакладзены тры вершы: «Прытча пра Скарыну», «Сонца «Слова» Рамана Лубкіўскага і ўрывак з вянка санетаў «Хлеб» Тамары Каламіец. Вось, бадай, і ўсё. Мажліва, мы нешта і не заўважылі, аднак адно відавочна: паэты іншых народаў не турбуюць Скарыну сваімі прызнаннямі.

Закончыць агляд паэтычнай Скарыніяны хацелася б вершам «Францішак Скарына» Алеся Барскага, паэта, які жыве ў Польшчы. У ім Скарына таксама паказваецца ў сваёй жаданай стыхіі, у працы:

**Ноч ідзе. Заснулі брук і тратуары.**
**Горад пакрывае змрочнай**
**світкай ціша.**
**Толькі ў друкарні трудзіцца і марыць**
**Сціплы і вялікі Скарына Францішак.**

Калі паспрабаваць вызначыць тыя пытанні з жыцця і дзейнасці Скарыны, якія знайшлі тое ці іншае вырашэнне ў паэтычнай Скарыніяне, дык іх можна звесці да наступных: значэнне грамадзянскага подзвігу Скарыны для беларускага народа, уклад Скарыны ў культуру народа, паэтызацыя звестак і фактаў жыцця і дзейнасці Скарыны, скарынаўскае разуменне значэння для народа асветы, кніг, жаданне Скарыны аказаць свайму народу найбольшую паслугу, любоў да мовы свайго народа і да самога народа. Дарэчы, найбольш твораў прысвечана якраз апошняму аспекту. І невыпадкова. Бо вялікая любоў да свайго народа, радзімы і мовы, якія былі ў Скарыны, — найважнейшая і найкаштоўнейшая рыса характару яго, і Скарына, выражаючы гэтую любоў, праявіў сябе таленавітым паэтам, знайшоў арыгінальнае, лагічнае, вобразнае, пафіласофску мудрае, пераканальнае і непераўзыдзенае нікім абгрунтаванне: «Звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведают гнезда своя; рыбы, плывущие по морю і реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная, боронять ульев своих. Тако ж и люди, где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

Гэтыя таленавітыя радкі натхнялі многіх паэтаў і выклікалі жаданне развіць, паглыбіць і ўзбагаціць паэтычна-вобразнымі сродкамі словы Скарыны. Сам факт, што іх перапісвалі па-свойму ажно адзінаццаць паэтаў, вельмі цікавы. Гэта Н.Арсеннева, Р.Барадулін, Г.Бураўкін, В.Вітка, А.Лойка, М.Лужанін, С.Панізнік, М.Пракаповіч, У.Скарынкін, П.Сушко і М.Танк. С.Панізнік і М.Пракаповіч зрабілі нават па дзве спробы. Для ілюстрацыі прывядзём урыўкі з вершаў С.Панізніка:

**Во гэтаксама, як дзічына,**
**якая прарастае ўжо,**
**а прызнае сваё даўжо;**
**як птушка, што з-пад аблачыны**
**палі-разлогі аглядае**
**і ведае сваё гняздо**
**ў траве высокай і густой;**
**як рыба — ў касяку гуляе,**
**хоць і ля берага чужога,**
**а чуе схоўныя віры;**
**як пчолы ў полі да пары,**
**а ворага ля іх парога,**
**вулей баронячы, зваюць...**
**таксама й людзі: да зямлі,**
**дзе ўзгадаваныя, адкуль пайшлі —**
**любоў вялікую гадуюць.**

Гэта з верша «Скарына», а вось «З прадмовы да кнігі «Юдзіф»:

**Ад нараджэння звяры,**
**што ў чашчобах блукаюць, —**
**ведаюць ямы свае;**
**Птушкі, паветра свідруючы, —**
**гнёзды свае не губляюць;**
**Рыбы ў морах бурлівых —**
**чуюць свой вір без памылкі;**
**Пчолы і іншая жыўнасць —**
**вуллі бароняць заўжды.**
**Гэтак і людзі: дзе нарадзіла іх маці,**
**Ласку да месца таго**
**берагуць заўсягды.**

Цікавыя і пераказы Скарынавых слоў, зробленыя Г.Бураўкіным, В.Віткам, У.Скарынкіным. Аднак ствараецца ўражанне, што колькі ні паэтызуй сказанае Скарынам, пераўзысці яго немагчыма. Аднак, чым больш разоў і ў большай колькасці паэтаў мы чытаем іх, тым глыбей іх разумеем, тым большае сацыяльнае, філасофскае, грамадзянскае і эстэтычнае гучанне набываюць бессмяротныя словы Скарыны, тым паўней і ярчэй раскрываецца, адцяняецца паэтычны талент тытана беларускага народа. У пацвярджэнне прывядзём верш Н.Арсеннева:

**Што ж, чараў тут няма:**
**і звер у гушчары**
**свой логаў знае,**
**птах — гняздо у гаі мае,**
**у рэках рыбы чуюць родныя віры,**
**руплівая пчала, што ў грэчках**
**да зары,**
**гудзе, вулля свайго бароніць**
**із адчаем.**
**Таксама й чалавек: малеча**
**ці стары —**
**да роднага кутка дзіўною ласкай тае.**

Паэтычная Скарыніяна, хочацца спадзявацца, яшчэ толькі становіцца на ногі. Пераконвае ў гэтым і жыццём даказаная ісціна: вялікае бачыцца здалёк. Чым вышэй будзе развівацца нашая нацыянальная самасвядомасць, тым паўней і глыбей мы будзем разумець свае вытокі, значэнне для нашага мінулага, цяперашняга і будучыні Скарыны. Застаецца толькі дадаць, што падрыхтаваны і, магчыма, у хуткім часе выйдзе, зборнік, у якім сабрана і сістэматызавана беларуская паэтычная Скарыніяна, і ў даследчыкаў з'явіцца магчымасць яшчэ раз перачытаць яе і прааналізаваць.

**Кастусь УСОВІЧ,**
**загадчык музея-лабараторыі Ф.Скарыны ГДУ імя Ф.Скарыны**

---

Спадчына

# СТАЯЎ ЛЯ ВЫТОКАЎ

Цяпер, калі адраджэнскія працэсы ў грамадстве набываюць размах, сама ўспомніць добрым, спагадным словам тых, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнага абуджэння. Гэта добра разумеюць і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», сведчанне чаго — нядаўні выхад кнігі выбранага Янкі Журбы «Творы» /укладанне, прадмова і каментарыі Алеся Бельскага/. Па сутнасці ўпершыню так поўна сабрана мастакоўская спадчына аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

Безумоўна, Я.Журба /сапраўднае прозвішча Івашын/, які першым сваім вершам «На беразе Дзвіны» дэбютаваў у газеце «Наша Ніва» 16 ліпеня 1909 года /гэтым творам з яго пазнейшай назвай «Над Дзвіной» кніжка і адкрываецца/, па сіле свайго таленту значна ўступае многім з тых, хто поруч з ім уваходзіў у літаратуру, але ўсё ж нельга забываць, што яго самаахвярная дзейнасць у імя будучыні Бацькаўшчыны заслугоўвае ўхвалы.

Вершы займаюць дзве трэці аднатомніка. Простыя, пазбаўленыя мудрагелістасці, ускладнёнасці вобразаў, яны блізкія сваімі матывамі фальклору з яго песенным ладам, лёгка запамінаюцца. Як скажам, «Усход сонца»: «Ужо золак заззяў, святло льецца ў прастор. І ачнуўся ад сну — ціха шэпчацца бор». Ці, напрыклад: «Зашумела жыта спелым коласам, павяло размову з ветрам-сіверам...»

Аднак з самага пачатку літаратурнага шляху Я.Журба не абмінаў сацыяльна-грамадзянскіх матываў, заклікаў просты люд прачынацца ад векавога сну. Характэрны ў гэтым сэнсе верш «Вокліч», датаваны 1912 годам:

**Годзе ж, годзе**
**сумаваць вам,**
**Годзе дарам слёзы ліць!**
**Ёсць за што ў жыцці**
**змагацца,**
**Ёсць у ім што палюбіць.**

Увогуле, паэзія Я.Журбы — адлюстраванне свайго часу. Гэта тычыцца і твораў пазнейшага перыяду. Як і іншыя аўтары, ён захапляўся здзяйсненнямі на роднай зямлі, часам выдаючы жаданае за рэальнае. Не праімінуў услявіць партыю. Але не гэта галоўнае ў творах. Галоўнае — шчырасць, тая нягучная шчырасць, што дазваляе адчуць хараство наваколля, непасрэднасць перажыванняў лірычнага героя. Асабліва пранікнёна апяваў Я.Журба родную прыроду, хараство краявідаў Віцебшчыны.

У пасляваенны час паэт амаль не пісаў. Прычына таму і фізічная немач /у 1944 годзе страціў зрок/, і адзіноцтва — сям'і не меў, даглядалі яго апекуны. І творы Я.Журбы для дзяцей /яны прадстаўлены ў спецыяльным раздзеле/ — таксама ў асноўным дваццатых-трыццатых гадоў. Зноў жа, у гэтых вершах шмат традыцыйнага, аб чым сведчаць і назвы «Першыя сняжынкі», «Дзед Мароз», «Пчолка», «Восень», «У школу»... Што прываблівае ў іх, дык тое, што рыфмы хоць простыя, але дакладныя, а ў выніку вершы маленькімі лёгка запамінаюцца.

Укладальнік уключыў у кнігу і два апавяданні Я.Журбы «Перад святам» і «Прыгонная душа» — абразкі з вясковага побыту... Я.Журба і не хаваў таго, што ў многім ішоў пратораным шляхам. Прынамсі, апавяданне «Прыгонная душа» мае падзагаловак: «Тэма запазычаная».

Увайшла ў аднатомнік і публіцыстыка — так званыя «Лісты з Украіны», якія Я.Журба дасылаў у «Нашу Ніву», калі вучыўся ў Глухаўскім настаўніцкім інстытуце, і артыкул «Беларуская нацыянальная хеўра», што папярэднічаў ім. Шмат гаворыцца ў гэтых матэрыялах аб беларуска-ўкраінскіх гістарычных і культурных узаемасувязях, узнімаюцца пытанні беларускага нацыянальнага Адраджэння.

У прыватнасці, надзіва актуальнымі і сёння гучаць словы артыкула «Беларуская нацыянальная хеўра»: «Кожны народ розніцца ад другіх сваёю моваю, жыццём, звычаямі і т.д., і ён мае права жыць як асобная нацыя, развіваць сваю мову, сваю літаратуру, мае права пазнаваць навукі ў сваёй роднай мове, развіваць сваю культуру. З гэтага права пачынае карысць толькі тады, як усе сыны яго добра знаюць, хто яны, да якой нацыі належаць».

**А.М.**

---

Ля кніжнай паліцы

# У ПАДАРОЖЖА ЗАПРАШАЕ... ВІЦЬБІЧ

Але, той самы беларускі пісьменнік Юрка Віцьбіч, які пасля вайны апынуўся ў эміграцыі і выдаў за мяжой, разам з іншымі творамі, кнігу гістарычна-краязнаўчых нарысаў «Плыве з-пад Святое гары Нёман», у якой расказваецца пра паходжанне больш за 500 геаграфічных беларускіх назваў — гарадоў, мястэчкаў, вёсак, гарадзішчаў, азёраў, рэк, балотаў, пушчаў. Больш таго, аўтар не проста захапляецца іх выразнасцю, адметнасцю, а і дае ўсяму навуковую кваліфікацыю. Вылучае назвы гістарычнага, рэлігійнага паходжання, ад рэкаў, азёраў. А за ўсім гэтым — вобраз Нёмана, як ракі, што паядноўвае ўсіх беларусаў: «Мы Беларусы незалежна ад таго, скуль мы — ці з-пад Дзвіны, ці з-пад Прыпяці, ці з-пад Дняпра, ці з-пад Буга, ведаем, як цячэ Нёман праз Налібокі і Дакудаўскія дубовыя лясы, перахапіўшы ў дарозе Бярэзань і Шчару, мы чуем, як, пракапваючыся праз Гарадзенскае ўзгор'е, грыміць ён у сваіх парогах — Швец ды Кравец, Калатоўка ды Бічы. Нёман для ўсіх нас адзіны і непаўторны».

А запрашае Юрка Віцьбіч у падарожжа па Беларусі са старонак часопіса... «Панама». Не, зусім не ў далёкіх, экзатычных краінах выходзіць ён, а ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь, а калі дакладней, дык называецца «незалежны спецыяльны часопіс па турызме і адпачынку» і распаўсюджваецца ў СНД. «Панама» з другога нумара /толькі што выйшаў трэці/ пачала друкаваць раздзелы кнігі Ю.Віцьбіча. Думаецца, карысць ад гэтага відавочная.

**А.М.**

# УРОКІ ДЛЯ ... НАСТАЎНІКАЎ

Настаўнік Моладаўскай сярэдняй школы Іванаўскага раёна Васіль Туркевіч — чалавек вядомы не толькі на Брэстчыне. Як вопытнага выкладчыка беларускай літаратуры, яго добра ведаюць па ўсёй рэспубліцы. І не толькі як спецыяліста сваёй справы, а і як аўтара шматлікіх метадычных распрацовак. Акрамя таго, Васіль Макаравіч з поспехам выступае і як журналіст, пісьменнік. Чытачам «Настаўніцкай газеты» і іншых выданняў вядомы яго дакументальныя навелы, замалёўкі са школьных будняў і ўвогуле назіранні над жыццём.

Нядаўна ж у выдавецтве «Універсітэцкае» выйшла кніга В.Туркевіча «Урокі роднай мовы» /папярэдняя, дарэчы, некалькі гадоў назад пабачыла свет у «Народнай асвеце»/. Мэта, якую паставіў перад сабой аўтар, бачна са звароту да чытачоў — «Каб кожны настаўнік быў метадыстам». А як стаць ім, Васіль Макаравіч і падказвае, выкарыстоўваючы свой багаты вопыт у прапагандзе беларускай мовы, літаратуры, мясцовага краязнаўства. Цікава і тое, што ў распрацоўках ім выкарыстаны і ўласныя вершы.

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ЛІСТЫ З ЮРМАЛЫ



*Пімену ПАНЧАНКУ*

## ЛІСТ ПЕРШЫ

Пімен Емяльянавіч, не знаю
Ну чаму Вам з Юрмалы пішу.
Боль, як рана чорная, скразная,
Працінае навылёт душу.

Хіба трос бы слоў
Пустыя транты!
Лепей пешшу б да Курыл дайшоў!
Цень жахлівай, нечуванай страты
Навісае грозна над душой.

Боль прагнаць?
Лякарства — хоць заліся!
Не! Не да напояў тут цяпер.
Можа, мне шкада,
Што развалўся,
Бы сыры жарсцвяк,
СССР?

Шкадаваць? А што?
Старой адрыны?
Тых, хто да злачынства
Быў жадзён?
Трэба гнаць было
Даўно іх дрынам,
І свістаць з пагардай
Наўздагон!

Мора — дыбам!
Дні — таксама дыбам!
На дыбе канчаўся хіжых лёс.
Тут гарбела манумента глыба.
Дзе яна?
Мо шторм у мора знёс?

Цеплаход
Выходзіць на прагулку.
У наздры — выратавальны круг.
Я не чуў яшчэ,
Каб гэтак гулка
У прычал
Прыбоем біў абух.

Вы таксама
Упарта і заядла,
Як падчас суровай малацьбы,
Ідалаў жалезнаю кувалдай
Білі у каменныя ілбы.

Тросся дол,
І хоць трывушчай лепкі,
Ён стаяў дзябёлы, як жывы,
А блінец яго чыгунный кепкі
Ледзьве-ледзь не падаў
З галавы.

Пільна аглядаючы абшары,
Хто б раней
Падумаць нават мог,
Што зямное — у рубцах —
Паўшар'е
Можна выбіць
У яго з-пад ног.

Хто не рады тут,
Што бронзы тоны
Зніклі мо за мора,
Можа, ў лёх!
Пастаменту кіламетр
Бетонны
Заглушыў ушчэнт
Чартапалох.

Гэткі пляц
Прыдумаць мог прыдурак,
Выцадзіўшы брагі паўвядра.
Ах, які патрэбна мець
Падмурак,
Каб трымаць цяжар
Правадыра!

Вока мружыць
Летняя таполя,
Ды глядзіць на мудрых
Латышоў:
Можа, ён, чыгунны,
У падполле
У чыгунным парыку
Пайшоў?
Прыўстае штораз
Світанне з седала:
Дзе ён зараз,
У якой глушы?
Можа, у Фінляндыі суседняй,
Ці ў Разліве зноў,
У шалашы?..

Часу прычакае з бліскавіцай,
З новаю мітрэнгай-мітуснёй,
Каб сюды упэўнена з'явіцца
З салдатнёй, з балтыйскай
Матраснёй.

Можа, адрас
Сувязной рыбачцы
Ён паклаў дзе-небудзь пад пліту...
Пімен Емяльянавіч, прабачце,
Што, магчыма, лапці
Я пляту...

## ЛІСТ ДРУГІ

Адчуваю востра
Цераз вёрсты —
Не да спрэчак Вам,
Не да размоў.
Налящеў віхор
На быту вострай,
Клопаты мятлой бяды
Размёў.

Пімен Емяльянавіч,
Вам цяжка.
Вы, як кажуць, зараз у бядзе.
Хваля, не скідаючы цяльняшкі,
Напралом да берага ідзе.

Пляж пад бокам з галькай
Горш ад таркі,
Хоць дзяружку
Я схітрыў паслаць.
Ах, каб гэту хвалю
Санітаркай
Вам на помач
Змог адсюль паслаць!

Як паверыць?
Вашы дні ляцелі
То наўскач, то ў ярасным рыўку.
А цяпер, каб дужа і хацелі,
Не ускінуць і не ўзняць
Руку.

Мо душа
Ад крыўды знемагае,
І шкада, што гэтулькі гадоў
З арміяй прайдох
Вялі змаганне,
Пэўна, болей,
Чым на сто франтоў...

Гора — горы,
Стог бядот ля стога.
Самазваных не злічыць багоў.
Мора шторм выгульвае,
Бы дога,
Тут, непадалёк
Ад берагоў.

Паглядзелі б Вы,
Як з вод нейтральных,
Дзе бушуюць хвалі, як нідзе,
Забрытаўшы у намордпік трала,
Непагадзь дзевяты вал
Вядзе.

Што там вал!
Якое гэта дзіва!
Больш паўвека —
Божа, нас баронь! —
Самі мы ў наморднiку
Хадзілі
Розных страхаў,
Хіжых забарон.

Хіба ў Рыме
Ці ў крутым Нарыме
Адзяюць яго дзеля дабра?!
Золата мы горы ў ім нарылі,
Не злічыць, не змерыць —
Серабра!

Б'е прыбой
То ціха, то з пагардай,
З глыбіні да ног шпурляе лом.
Дзе мільёны нашы?
Дзе мільярды?
За якім прасаджаны
Сталом?

Па былым
Ударыць бы фугасам,
Каб яно — на друзкі, на муку!
Хіба Крэмль не стаўся
Лас-Вегасам,
Дзе ігрок сядзеў
На іграку?!

Ненажэры,
З пашчамі, як жэрлы,
Што раўлі: падай ды раздзялі! —
Гэта — самі,
Тое — чэлядзь зжэрла,
Рэшту па замежжу
Раздалі.

Кіраваць-дзяліць —
Не класці цэглу,
А — вязаць вузлы
Інтрыг і звад!
Ці даўно з Крамля
Пужліва збеглі,
А цяпер ірвуцца
Зноў назад.

Хіба сродкі
Апраўдалі мэту,
Лёс дзяржавы
Ставячы на кон?
Можа, ў дол гатоў
Загнаць паўсвета
Зноў з партыйнай вывучкай
Дракон?

Можа, ён аб'еўся
Груцай нехаць?
Перабраў, магчыма, у радні?
Грозіцца штодня
У Крэмль уехаць.
А на чым?
На клячы ці кані?

Што ён мае?
У кішэні дулю.
І лахман збуцвелы кумача,
А ў дадатак
З лозунгам цыдулу
Дапатопных дзён
Барадача.

Ён з народам.
Ён, мауляў, народнік.
Колькі звеў і недаспаў начэй!
Прагне даўняй выкрайкі
Намордпік
На дзяржаву
Усцягнуць хутчэй.

Праўда,
Каб не ўскінулі на вілы,
Троху зверху,
А найбольш знутры,
Той намордпік
Хітра абнавілі
Спраў заплечных
Хітрыя майстры.

Хто яны на справе?
Проста пошасць,
Тая дрэнь,
Разбэшчаная тля,
Што змагла дзяржаву
Апустошыць,
Выграбці і выпаліць
Датла.

З іхняй ласкі,
Хоць у крук нас гнула,
Хоць і вылятай у трубу,
Дзень і ноч,
Як бурлакі, цягнулі
На сабе марксісцкую
Арбу.

Чынадралы
З бонзамі-зубрамі,
Ад падкоў партыйных вухналі,
Колькі лепшых дзён
У Вас забралі,
Колькі ў Вас здароўя
Аднялі!

Ды змагацца
Вы яшчэ у стане.
І хоць радзіць век:
Радок шліфуй! —
Пімен Емяльянавіч,
Я ўстану
З Вамі, як сцяна,
На іх шляху!

## ЛІСТ ТРЭЦІ

Горка Вам,
Што роднае святыні
Аж да гэтых дзён
Гібеў алтар.
Грэбнямі высокімі вунь тымі
Коціцца грывасты
Гібралтар.

Хіба Вы
Забыліся на візу,
Што была падобна на скулу?!
Разанулі Вы падчас круізу
І яго каменную скалу.

Пад прыглядам
Века з Задыякам,
Ледзь туман расступіцца траха.
І па сёння там
Наскальным знакам
Вогненная свеціцца
Страфа.

Водбліскі,
Як чэргі з амбразуры,
І да нас даходзяць нацянькі.
Колькі раз
Аж войкала цэнзура,
Бы ёй пяты рэзалі
Цвікі.

Зноў, маўляў,
Крамола алегорый?
Ды — за дуплы
Цэнзарскіх нажніц!
Гэта — хуліганства,
Але горай,
Калі славу прагнуць
Так нажыць.

Цэнзар кроіў,
Рэзаў, бышцам Цэзар.
Верш, здаецца, больш і не дыхне.
Вось каб мог з радкоў
Ён вымыць цэзій,
Што заплыў з Чарнобыля.
Дык не!

Вам баліць,
Што ён стаіўся ў жыцці,
І зашыўся ў школьны лемантар.
Ну які крамольнік з Вас,
Скажыце?!
Вы душой —
Няўседа і бунтар!

Верш і той
З натураю бунтоўнай.
У яго бунтоўны лад і тон.
Хай зачыняць
У падвал бетонны,
Ён падвал разверне
І — бетон!

Нам у Вас
Вучыцца б і вучыцца,
Каб вядзьмак хлусні
Ў душу не ўлез.
А яна, паэзія, ваўчыцай
Пазірае у наблізкі лес.

Як не стаць ёй сёння
Ваўкаватай
І не біць, як хвалі,
Веку ў строп.
Столькі цягнем
Розных хімікатаў
Для падкормкі
І радкоў і строф!

Страх наскрозь
З жудою прабірае.
Хто сказаў?
Хіба Вам не баліць,
Што як бышцам Муза
Прыбіральні
Выскрабаць павінна
І скабліць?!

Хіба мала
Зведала за годы
Здзеку і людской неправаты!
Досыць, што яе
З вярхоўнай згоды
Босую кідалі
За драты!

Покуль гарлапан
З графіна глыкаў
За трыбунай, перавёўшы дых,
Колькі і падзолку і суглінку
З ёй перавярнулі
Вы ўдваіх!

Не хадзілі
Нават дня улегцы
З ленасцю і зайздрасцю сляпой...
Вы маглі
У працу так улегчы,
Як апошні грэшнік
У запой.

Ваш герой,
Ён ненавідзіць глянец
І базарны тлумны балаган.
Ды брахня,
Што вечна хуліганіць,
Што натурай чмут
І хуліган.

Лёс не шанаваў яго,
Не песціў.
І душу насцерпны боль кальне:
Хіба ён здзіраў
Гвалтоўна персцень,
Ці зрываў з каго-небудзь
Кальне?

Мозг бушуе,
Як у нетрах магма.
Прагне догмаў
Далаваць карчы.
Хіба грэх пабыць
Сам-насам з магам,
Што прыжыўся
Ў гамане карчмы?

Ён шукальнік,
Дык яму і — шкалік!
Ці ж у першы раз каўтаць палын?
Сёння кожны трэці
Не шукальнік —
Ашуканец ды і сукін
Сын!

Ці даўно
Такі ўзнімалі вэрхал
Каля іх брахун і блюдаліз, —

Хоць было
З дваццатага паверха
Галавой кідайся
Проста ўніз.

Вы прыкіньце,
Колькі ў нас вучоных!
І хоць маюць не адзін дыплом,
Верш тырчыць,
Як зуб пазалачоны,
Толькі з пломбай,
А ўнутры з дуплом.

Як жа Вам душой
Не зажурыцца:
Вось у гэтай жрыцы, бы знарок,
Зырка, бы «маланка» на шырынцы,
Ззяе усяго адзін
Радок.

Тая колькі вершаў
Ашчаніла.
Ды ад іх душа ці зашчыміць?!
Енчыць, быццам хвост ёй
Прышчамілі,
Ці сабраўся нехта
Прышчаміць...

Мой радок
Таксама не змаўкае.
Не патрэбен для яго санскрыт.
Быццам з токам дрот
Пры замыканні
Пырскае агнём
Ды ўсё іскрыць.

Варта залатой
Вам рыфмай цюкнуць, —
Рыфмачы уміг пакажуць трук:
Лапы ўгору ўзнімуць,
Нібы цюцькі,
Ледзь не вырываюць
Рыфму з рук.

Я не супраць,
Хто пра стрэс ці тромбы.
Ды маўчу, калі цыркач-факір,
Разглядае ўласныя вантробы,
Ці глытае трыснягі
Рапір.

Не бяда,
Што з выгляду фацэтны,
І віхры ўзлятаюць, бы стрыжы.
Толькі б голас
Не з чужым акцэнтам,
Толькі б не злякнулі
Тыражы!

Што рабіць,
Калі у модзе стаўся
Біржавік і мільянер-пузач.
Дзе сягоння трыялеты, стансы?
Галадаем нават на пейзаж.
Столькі часу
Страціў ды уходаў.
А набытку — панясе камар.
Верш, ён не выгодны,
Не даходны,
Нават стратны
І пусты тавар.

Каб пры справе быць,
Нібы пры ўладзе,
Бачыце, паэт
Дастаў бязмен.
Ля ўваходу
З шыльдаю прыладзіў,
І — законны стаўся
Бізнесмен.

Хто хрысціў мяне?
Царкоўны неслух!
Пёраў вострых
Полчышчы ступлю.
І калі б на край зямлі
Занесла,
Ад свайго нідзе
Ні адступлю!

Хоць бы сёрбаў
Поліўку з лушпаек,
Хоць бы і цямнела уваччу,
Строфы, як прасмоленыя шпалы,
Я на паўпланеты раскачу.
Нездарма прыбой,
Што бераг вымыў,
Ды малоціць гальку
Ў тры цапы,
Мне падносіць
Зыбкай хвалі вымя:
Белы сырадой
Удосталь пі!

Пімен Емяльянавіч,
Імгненна
Блісне згадка:
Вам я не раўня.
Ды ўсё ж па болю
І па гневу
Для мяне Вы —
Блізкая радня!

Верш адліць бы —
Шчыры, паратоўны —
Так, як адлівалі Вы пра век,
Каб душой ачнуўся, апрытомнеў
Нават недзе снежны
Чалавек!

Алесь НАВАРЫЧ

# КАЖУХ



## АПАВЯДАННЕ

Хлопец сядзеў за сталом і рабіў школьныя ўрокі, калі да яго ў хату зайшоў «вораг народа» і папрасіўся на кватэру.

— Хозяина нету, — ціха прамовіў школьнік, бо маці пайшла на калгасны пляц. «Ворага народа», карачкаватага, у ладным кажусе, з насцярожаным і як бы вечна стомленым і бясконца вінаватым позіркам Коля бачыў разам з іншымі высяленцамі.

— Дэ ж ваш хозяін? — спытаўся прыхадзень, і тут хлапчына ўбачыў, што чалавек хрысціцца на пустое месца на покуці — колісь там стаялі абразы.

— Дэ ж ваш хозяін? — паўтарыў стары з кузлакаватай барадой, па-свойму прамаўляючы словы. — Чы можна ў вас покваціраваты?

— Поквартировать? — робячы правільны націск і правільна вымаўляючы, перапытаў Коля і падумаў, што нічога не адбудзецца страшнага, калі ён возьме дзядка з барадой у гэтым прыгожым кажушку жыць-начаваць, бо і сам лічыў сябе гаспадаром, але не ведаў, ці можна пускаць «ворагаў народа» ў дом, пра гэта лепш ведала маці.

Маці згадзілася прыняць госця, і праз пэўны час Коля нават у моцныя маразы хадзіў у школу, бо кватарант даваў яму свайго кажуха, а сам па-старэчы грэўся на печы. Гаварыць ён гаварыў па-свойму, але больш маўчаў, таксама па-свойму, седзячы ў закутку ў цяжкім одуме. Высяленца ахрысцілі «палякам», бо, калі яго называлі хахлом, ён крыўдзіўся і апраўдваўся, тлумачачы:

— Ні хахолы мы, з Палескага краю я, блізка Пінска... Там хохолы чы жывуть... Мы пуд Поляком булы... Рускіе мы, рускоі віры.

Аднойчы Коля з маткай вярталіся з лесу з дрывамі. Запазніліся ў кароценькі дзень. Сонца садзілася ў высокія замарожаныя сосны пярмяцкага бору. У барвяных, цямравых водсветах з неба ўбачылі, як на сасне гойдаецца павешаны чалавек.

— Боженька, это же наш...— прашаптала маці. Вецер грукаў ужо скамянелым целам аб дрэва. Хлопец з халоднай цікавасцю падышоў бліжэй. Вылупленыя шкляныя вочы заледзянелі на сцюжы. Калі хлопец перасек сякерай папружку, вісельнік шуснуў уніз, прутка ўдарыўся нагамі ў снег і, як палена падскочыўшы, упаў набок. Сярэдзіна ў Колі раптам імгненна астыла, і пачуццё страху і страшэннай незразумеласці ўсяго таго, што ён убачыў, авалодала ім. Маці нешта гаварыла, падштурхоўвала яго да мерцвяка, ён чапляўся акамянелымі рукамі за голле, быццам укамянеў не гэты іхні жылец з далёкага краю, скудлачаная і задзёртая барада якога трапятала на ветры, а быццам сам хлопец засліўся, і перастала біцца і грэць сэрца. Маці тым часам расшпільвала і сцягвала з нежывога выдатненькі кажушак, гаворачы, што адзежыну здымуць усё роўна, а так будзе ў чым хадзіць, і «никто не узнает, может, он нам оставил»... Пра кажух на другі дзень ніхто не спытаўся. Смерць кватаранта цяжкім каменем лягла ў душы, не даючы супакою днямі, бо доля ўдзячнасці за ўзятую дзеля галечы выдатную рэч змешвалася з пачуццём пакуты і прыкрасці за чалавека, які і не быў блізкім, але з якім Коля пражыў колькі тыдняў і меў да яго цікавасць і прыхільнасць...

Хоць учынак высяленца і знерваваў хлопца, але ён усё ж быў перакананы, што людзі, якіх навезлі сюды і якія паміралі самахоць ад нявыкруткі і заціску, ёсць кулакі, эксплуататары, нацыяналісты-западнікі, і, каб спакайней жылося на свеце, нават і добра, што яны самі вешаліся, знішчаліся, як клас прыгнятальнікаў. Пра гэта, ці падобнае на гэта выкладалася ў школе, пісалася ў газетах і гаварылася па радыё. Юнак мусіў гэтаму верыць, каб жыць спакойна, не расстрайвацца, але, папраўдзе, веры гэтаму ўсяму ён не мог даць.

Так вось і жылі. Пасля школы хлопец трапіў у ветэрынарны тэхнікум. Грымнула вайна, закруціла Колю ў нялюдскім віры, і трапіў ён у 1944 годзе ў палескае мястэчка. Фронт грымеў недзе далей, на Захадзе, а яны рамантавалі амерыканскія «Кобры», ладавалі на іх савецкія кулямёты. Мястэчка спадабалася Колю, бо вакол былі непралазныя альховыя лясы. Адсюль, з Палесся, быў і той колішні кватарант, памяць пра якога перабілася больш вострымі і трагічнымі ваеннымі ліхадзействамі. І яшчэ што здзівіла хлопца, дзяцінства якога прайшло ў калектывізаванай нястачы, дык гэта, па ягоных мерках, заможнасць тутэйшага люду. Штотыдзень у мястэчку ладзілі кірмаш, на якім можна было купіць і хлеба, і чаго-небудзь да хлеба. Таму, калі без бяды скончылася для Мікалая вайна, і калі, прыехаўшы дахаты, застаў у сваіх галодных пярмяцкіх лясах апухлую ад недаядання маці і дыстрафічку-сястру, назбіраў мех больш-менш спраўнай адзежы і ўтрончыўся разам з такімі, як сам, мяшэчнікамі ў багатшы на яду край, у якім пабываў вайною. Калі з паўмяхом жыта вяртаўся назад, і чагосьці на чыгунцы правяралі дакументы, і ён разам з пашпартам паказаў і пасведчанне аб заканчэнні ветэрынарнага тэхнікума, да яго падсеў самастойны з выгляду чалавек, прадставіўся старшынёй мясцовага райвыканкама і прапанаваў:

— Вы забирайте мать и сестру и приезжайте сюда. Вы просто нужны здесь, здесь таких специалистов нет...

І праз месяц Мікалая прызначылі на пасаду раённага ветэрынара, далі колішнюю габрэйскую камяніцу ў мястэчку, і зрабіўся наш Мікола каравячым богам для тубыльцаў.

Аднойчы зімою, у замяцелле, пастукалі ў шыбу. Ветэрынар прывык да начных візітаў, упусціў чалавека ў хату. Начны госць папрасіў ветэрынара ехаць на сяло — ніяк не магла расцяліцца карова. Мікалай доўга не думаў, уздзеў палескі кажух, што застаўся ў спадчыну ад колішняга кватаранта, выйшлі на вуліцу, улаштаваліся ў сані і паехалі. Хоць і неспакойна было на душы ў ветурача — па раёне пастрэльвалі бандэраўцы, але спецыяльнасць была спецыяльнасцю. У дарозе Мікалай даведаўся, што едуць якраз у той сельсавет, дзе нядаўна забілі двух старшынь: першага — віцебскага партызана, а другога — вопытнага партыйца-рэфарматара, які паспяшаўся з калектывізацыяй. Трэцім быў назначаны якраз гэты во начны госць, які вёз яго праз мокры снег у далёкае сяло. Ён быў з тутэйшых, можа, таму яго і не чапалі. «А калі раптам завязе ў лес да бандэраўцаў?!» — варухнулася неспакойная думка. Усё ж ён быў прадстаўніком раённага начальства, савецкім спецыялістам...

Кажух, у якім быў Мікалай, саграваў і як бы супакойваў. Пакуль так ветэрынар разважаў, намагаючыся не асабліва ўзірацца ў чорныя альховыя зараснікі паабапал дарогі, прыехалі ў сяло. Адляглo ад сэрца. Але як толькі палявік праехаў вуліцу і вывернуў каня на цалік, Мікалай усур'ёз устрывожыўся. Гаспадар адчуў напружанасць у паводзінах седака і заспакоіў:

— Тут недалёко хутор...

Гэтае «недалёко» аказалася кіламетраў пад тры. Скрозь снег, які пачаў падаць крыва і коса, паказалася жоўтае акенца. Конік гігатнуў, весялей пабег, і хутка прыехалі. Выбегла з ліхтаром гаспадыня, адагнала сабак. Зайшлі ў хлеў. Карова зірнула на людзей фіялетавымі пакутніцкімі вачыма.

— Цёплай вады, — закамандаваў Мікалай. Гаспадары замітусіліся. Разабраўшыся, што трэба было рабіць з каровай, Мікалай стаў чакаць цёплай вады. Агледзеўся — капітальны хлеў, зроблены навечна, за перагародкай храбусталі сенам коні. «Колькі ў яго іх?» — падумалася. Усё, што мог, Мікалай зрабіў, але карова не ўставала, выцягнула шыю і палажыла галаву на падсціл. Гаспадыня пачала прыгалошваць.

— Цыць! — гаркнуў на яе чалавек.

— Патрэбны людзі, — сказаў ветэрынар, — два-тры чалавекі, і вяроўкі...

— Зараз, — сказаў гаспадар і выйшаў. Не прайшло і трох хвілін, як ён вярнуўся з двума дужымі хлопцамі. Хлопцы зіркалі на ветэрынара, але не гаварылі ні слова. Мікалай рабіў сваю справу, і нейкі ўнутраны халадок змушваў яго думаць: што гэта за маладыя людзі, адкуль яны ўзяліся, ці старшынёвы сыны, ці мо прыйшлі з сяла і чаму так нецывільна апрануты? І пакуль лекар разам з гэтымі людзьмі і гаспадаром распроствалі вяроўкі, прашморгвалі іх праз бэлькі, прасоўвалі пад карову, увязвалі кончыкі ног цяляці, словам, ратавалі карову, недабрыня, якая была ў галаве, не праходзіла, хоць дастаткова заценьвалася ўсім тым, што яны рабілі. Тым часам хлопцы разгаварыліся, гаспадар камандаваў імі, яны таксама, бачыў Мікалай, былі зацікаўлены ў тым, каб ўратаваць скаціну. Яны вельмі перажывалі за карову, і гэта Мікалая абрадавала, ён упэўніўся, што ўсё абыдзецца. Урэшце ўсё скончылася добра звыш усякай меры: і цяля выцягнулі жывое, і карова, як апрасталі вяроўкі, засталася стаяць і нават пачала аблізваць нарожаніка. Адзін з хлопцаў задаволена вымавіў:

— Бычок!

— Ну, дык пойдзэмо ў хату, — распарадзіўся гаспадар.

Мікалай сядзеў у хаце, гаспадар мыў на вуліцы з хлопцамі рукі. Ярка гарэла газавая лямпа. Зайшлі хлопцы, і па тым, як яны пачалі распранацца, і па тым, як пачаў мітусліва бегаць па хаце гаспадар, як гаспадыня пазірквала на хлопцаў, Мікалай зразумеў, што хлопцы былі ў хаце першы раз, і гаспадыня іх вельмі мала ведае. «Тады адкуль яны ўзяліся?» — узнікла і пачало мучыць пытанне. Не ад страху за сваё жыццё турбаваўся Мікалай, але прыходзілася верыць тым чуткам пра бандэраўцаў і жорсткай праўдзе аб забітых упаўнаважаных з раёна, якіх ён ведаў персанальна. Тым часам на стале цьмяна заблішчэла пляшка з гарэлкай, крамяныя салёныя агуркі ўлегліся ў паліваную місу, белыя платкі сала згрувасціліся на талерцы... Гаспадар паналіваў гранёныя шклянкі, прамовіў задаволена і амаль шчасліва:

— Ну, дзякуй Богу, шо вы міне наслухалі і прыйіхалі...

Мікалай слухаў ганарацыю ў свой адрас і глядзеў, як хлопцы, як усе маладыя і нявопытныя да гарэлкі, са спакусай і цікаўным клопатам глядзелі на паналіваныя шклянкі.

— Бярыце, бярыце вашу стограмульку, — кешкалася каля ветурача гаспадыня, — глыніце, цяплей стане...

— Ні мешай чалавіку, сарока, — сказаў на гаспадыню гаспадар.

Тым часам маладыя разам выпілі.

— Моцна, халера, — вымавіў адзін, а другі пацвердзіў:

— Шо агонь...

Другі і трэці раз выпівалі маўчаком, ці робячы нязначныя заўвагі. І калі падышлі да чацвёртай, Мікалай зразумеў, што добра сп'янеў. Сп'янелі і гаспадар, і адзін з хлопцаў, толькі другі хлопец са строгім, амаль мужчынскім тварам не п'янеў, чагосьці хмурыўся, неяк нядобра бліскаў вачыма то на гаспадара, то на гаспадыню, то нават на свайго таварыша. Мікалай хоць і быў, як усякі ветэрынар, добра знаёмы са спіртным, але пасля дарогі, перажыткаў на нейкі момант расслабіўся і адчуў звыклую, знаёмую кожнаму п'яніцу насалоду, але гэтая насалода адчувальна змяншалася, вяртаючы любіцельніка гэтай справы ў нармальны цвярозы стан, а таму, каб вярнуцца да колішняй насалоды, патрабуецца тут жа выпіць наноў, як казала гаспадыня «стограмульку». І выпілі яшчэ, і тут Мікалай зразумеў, што варта было б спыніцца, але было позна. Усё хісталася, цені ад лямпы над столлю здаваліся прывідамі, гаспадар хваліў і кляўся ў любові да савецкай улады, хлопцы брахалі на гаспадара, што ён «пракляты маскаль», а на Мікалая гаварылі, што хоць ён і «маскаль, алэ наш маскаль», і што хутка прыйдзе «Гамэрыка» і ўсіх «ны нашых москалів выкозубыть»... Мікалай працверазеў умомант, пачуўшы такія развагі, даючы сабе ўсведама, дзе і з кім ён сядзіць. Урэшце падала гаспадыня

(Працяг на стар. 10-11)

Музыка

# З МАРАЙ ПРА ВЯЛІКІЯ РОЛІ...

***Шчырыя прыхільнікі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі зусім слушна лічаць, што калі ад прозы жыцця ўсё роўна нікуды не дзецца, то перамежаваць свае празаічныя будні з некалькімі вечарамі прыўзнятага настрою ўсё ж можна. І тады яны ідуць на класічную аперэту ці на мюзікл — і некаторым гледачам не так важна, які будзе спектакль, важна іншае — хто з акцёраў у ім будзе заняты. Так сталыя наведвальнікі тэатра абавязкова маюць сваіх любімых артыстаў, артысты ж — «сваю» публіку. Сярод улюбёнцаў публікі — артысты музкамедыі Зінаіда Вяржбіцкая ды Герман Казлоў, гутарку з якімі мы прапануем увазе чытачоў.***



**— У многіх спектаклях вы з'яўляецеся партнёрамі, па законах жанру вашы героі — то закаханыя, якія імкнуцца да шлюбу, а то і сямейная пара. У жыцці вы сапраўды сямейная пара, і ўжо многа гадоў. Ці адбіваецца гэта нейкім чынам на вашай творчасці?**

**З.Вяржбіцкая:** Колькі я працую ў тэатры, заўсёды побач працаваў са мною муж, іншай сітуацыі ў маім жыцці проста не было. Мне здаецца, што калі б мы нашы шматлікія тэатральныя праблемы пераносілі і ў сваю хатнюю атмасферу, то гэта перашкаджала б сямейным узаемаадносінам. Але мы неяк інтуітыўна навучыліся гэтага не рабіць. На асноўныя жыццёвыя і маральна-этычныя прынцыпы ў нас аднолькавыя погляды, можа, таму спрэчак не ўзнікае і па творчых пытаннях. Адзінае — не люблю, калі нам даводзіцца быць партнёрамі на сцэне. А на гастролях ці ў канцэртных паездках нават зручна, калі ёсць на каго перакласці частку клопатаў.

**Г.Казлоў:** Нельга сказаць, што наша сумесная праца ў тэатры нейкім чынам адбіваецца на сямейным жыцці. Я не магу сказаць, што гэта дрэнна ці добра. Гэта — нармальна. Адзінае, у чым я ўпэўнены, — уменне пераключацца з творчых праблем на сямейныя тут неабходна.

**— У нашым тэатры вы ўжо 14 гадоў. А да прыезду ў Мінск у вас быў даволі значны вопыт працы на растоўскай сцэне. Але ў Растоў вы прыехалі з Масквы, дзе абое нарадзіліся, атрымалі адукацыю. Дык чаму ж, калі іншыя выпускнікі тэатральных ВНУ, якія прыехалі з правінцыі вучыцца ў сталіцу, намагаліся і застацца там працаваць, то вы, меўшы гэту магчымасць, паехалі працаваць у правінцыю?**

**Г.К.** Растоўскі тэатр па сваім творчым ўзроўні ў той час не быў правінцыйным. У былым Саюзе пасля маскоўскага тэатра аперэты ён быў самы старэйшы, са сваімі даўнімі традыцыямі і культурай. Дый многія славутыя акцёры маскоўскай аперэты выйшлі менавіта з растоўскага тэатра. Мяне запрашалі пасля вучобы застацца ў маскоўскай аперэце, але прывабіў растоўскі тэатр, у якім панаваў дух сапраўднай творчасці, была плеяда выдатных акцёраў старэйшага пакалення, здатных узнімаць агульны ўзровень спектакля, калі нават рэжысёр дзесьці «недацягваў».

**З.В.** Мы ў адзін дзень прыйшлі ў растоўскі тэатр. Гэта было ў 73-м. Сапраўды, ніякага адчування правінцыйнасці не было менавіта з-за высокага творчага і мастацкага ўзроўню тэатра. Тут склаўся такі выдатны касцяк акцёраў старэйшага пакалення, як А.Ветраў, Р.Расцінін, Л.Краузе, у якіх вучыліся і мы, і іншыя маладыя артысты. Але асаблівы творчы ўзлёт тэатр набыў у 1975—79 гг., калі там працаваў рэжысёр Кірыл Васільеў. Самыя яркія ўспаміны — пастаноўка музычнай камедыі Я.Пцічкіна «Бабскі бунт». Аўтарам лібрэта быў сам рэжысёр — К.Васільеў, створана яно было па матывах твораў М.Шолахава, вершы напісаў М.Пляцкоўскі. Мы разам з рэжысёрам выязджалі ў станіцу Вёшанскую, размаўлялі з самім Шолахавым, пранікаліся тым непаўторным каларытам данскога казацтва, які потым выявіўся ў самой пастаноўцы. Было вельмі прыемна ўсведамляць, што персанаж п'есы «выпісаны на цябе», што ты ўдзельнічаеш у жывым працэсе нараджэння мастацкага твора. На жаль, так склалася, што Васільеў пайшоў з растоўскага тэатра. І паступова запал творчага напружання пачаў згасаць. Да таго ж, той касцяк, які складалі акцёры старэйшага пакалення, пачаў распадацца, бо многія з іх паступова сыходзілі са сцэны.

**— І гэта абумовіла ваш пераход у іншы тэатр? Чаму вы вырашылі пераехаць менавіта ў Мінск?**

**З.В.** Нас запрашалі таксама ў Адэскі тэатр аперэты. Але менавіта на той перыяд у адэскім тэатры асабіста для сябе мы не бачылі перспектыў. Больш прыцягваў беларускі тэатр музкамедыі, які знаходзіўся ў стадыі станаўлення, у трупу патрабаваліся артысты нашага амплуа. Тады яшчэ тэатр не меў свайго памяшкання, усе жылі надзеямі, але агульны псіхалагічны настрой быў прыўзняты, і, нягледзячы на часовыя цяжкасці, у тэатры адчуваўся дух творчасці. Значэнне мела і тая акалічнасць, што ў Мінску жылі нашы сваякі, якія напачатку дапамаглі нам уладкавацца з жыллём.

**— Як праходзіў працэс вашага ўваходжання ў новы калектыў?**

**З.В.** Напачатку мы разам з усімі артыстамі дзялілі тыя нягоды, якія былі звязаны з адсутнасцю ў тэатра ўласнага памяшкання. Праз два гады пасля нашага прыезду ў Мінск тэатр атрымаў цудоўны будынак. Усе спадзяваліся, што калі адпадуць цяжкасці арганізацыйнага і матэрыяльнага характару, то пачне паспяхова развівацца творчы працэс. Але адсутнасць рэжысёра, таго лідэра, які б уносіў свае творчыя ідэі і згуртоўваў вакол сябе трупу, адмоўна адбівалася на творчым патэнцыяле тэатра. Пасля напружанай працы ў Растове я сама рвалася ў работу. Напачатку іграла Адэль у «Лятучай мышы», але ў спектакль гэты ўваходзіла з нейкай душэўнай цяжкасцю, мяне не задавальняла сама пастаноўка, якую ажыццявіў А.Малчанаў. Былі зроблены вялікія музычныя і сцэнічныя купюры, ад гэтага твор значна прайграў, мая гераіня страціла некалькі яркіх сцэнічных момантаў.

Быў у нас тады пастаўлены мюзікл «О,

# КАЖУХ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

грушавага ўзвару, папілі, неяк праяснілася ў галаве, усім парабілася сарамнавата, што так умомант і хутка пап'янелі, і пачалі рабіць выгляд, што гавораць разумна і развažліва, як бы даказваючы, што быццам бы і не п'янелі. Толькі той, з суровым тварам хлопец сядзеў маўчаком, глядзеў на Мікалая і раптам сказаў:

— Ні люблю маскаля...

Гаспадар выйшаў з-за стала, пачаў цягаць з печы нейкае жыта, гаспадыня хуценька прыбірала посуд, грукаючы талеркамі, але заглушыць голас хлопца было немагчыма. І Мікалай устаў, каб пайсці на двор, пачаў усцягваць на сябе кажух.

— Я сказаў, што ні люблю... — і тут раптам гэты хлопец ускочыў на ногі, зрабіў пару крокаў да Мікалая, ухапіўся за кажух... *Ён пільна ўзіраўся ў гэты* кажух, перамацваў яго, і ў сярэдзіне ў Мікалая забегалі халодныя мурашы — тварам гэты хлопец-бандэравец чымсьці напамінаў твар таго даўняга старога кватаранта-высяленца.

— Дэ ты ўзяў гэтага кажуха? — гучна прашаптаў хлапчына.

Як полымем шуганула ў галаве ў Мікалая, азарылася чырвоным святлом вычварная карціна: глухі пярмяцкі лес, і ў барвяных водсветах паміраючага на сыходзе сонца грукае аб медны ствол сасны закляклае цела кулака-западніка. І вось гэты праклятьі кажух, здзёрты з яго трупа...

— Асцепяніся, Волесю, шо ты шолотыш? — умяшалася гаспадыня.

— Дэ ты ўзяў гэтага кажуха? — церабіў Мікалая хлопец.

— Астап, — крыкнула гаспадыня, — супыні яго, прычапіўся немаведама чаго, дав дзецям гарэлкі, падурнелі...

Муж увайшоў у хату з сенцаў, моцна ўзяў Волеся за плячо і крыкнуў блізка, ледзь не ў вуха:

— Дай сабе ўпыну, хлопчэ, а то звяжэмо!

— Дзядзька, то ж кажух майго бацькі! — з жальбой, але і з пагрозай у голасе крыкнуў хлопец. Мікалай сутаргава сцепануўся.

— Намярэшчылася табе, хлопчэ. Сядзіце там в сваім бункеры, ніц не робіце, мазгоў німа, паадпівалі... — валентавала гаспадыня.

— Цыць, — ярасна крыкнуў на яе муж і адразу паглядзеў на Мікалая, але Мікалай зрабіў выгляд, што нічога не адбылося, Волеся выштурхалі на свежае паветра, ускочылі ў нашыхаваныя сані, Астап цмокнуў на каня.

Вызарыла, бралася на добры мароз. Жаласліва пішчалі палазы, адзаду п'яны дзяцюк крычаў пра тое, а дзе яго татка, забралі маскалі, раскулачылі... Нарэшце ён заспяваў «Ны бразгай, пырыпёлачка, в свого дзвоночка...»

Старшыня сельсавета ўсю дарогу маўчаў, толькі пацмокваў на каня, а як заблішчэлі яркія колкія праз сухое выстылае паветра агеньчыкі мястэчка, нацягнуў лейцы, спыніў каня і сказаў:

— Так шо, пане дохтар, усё, што бачылі і чулі, — магіла.

І пад самы ганак прывёз моўчкі.

— А что этот Волесь, выдумал или как, про кожух этот, тулуп... — не мог не спытаць Мікалай.

—Ну, бацьку яго ў Сібір загналі, загіб там... Таму такі нарваны... Спасібачкі, дохтарка, але вы па раёне лепш не раз'язджайце, посоджвайце ў цэнтры... Стрэльнуць можуць... Усё ж вы — савецкі...

Той жа ночы Мікалай засунуў кажух за габрэйскую, без люхты, грубу. Вечарамі ў вокнах не сядзеў, на раён асабліва не візітаваў.

Тым часам на раён нагналі чырвонапагоннікаў, па лясах рабілі аблавы, ловячы «бандытаў». У тым сельсавеце, дзе ён быў зімою, разбамбілі нямецкі бункер, пабілі бандэраўцаў. Старшыню, карову якога ён уратаваў, пагналі па этапе.

Прайшло два-тры ціхія месяцы. Ні забойстваў, ні рабаўніцтваў. Спакойна стала жыць, мірна.

Неяк сонечным дзяньком Мікалай выбраўся з'ездзіць у бліжшае сяло. Каб не задзьмувала ў ногі, схапіў у сенях нейкі бэбах і кінуў у воз, і як толькі паехаў, убачыў, што гэта быў той самы кажух, які, быццам жывая істота, сам ішоў следам за ім. Так і ўявілася, што ў гэтым кажусе сядзіць замардаваная нялюдствам душа таго палешука, усялякім чынам дасягаючы таго месца, дзе яна была народжана і пушчана на Зямлю. Раззлаваны Мікалай мацней нокнуў на каня, баючыся разважаць, бо пачаў бы баяцца. Недалёка ад мястэчка ўехаў у *альшыннік, бэзавага колеру пупіхі якога* абяцалі не сёння-заўтра распусціцца, паказаўшы на святло зялёныя пучочкі скручаных лісцейкаў. Глянуў раз на гэтыя альховыя галіны Мікалай, глянуў другі, радасна ўздыхаючы, і раптам сярод нагрэтых сонцам ствалоў вольх убачыў чалавека з нямецкім аўтаматам на плячы і пазнаў з нейкай злой радасцю ў гэтым чалавеку Волеся. Радасць была ад таго, што ён нейкім чынам прадчуваў гэтую сустрэчу. А злаваўся на самога сябе, бо нічога добрага ад гэтай сустрэчы ён не чакаў. Перасунуўшы шмайсэр на грудзі, новымі ладнымі ботамі Волесь крок за крокам ступаў да воза, а Мікалай, можа,

мілы друг!» В.Лебедзева /п'еса М.Разоўскага па матывах Г.Мапасана/. У гэтым спектаклі ролю Клацільды я іграла з задавальненнем. І рэжысёр К.Каўфман знайшоў цікавае пастановачнае вырашэнне, і музычны матэрыял мне падабаўся, але, на жаль, спектакль хутка знялі з рэпертуару. Потым мне дазволілі ўвесціся ў «Маю цудоўную лэдзі» на ролю Элізы. У гэтым мяне падтрымаў музычны кіраўнік спектакля А.Лапуной. Многае мне як актрысе даў спектакль «Ноч у Венецыі» ў пастаноўцы С.Штэйна»: роля Чыбалеты, якую я выконвала, вымагала высокай акцёрскай тэхнікі і наогул майстэрства. Але ўсё ж я адчувала, што маё субрэтачнае амплуа не дае мне магчымасці на поўную рэалізацыю.

Г.К. За 14 гадоў працы ў Мінску мне яшчэ не ўдалося сыграць столькі спектакляў, колькі я сыграў у Растове за 6 гадоў... Неўзабаве пасля нашага прыезду ў Мінск тэатр пачаў працаваць над пастаноўкай народнай камедыі Р.Суруса «Несцерка». Мне цікава было і працаваць над сваёй роляй, і наогул — спасцігаць дух і каларыт сапраўднай народнасці, якім прасякнуты гэты твор. І вось ужо 14-ты сезон я працую ў «Несцерку» і ўсё часцей задумваюся: хіба гэта добра, што на афішы тэатра значыцца толькі адзін сапраўды нацыянальны па духу і па форме твор?

З.В. З нашым удзелам была пастаўлена яшчэ адна беларуская музычная камедыя Р.Суруса — «Судны час». Тут ужо іншая тэматыка — лёс беларускага сялянства ў час вайны. Сёння ў нас ідуць дзве музычныя камедыі беларускіх кампазітараў: «Мільянерка» Я.Глебава і «Джулія» У.Кандрусевіча. Цікавыя спектаклі, але іх тэматыка належыць да сусветнай класікі. Вось у оперным тэатры за апошні час з'явіліся дзве гістарычныя оперы на нацыянальным матэрыяле, а наш тэатр кампазітары неяк абмінаюць. Мне здаецца, і гледачу было б цікава паглядзець вясёлую беларускую камедыю, тым больш, што музычны тэатр не павінен стаяць у баку ад нацыянальнага адраджэння.

**— Вельмі прыемна, што вы, некарэнныя беларусы, так разважаеце. Я ведаю, што вы ніколі не абмінаеце беларускамоўныя друкаваныя выданні. Прыемна даведацца, што вы і сыну свайму перадалі любоў да нашай зямлі, што ён пачаў сур'ёзна вывучаць беларускую мову і гісторыю... Але прадоўжым нашу гаворку аб праблеме адсутнасці ў вашым тэатры рэжысёра-асобы...**

Г.К. Тэатр увесь час зведвае рэжысёрскі голад. Вось зараз наш дырэктар вымушаны ўскласці на сябе абавязкі мастацкага кіраўніка. Але гэта не выйсце. Немагчыма адначасова займацца адміністрацыйнай работай і вырашаць творчыя пытанні. Тэатру патрэбны рэжысёр, які б, рэалізуючы свае творчыя задумы, турбаваўся таксама пра творчы лёс кожнага артыста, каб не існавала такога паняцця як незапатрабаванасць таленту. Калі рэжысёр пастаянна працуе ў тэатры і добра ведае трупу, то ў кожнага акцёра больш шанцаў на рэалізацыю, і больш трапным будзе акцёрскае пападанне пры размеркаванні роляў.

**— Але ж быў перыяд, калі ў вашым тэатры працаваў такі рэжысёр. Я маю на ўвазе Вячаслава Цюпу. Вакол яго згуртаваўся касцяк акцёраў, якіх любіла публіка. Цюпа паставіў тады 4 спектаклі, а «Клапа» ў 1987 г. ставіў, ужо не будучы рэжысёрам гэтага тэатра. Усе ягоныя пастаноўкі вызначаліся яркасцю, нетрадыцыйнасцю рэжысёрскага вырашэння, і акцёрскія работы ў іх былі вельмі запамінальныя. Я добра помню ўсе тыя пастаноўкі яшчэ і таму, што тады існаваў клуб прыхільнікаў аперэты, і фрагменты ўсіх работ можна было пабачыць яшчэ да прэм'еры. На жаль, перыяд гэты быў непрацяглы. Цяпер не хочацца ўспамінаць пра канфліктную сітуацыю, у выніку якой Цюпа вымушаны быў пайсці ў іншы тэатр, але вы пра гэты перыяд вашай творчасці, я ўпэўнена, можаце многае расказаць.**

З.В. Сапраўды, са з'яўленнем Цюпы ў тэатры ўзнікла атмасфера сапраўднай творчасці. Ён — рэжысёр са сваёй асаблівай эстэтыкай, патрабавальны да акцёраў, але не катэгарычны, з ім можна спрачацца.

**— У спектаклі «Клоп» /музыка В.Дашкевіча, па матывах твораў В.Маякоўскага/ вы, Зінаіда Віктараўна, адышлі ад свайго звыклага амплуа. Ваш дуэт з Рыгорам Харыкам у гэтым творы па сіле эмацыянальнага ўздзеяння дасягаў рысы трагедыйнасці. Пранізлівая песня шчырага сэрца вашай гераіні — Зоі Бярозкінай — не толькі перапоўнена болем загубленага кахання, у ёй ёсць падтэкст — асуджэнне сацыяльных абставін, якія прыводзяць да трагедыі. Наогул, заўсёды заўважаеш ваша ўменне нават невялікія характарныя ролі выконваць з вялікім драматычным майстэрствам.**

З.В. Мне здаецца, што гэтае майстэрства, калі яно ў мяне ёсць, надалей так і застанецца незапатрабаваным. Мая мара — сыграць вялікую характарную ролю, не ведаю, калі яна ажыццёвіцца: век артысткі аперэты непрацяглы...

Г.К. У нетрах нашага тэатра тады арганізаваўся як бы яшчэ адзін, альтэрнатыўны тэатр, або тэатр Цюпы, да якога імкнуліся тыя акцёры, якія разумелі яго эстэтыку. Як вядома, не збыліся нашы надзеі, тэатр Цюпы арганізаваць не ўдалося, хоць мы звярталіся ў розныя інстанцыі, у тым ліку і ў Міністэрства культуры. Усё скончылася тым, што Цюпа быў вымушаны перайсці ў ДАВТ. А з тых спектакляў, што ён паспеў тады паставіць, я больш за ўсё люблю «Іграем у прынца і жабрака», я проста з захапленнем у ім працаваў. Шкада, што тая пастаноўка хутка сышла з рэпертуару.

**— Мне здаецца, што «Іграем у прынца і жабрака» па сваёй эстэтыцы і прынцыпе пастаноўкі больш прызначаўся для дарослага гледача, таму гэты «феерычны атракцыён для дарослых і дзяцей» варта было паказваць і вечарам, як гэта практыкуецца цяпер са спектаклем «Дзіцячы альбом». Тады б ён больш пратрымаўся на сцэне... Асабіста я, як глядач, заўсёды чакала наступнай пастаноўкі Цюпы. І вось ён паставіў мюзікл «Хэло, Долі!», а цяпер працуе над «Халопкай» А.Стрэльнікава. Якія ў вас адчуванні і думкі наконт гэтага?**

Г.К. Тое, што Цюпа прыйшоў у тэатр для пастаноўкі спектакляў, вельмі добра. Але гэта не можа істотна змяніць становішча ў калектыве, бо ён усё ж застаецца рэжысёрам, якога запрасілі. У Цюпы цяпер ёсць асноўная работа ў оперным тэатры, ён, вядома, ёю заклапочаны, вольнага часу няма, таму нам вярнуць былую атмасферу ўжо немагчыма. Тым больш, што няма ў тэатры тых выдатных акцёраў — Кузмянкова, Харыка, з якімі мы тады працавалі.

З.В. Так, і нас, і Цюпу тады прыпынілі на ўзлёце, а цяпер ужо іншы час, сітуацыя змянілася, і самі мы сталі трошкі іншымі. Я лічу, што кампрамісы не на карысць мастацтву, ідучы на кампраміс у творчасці, мастак губляе сваю індывідуальнасць. Так, рэпецыруем «Халопку». Мы з Германам атрымалі нашы старыя амплуа. Я працую адначасова і над субрэтачнай, і над узроставай ролямі, але больш схіляюся да апошняй.

Г.К. У «Халопцы» маю ролю, якая ў многім не супадае з маім акцёрскім складам. Таму з прапанаванага матэрыялу я буду імкнуцца зрабіць тое, што больш адпавядае майму ўяўленню і майму ўнутранаму адчуванню сябе ў гэтай ролі.

**— Так, пра вашу схільнасць да імправізацыі я чула, прынамсі, ад рэжысёра С.Штэйна, які паставіў у тэатры музкамедыі нямала спектакляў ад кампазітара Р.Суруса. А як наконт залежнасці акцёрскай прафесіі? Ёсць жа рэжысёры-дыктатары...**

Г.К. Я на сабе гэтага не адчуваю. Напрыклад, калі не так даўно А.Барсегян паставіў у нас «Марыцу», я дабіўся не толькі змены асобных мізансцэн, але і прапанаваў перабудаваць музычны матэрыял.

**— Ужо год вы іграеце ў мюзікле У.Кандрусевіча «Джулія» ў дуэце з Наталляй Гайдай. Але ставіўся гэты спектакль без вашага ўдзелу, ролю Майкла і рэпеціраваў, і выконваў толькі Рыгор Харык — пастаянны партнёр Н.Гайды, артыстычная прырода якога зусім не супадае з вашай. Я помню, як вы першы раз ігралі ў гэтым спектаклі: было такое адчуванне, што вас нешта стрымлівае, не было заўсёднай іскрынкі ў вашых вачах. А цяпер вы іграеце лёгка і віртуозна, а галоўнае — з задавальненнем, так як іграеце лепшыя свае ролі ў лепшых спектаклях.**

Г.К. Так, напачатку я не мог з усёй паўнатой адчуць атмасферу спектакля. Наогул, я не люблю ўводзіцца ў спектакль, які быў пастаўлены без майго ўдзелу. Але паступова я пранікся атмасферай, асвоіў прастору мізансцэн, адчуў сябе ў рэчышчы пастаноўкі. Гэтаму спрыяла і цудоўная музыка У.Кандрусевіча, і мая партнёрка Н.Гайда — з якой мне прыемна працаваць, а таксама — сама пастаноўка. А калі гаварыць шчыра, то я супраць уводу ў спектакль новых выканаўцаў.

З.В. Гэта ў нас прынята падтрымліваць спектаклі, каб яны жылі доўга. Мы не можам сабе дазволіць здымаць з пракату спектаклі праз паўгода і нават праз год, бо не можам выпускаць новыя з такой жа хуткасцю. Не будзем гаварыць пра «заграніцу», дзе ўсё менавіта гэтак і адбываецца, дзе могуць сабе дазволіць выпускаць некаторыя спектаклі, каб паказаць іх толькі некалькі разоў. У нас жа, акрамя ўводаў, існуе практыка падрыхтоўкі спектакля ў двух ці нават трох складах. Раней было добрае слова — дублёр, цяпер ад гэтага паняцця адмовіліся, таму з'явілася паняцце прэстыжнасці ці непрэстыжнасці першага і другога складаў. Мноства выканаўцаў — не на карысць спектаклю, «расхалоджвае» акцёраў. Калі ў спектаклі адзін склад, то выпрацоўваецца ансамблевасць, калектыўная адказнасць.

**— Як вы ставіцеся да надання артыстам ганаровых званняў? Вось Герман Віктаравіч у 1988 г. атрымаў званне заслужанага артыста, а вы, Зінаіда Віктараўна, таксама вылучаны на атрыманне гэтага ганаровага звання...**

З.В. У нас з Германам погляды наконт гэтага аднолькавыя. Як і большасць майстроў сцэны, мы лічым, што ганароваму званню павінна адпавядаць яго адэкватная напоўненасць. Артыст, атрымаўшы ганаровае званне, не мае ніякіх ні маральных, ні матэрыяльных прывілей. Тая мізэрная надбаўка да зарплаты, якая існуе, — чыста сімвалічная, пра яе нават няёмка гаварыць. Калі атрымаць гэтае званне ў маладым узросце, у росквіце акцёрскай творчасці, тады нейкі маральны стымул будзе, але ў нас, як правіла, званне даецца пасля таго, як асноўны акцёрскі рэсурс выпрацаваны, як бы не за творчасць, а за выслугу гадоў. Вось за мяжой ніякіх званняў артыстам не прысуджаюць, і ім, здаецца, ад гэтага не горш...

**— Шчыра дзякую вам за гутарку. Няхай ваша праца і ў далейшым будзе плённай і прынясе вам адчуванне поўнага творчага задавальнення.**

**Гутарыла Зоя ЛЫСЕНКА**

---

паспеў бы пусціць каня наўскач, але не толькі разумеў, што куля хутчэйшая за любога каня, але не мог і не хацеў уцякаць.

—О-о, гэта ты, дохтар... — сказаў здаля лесавік, спакойны, ураўнаважаны, з канечным веданнем таго, чаго ён хацеў, быццам упэўнены ў тым, што праўда Сусвету ляжыць у яго за пазухай, а прыблуда ветурач гэтае праўды не мае, а мае толькі крыўду ў выглядзе здзёртага з мерцвяка кажуха, які ляжаў у нагах, і ў якім, здавалася, ляжала, як зарэзаны баран, душа бацькі маладога чалавека... Мікалай бачыў перад сабой не гаспадара гэтага сонечнага пералеска, па якім пырхалі з дрэва на дрэва балюча-яркія лімонніцы-матылькі, ён бачыў гаспадара свайго жыцця, нейкага як быццам Бога, што трымаў яго рукой за сэрца: сцісне, рване — і няма нічога, цемра... Леташнім альховым лісцем засыпле цела за карчамі...

— Так гэто вы, дохтарко... — гаварыў хлопец, падышоўшы да воза і мацаючы рукой кажух, сам думаючы пра нешта іншае, бо на Мікалая не глядзеў, бо на Мікалая глядзела, як бы незнарок, чорненькая дзірачка аўтаматнай рулі.

— От мой і тата, от мой і родны край, — Волесева рука абвяла наваколле, — ён гаварыў далей, — ты знаеш, дохтарка, не можу жыць быз гэтага, — зноў рука абвяла наваколле, — бачыш, як хораша, матылькі после зімы лятаюць, жаворонак свіргоча, як хораша после зімы, га?

Тут Мікалаю ўспомнілася, што вар'яты не забіваюць, але Волесь сказаў:

— Маліся Богу, маскаль...

Цяпер сумненняў не было. Салодкая млявасць разлілася па целу. Моцна, нясцерпна захацелася схадзіць у туалет, пацяжкаму...

— Хлопча, — бяскроўнымі вуснамі прашаптаў Мікалай, вышукваючы ў памяці ўсе тыя мясцовыя паляшуцкія словы, якія адзіна маглі прайсці да свядомасці гэтага чалавека, які трымаў у руках і ягоную пагібель, і ягонае жыццё, але словы мітусіліся і знікалі з памяці, як бы не хацелі служыць яму, Мікалаю, бо ён меў сваю, адрозную і чужую ад гэтай гаворкі мову.

— Татка мой, татка... — гаварыў Волесь, клычучы воўну бацькавага, як ён думаў, ці хацеў думаць, кажуха... І нагнуў галаву, і адвярнуўся, бязгучна плачучы, адышоў метраў колькі і застыў, ахапіўшы галаву рукамі — Мікалай ведаў, што як толькі ён што скажа, або рване каня, пусціць яго наўскач, то гэтым парушыць усё тое, што рабілася ў душы хлопца, а гэтым не толькі парушыць той светлы боль і ціхі смутак сынавай жалобы на бацьку, але і парушыць самога сябе. Таму Мікалай сядзеў смірна, не варушыўся. Конь пазіраў фіялетавым зрокам на людзей, быццам дзівіўся іхнім стасункам, узяўся чухаць гарбаносае пераносся з белай пралысінай аб канец аглоблі. А потым конь не вытрымаў стаяння і ступнуў пару раз наперад.

— Трр-р! — нацягнуў лейцы Мікалай, і тут убачыў, што Волесь, не адымаючы адну руку ад вачэй, другой махнуў яму: едзь, маўляў. Мікалай адпусціў лейцы, паплылі алешыны. Як Мікалаю не хацелася глядзець на бандэраўца, ён гэтага не рабіў, толькі момантаў чакаў адзаду стрэлу, азірнуўся — хлопец стаяў нерухома. За пералескам яшчэ раз азірнуўся — бандэравец пацяху крочыў углыб лесу. Мікалай сцебануў каня ляйчынаю. Зараз усё тое, што рабілася вакол Мікалая, здавалася яму новым. Адчуванне таго, што ён нанава нарадзіўся на свет, перапаўняла сярэдзіну. Хацелася крычаць, спяваць, галёкаць. Ён глядзеў на бліскучыя жалезныя шыны на драўляным коле воза, і яны так радасна і зіхотка ззялі на сонейку, што ён упершыню ў жыцці ўразумеў, як хораша быць, жыць.

— Это же я живу, это же я живу, — безупынна паўтараў Мікалай, гонячы штосілы каня ў вёску, хутчэй да людзей.

Пасля гэтага выпадку, недзе ў маі месяцы, на цэнтральную вуліцу мястэчка, да райваканкама прывезлі целы двух забітых бандэраўцаў. Іх знялі з палутаркі, паклалі радком, прыхілілі спінамі да мура, а на грудзі аднаму пачапілі паперыну з крыва напісанымі літарамі: «ОНИ ВАС ГРАБЯТ!»

Акрамя гэтага, у нежывыя рукі забітых ўставілі боханец хлеба і кавалак сала. Калі Мікалай прайшоў праз натоўп абывацеляў і стомленых міліцыянераў і чырвонапагоннікаў, дык убачыў, што той забіты, які трымаўся ўтрупянелай рукой за жывот, з якога выпаўзлі чысценькія беленькія кішкі, быў Волесь. Той самы Волесь, які падарыў яму жыццё, чалавек, якому хапіла любасці да жыцця, да людзей, канкрэтна да яго, Мікалая, і цяпер хлопца няма, ён нежывы, мёртвы, і доўгія мухі гаспадараць на яго лобе.

Не бачачы перад сабой свету, паваліўся Мікалай дахаты. Уночы ляжаў, варочаўся, блымаў вачыма, адчуваючы і за сабой віну ад таго, што ўрабілася. Прайшоў і месяц, прайшоў і другі, а пачуццё віны не сыходзіла. Мікалай схуднеў, знаровіўся.

Аднойчы надвячоркам, прыхапіўшы заступ і паляшуцкага кажуха, Мікалай выйшаў за мястэчка, да могілак. Там няскора, у прыцемках, ён адшукаў дзве свежыя магілы. Забітых пахавалі тут, без крыжоў, нават без каменьчыкаў у галовах. Крыжы з'явіліся нядаўна. Мікалай не ведаў, дзе, у правай ці левай магіле пахаваны Волесь, таму пракапаў равок паміж магіл, акуратна злажыў там кажух, няўмела перахрысціў яго і засыпаў пульхнай зямлёй, і быццам звяртаючыся да душы таго свайго кватаранта сказаў:

— Спі тут, з Богам.

*Студзень, 1991 г.*

# «ПРАЦАВАЦЬ З ІМКНЕННЕМ ДА ВЫШЭЙШАГА»

*(Пачатак на стар. 5)*

— Спачатку хачу зазначыць, што актывістам «Бацькаўшчыны» было вельмі няпроста прыняць рашэнне аб падрыхтоўцы да з'езда ва ўмовах, калі супраць яго выступала большасць дэмакратычных сіл. Але калі мы прынцыпова вызначаліся, то давялося шукаць такія падыходы да справы, якія б забяспечылі правядзенне з'езда на карысць не столькі ўрада, колькі на карысць беларускай справы. Мне здаецца, што гэта ўдалося зрабіць, хоць і было часам даволі цяжка.

Асаблівасцю з'езда было тое, што ўпершыню, на маю думку, быў знойдзены новы ў нашых умовах шлях да супрацоўніцтва паміж дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі. У савецкія часы, калі грамадскія арганізацыі былі на службе ў дзяржавы, усе сумесныя мерапрыемствы праводзіліся пры поўным дамінаванні апошняй. Цяпер жа сітуацыя змянілася. І калі наша дзяржава хоча быць дэмакратычнай, то яна павінна лічыцца з грамадскімі сіламі, паважаць іх і супрацоўнічаць з імі на партнёрскіх пачатках. Такая спроба і была зроблена пры падрыхтоўцы гэтага з'езда. Не адразу ўсё ішло гладка, але з цягам часу дзяржаўныя структуры адчулі сілу грамадскасці, і наша сумесная праца пачала набываць больш цывілізаваныя формы.

Што да вынікаў з'езда, то яны, на наш погляд, даволі значныя. Я тут мушу сказаць добрае слова ў адрас рэдакцыі «ЛіМа». Газета не абмежавалася рэпарцёрскімі паведамленнямі, але вельмі аператыўна надрукавала і аналітычны матэрыял па слядах падзеі, прычым адразу ж двух аўтараў, адлюстраваўшы розныя ўспрыманні. Мне, як аднаму з арганізатараў з'езда, нават цяжка дадаць нешта новае да тых канкрэтных ацэнак, якія пададзены ў лімаўскіх публікацыях. Там якраз адлюстравана асноўная сутнасць падзеі, якую і закладвалі ў яе арганізатары. Гэтая сутнасць і ёсць асноўны вынік з'езда — арганізацыйнае афармленне сусветнай беларускай супольнасці. У грамадскім жыцці краіны ўзнікла новае паняцце, новы фактар, можна нават сказаць, новая грамадская сіла. І ўсё гэта ў канчатковым варыянце можна разглядаць як агульны вынік таго працэсу кансалідацыі беларускай нацыі, які распачаўся разам з новым беларускім адраджэннем. Так што да яго спрычыніліся ўсе дэмакратычныя сілы як у Беларусі, так і дыяспары, нават і тыя, хто спачатку адмоўна ставіўся да гэтага мерапрыемства.

**— Пытанне пра войска. Пасля з'езда і Мінабароны, і Саюз афіцэраў зрабілі закіды аб «юрыдычнай неправамоцнасці» рэзалюцыі па вайсковым пытанні. Што вы скажаце на гэты конт?**

— На гэтым пытанні хацелася б прыпыніцца больш падрабязна, бо яно было адным з найбольш вострых на з'ездзе.

Рэдакцыйная камісія з'езда пры падрыхтоўцы праектаў дакументаў вельмі ўважліва разглядала і пытанне аб іх юрыдычнай абгрунтаванасці. Мы лічым, што ўдзельнікі з'езда, беларусы, чые продкі будавалі гэтую дзяржаву, маюць права выказаць сваю думку аб тым, якой яны хочуць бачыць нашу агульную Бацькаўшчыну — Рэспубліку Беларусь. Гэтыя погляды выкладзены ў асноўным дакладзе на з'ездзе і прынятай ім Дэкларацыі аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва. Не можам мы быць абыякавымі і да тых атрыбутаў дзяржаўнасці, ад якіх найперш залежыць яе лёс. Да такога ўзроўню пытанняў належыць і вайсковае. Таму з'езд і выказаў сваё стаўленне да яго. Зроблена гэта з пазіцыі, вядома ж, крытычнага падыходу да сітуацыі ў войску, але і з жаданнем, найперш, палепшыць яго стан, а не ўзводзіць марны паклёп, як гэта лічыць Міністэрства абароны. У той жа час рэдакцыйная камісія была супраць уключэння ў тэкст заявы аб вайсковым пытанні патрабавання аб адстаўцы міністра абароны, як прапаноўвалі некаторыя ўдзельнікі з'езда. Сябра рэдакцыйнай камісіі М.Статкевіч прапанаваў зняць гэты пункт з тэксту заявы, што і было зроблена. І справа тут больш у тактоўнасці, чым у юрыдычнай неабгрунтаванасці. Бо і на гэты конт беларусы маюць права выказаць сваё меркаванне.

Здзіўляе ў пазіцыі Міністэрства абароны найбольш тое, што, адмаўляючы ў праве на думку пра беларускія збройныя сілы прадстаўнікам беларускай нацыі, яно лічыць абсалютна нармальным давяраць лёс нашай дзяржавы расійскім генералам і наогул трываць на сваёй тэрыторыі чужую армію.

**— З'езд патрабаваў вялізных у сённяшніх умовах фінансавых выдаткаў. Вядома, што іх узялі на сябе дзяржава і ЗБС «Бацькаўшчына», прычым, у роўных прыкладна суадносінах. Адкуль такія сродкі ў вашай грамадскай арганізацыі?**

— Падыход да фінансавання з'езда быў вырашаны неардынарна. Ужо пасля сходу беларусаў блізкага замежжа, які цалкам фінансаваўся дзяржавай, мы вырашылі далей рабіць па-іншаму, а менавіта так, як і вялася сама праца: тыя мерапрыемствы, што ўзяла на сябе дзяржава і фінансавалі ся з дзяржбюджэту. Расходы на гатэль, харчаванне, транспарт і інш. узяла на сябе «Бацькаўшчына». Канечне, гэта нам каштавала вялікіх намаганняў. Істотна дапамаглі некалькі беларускіх прадпрымальнікаў з блізкага замежжа /А.Сілівончык з Сургута і А.Ядчанка з Львова/. Астатнія сродкі ад фінансава-гаспадарчай дзейнасці самога Згуртавання. Мы лічым, што кожны грамадскі рух сёння можа разлічваць на поспех толькі ў тым выпадку, калі будзе моцць і матэрыяльнае апірышча. Таму ад пачатку свайго існавання надавалі гэтаму напрамку дзейнасці значную ўвагу. Наш прынцыповы падыход заключаецца найперш у тым, каб не разлічваць на фінансавую дапамогу эміграцыі, а наадварот, дапамагаць ёй у арганізацыі нацыянальна-культурнага жыцця. Наша эміграцыя не такая ўжо і багатая, і не трэба абіраць яе да ніткі, карыстаючыся шчырай прыхільнасцю многіх з нашых суродзічаў. Але каб забяспечыць гэта ў рэальнасці, трэба працаваць, думаць, як арганізаваць сваю эканамічную дзейнасць так, каб яна не толькі давала сродкі на нашы асноўныя мэты, але і спрыяла развіццю стваральнай эканомікі нашай краіны.

Тых, хто мае пэўныя падазрэнні ў адносінах да «Бацькаўшчыны», магу з поўнай адказнасцю заверыць, што ніякай фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы Згуртаванне не атрымлівае.

**— А якім чынам фарміравалася прадстаўніцтва на з'ездзе? У друку можна было сутыкнуцца — і «ЛіМ» пра гэта пісаў — з закідамі наконт «замежнага» характару з'езда...**

— Паводле прадстаўніцтва гэта быў З'езд сапраўды **беларусаў свету,** а не толькі замежнай дыяспары. Такі быў наш прынцыповы падыход з самага пачатку. Мы глядзелі, каб была прадстаўлена не толькі ўся дыяспара, але і сама Рэспубліка Беларусь. Так што фарміравалася прадстаўніцтва не толькі ад структур «Бацькаўшчыны», але і ад большасці іншых беларускіх суполак свету і з Беларусі, былі таксама і асобныя дзеячы. Я добра ведаю склад нашай эміграцыі па архівах, і таму лёгка было арыентавацца, каму трэба дасылаць запрашэнні. Можна сказаць, што ў зале былі прадстаўлены людзі, што складаюць гонар беларускай нацыі.

Для вызначэння стратэгічных кірункаў развіцця сусветнай беларускай супольнасці з'ездам абрана Вялікая Рада ЗБС «Бацькаўшчына» — каля 100 чалавек, для дзейснай работы — Малая Рада з прадстаўнікоў Беларусі, і яе выканаўчы орган — Управа ў складзе 17 чалавек.

**— Як надоўга, на ваш погляд, захаваецца патрэба ў такой арганізацыі як «Бацькаўшчына»?**

— Мы яшчэ толькі пачынаем, наперадзе вялікая праца.

Я спадзяюся, што роля «Бацькаўшчыны» ва ўмацаванні ўсебеларускіх сувязяў не толькі не будзе змяншацца, але і ўзрасце. Ужо сёння Згуртаванне заняло сталае месца сярод грамадзянскіх утварэнняў краіны і аказалася здольным арганізаваць правядзенне двух вельмі значных мерапрыемстваў — Сходу беларусаў блізкага замежжа /снежань 1992 г./ і Першага з'езда беларусаў свету. Дыяспара наша, нягледзячы ні на якія размовы аб быццам яе выміранні, становіцца важным фактарам у нашым нацыянальным жыцці. У нас сёння вялізная эміграцыя ў блізкім замежжы, на ўсходзе. Гэта як правіла найбольш адукаваныя нашы кадры, хто ў свой час быў пасланы «на павышэнне» ў іншыя рэгіёны ці патрапіў туды па размеркаванні пасля навучання. Многія з іх працавалі ў Маскве і маюць вопыт удзелу ў кіраванні вялізнай краінай. /У Маскве нават узнікла суполка кіраўнікоў-беларусаў, якія гатовы спрыяць Беларусі/. Заходняя эміграцыя ў сваю чаргу дапамагае нашым палітыкам далучацца да сусветнага палітычнага вопыту. Нашы народныя дэпутаты, грамадскія дзеячы ладзяць паездкі ў ЗША, у многім дзякуючы таму, што там жывуць нашы суродзічы. А яшчэ падрыхтоўка афіцыйных, урадавых візітаў... Хто нам лепш дапаможа зразумець і разгледзець замежжа, як ні нашы суродзічы за мяжой? А мы сёння павінны далучацца да сусветнай цывілізацыі.

Дый увогуле, міграцыйныя працэсы ў сучасным свеце пашыраюцца, дзякуючы развіццю сродкаў зносін, пашырэнню кантактаў паміж людзьмі. Паўстае таксама і праблема **новай беларускай эміграцыі.** Цяпер жа шмат хто выязджае ў свет па эканамічных меркаваннях, не адчуваючы сваіх каранёў. Але, апынуўшыся паміж іншых, «свядомых» народаў, такія выязджанцы рана ці позна пачынаюць успамінаць пра свае карані. Чалавек без каранёў жыць не можа, бо гэта робіць яго безабаронным перад светам. Хіба што такое пачуццё прыходзіць у больш сталым узросце...

І тут мы вяртаемся да першапачатку «Бацькаўшчыны»: яна была створана для забеспячэння ўсебеларускай сувязі ў свеце. Але аспект дыяспары — толькі адзін з аспектаў нашай работы. Праблемы дыяспары ў глабальным маштабе не могуць быць вырашаны без вырашэння агульных пытанняў тут, у Беларусі, вось чаму «Бацькаўшчына», як я ўжо падкрэслівала, зацікаўлена глядзіць на ход унутранай палітыкі ў Беларусі, у адрозненне ад іншых арганізацый, што працуюць на замежжа, — «Радзімы» і інш. Думаю, што ЗБС мае і ў гэтым перспектыву для дзейнасці.

**— Нядаўна ў друку з'явіліся паведамленні пра тое, што ў Мінску ідзе падрыхтоўка да правядзення Кангрэса народаў Беларусі; сваё жаданне ўдзельнічаць у ім выказалі быццам бы ўжо 18 палітычных партый. Ці збіраецца прыняць удзел у Кангрэсе і ЗБС «Бацькаўшчына»?**

— Зараз пакуль што цяжка адказаць на гэтае пытанне, таму што не маем дастатковай інфармацыі.

Наш удзел будзе залежаць ад таго, якія мэты гэтага мерапрыемства — кансалідацыя ці раз'яднанне. Выклікае пытанне назва мерапрыемства, маецца на ўвазе збор прадстаўнікоў толькі нацыянальных меншасцей на тэрыторыі Беларусі, ці з удзелам карэннага насельніцтва — беларусаў? Калі апошні варыянт, то як можна суаднесці гэтае мерапрыемства з Першым з'ездам беларусаў свету, які адбыўся зусім нядаўна і на якім таксама прысутнічалі прадстаўнікі народаў, традыцыйна пражываючых на Беларусі, якія выказалі жаданне прыняць удзел — яўрэі, татары, рускія. Акрамя таго, наш з'езд адназначна выказаўся ў Звароце да беларускага народа аб тым, што мы хочам будаваць Беларусь «...як шанаваную, паўнавартасную дзяржаву беларускага народа і іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі».

У сувязі з тым, што гэта быў з'езд беларусаў, праблемы нацменшасцей асобна не абмяркоўваліся, але абмяркоўваліся тыя пытанні, якія аднолькава важныя як для беларусаў, так і для ўсіх, хто жыве ў Беларусі. Па нашым меркаванні, праблемы нацменшасцей могуць быць станоўча вырашаны і іх правы будуць забяспечаны толькі ў тым выпадку, калі набудзе сілу і адродзіцца карэнная нацыя. Тым больш, гэта важна ў нашай краіне, якая з'яўляецца мононацыянальнай, дзе за 70% насельніцтва складаюць прадстаўнікі карэннай нацыі, што адрознівае Беларусь ад многіх іншых дзяржаў.

Прымушае задумацца і той факт, што арганізатарамі з'езда з'яўляюцца партыі і арганізацыі правага накірунку, якія складаюць вядомы Народны рух Беларусі. Гэтыя палітычныя сілы не прынялі ўдзелу ў З'ездзе беларусаў свету, не выказвалі падтрымкі яму і можна думаць, што свае мерапрыемствы яны задумалі, як альтэрнатыву нашаму з'езду, які, як вядома, аб'яднаваў дэмакратычныя арганізацыі, што стаяць на пазіцыях незалежнасці і нацыянальнага адраджэння. Хацелася б толькі, каб гэта не было падобна на арганізацыю інтэрфронтаўскага руху, як у краінах Прыбалтыкі, Малдове. Гэта ўжо небяспечная канфрантацыя і ні да чаго добрага яна не прывядзе.

**— На заканчэнне дазвольце пацікавіцца вашым меркаваннем наконт ролі жанчыны ў сучаснай беларускай палітыцы.**

— Я думаю, што жанчына павінна іграць у палітыцы найперш сваю ўласную ролю — прадстаўляць інтарэсы адной палавіны грамадства. А калі ўлічыць, што найлепш жанчына можа прадставіць і дзіцячыя інтарэсы, то гэта будзе наогул большая частка нацыі.

Жанчына дае жыццё, гадуе дзяцей, таму менавіта яна глыбей ведае кошт чалавечага жыцця, якое ў наш час у асноўным залежыць ад палітыкі. Жанчына можа прыўносіць у палітыку большую адказнасць, памяркоўнасць, у вырашэнні канфліктных сітуацый, а таксама духоўнасць, дабрыню, высокія ідэалы. Невыпадкова асноўным сімвалам Першага з'езда беларусаў свету стала постаць вялікай жанчыны Беларусі — Еўфрасінні Полацкай.

**— Дзякуй за гутарку, і — добрых сіл вам у вашай грамадскай дзейнасці, у жыцці наогул.**

**Гутарку вёў Юрась ЛАГАДА**

З пошты "ЛіМа"

# ПАВУЧЫМСЯ Ў СУСЕДЗЯЎ

Чалавек недасведчаны або грамадзянін замежнай краіны, знаходзячыся ў сталіцы суверэннай Беларусі Мінску 27 ліпеня 1993 года, напэўна, не здагадаўся б, што ў гэты дзень менчукі нешта святкавалі, а тым больш — адзначалі Дзень Незалежнасці. Не буду ўзгадваць пра ўрачыстыя пасяджэнні, фестывалі, канцэрты, наладжаныя з нагоды Дня Незалежнасці. Нагадаю толькі пра адзін з неабходных атрыбутаў адзначэння значных дат — святочнае афармленне горада.

Пабываўшы ў гэты дзень у некаторых мясцінах сталіцы, адразу адзначыў — гарадскія ўлады, дзяржаўныя ўстановы дружна праігнаравалі галоўнае свята Беларусі. 27 ліпеня ў Мінску цяжка было ўбачыць дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Нават тыя арганізацыі ды ўстановы, на будынках якіх летась былі вывешаны дзяржаўныя сцягі, гэтым разам чамусьці гэтага не зрабілі, а галоўная вуліца сталіцы праспект Ф.Скарыны па старой «саўковай» традыцыі быў «упрыгожаны» блакітнымі, жоўтымі і чырвонымі сцяжкамі /???/. Смех ды і толькі.

Вось толькі некаторыя назіранні.

Праспект Пушкіна: на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў — ніводнага дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга.

Вуліца Кальварыйская /былая Апанскага/ — ніводнага дзяржаўнага сцяга; шыльды са старой назвай вуліцы напярэдадні свята не зменены.

Міністэрства мантажных і спецыяльных работ /плошча Мяснікова/, Міністэрства культуры /!!!/, Оперны тэатр, Дом урада /!!!/, галоўны ўваход, Мінскі гарадскі Савет, галоўны ўваход — усюды ніводнага дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга.

Увогуле, галоўная плошча сталіцы, плошча Незалежнасці, не была ўпрыгожана нацыянальным сцягам. /Выключэнне — будынак педінстытута/.

Нацыянальны банк РБ /!!!/, галоўны ўваход — дзяржаўны сцяг адсутнічае.

Акадэмія міліцыі — дзяржаўны сцяг адсутнічае.

І нарэшце — будынак Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь /!!!/, усе пад'езды — ніводнага дзяржаўнага сцяга.

Толькі на будынках некаторых дзяржаўных устаноў /педінстытут, ДК прафсаюзаў, Міністэрства ўнутраных спраў РБ, Міністэрства абароны РБ, Дзяржаўная філармонія, Дзяржаўны рускі тэатр/ луналі нацыянальныя сцягі.

Што ж, адносіны Вярхоўнага Савета і выканаўчых улад Беларусі да ўласнай дзяржаўнасці і незалежнасці вядомыя. Ім ужо нічога даказаць нельга. І не трэба! Не паважаючы свае дзяржаўныя сімвалы, яны не паважаюць свой народ, але ў першую чаргу — саміх сябе. Праўда, не зусім зразумелыя дзеянні службаў Мінгарвыканкама, адказных за афармленне горада, якія, здаецца, зусім згубілі пачуццё меры і такту /вынік адсутнасці элементарнай культуры і густу/. Чыноўнікам адпаведных службаў не пашкодзіла б усвядоміць /можа быць з дапамогай эфектыўнай сістэмы штрафаў/, што на дзяржаўныя святы краіны праспект Ф.Скарыны ды іншыя галоўныя вуліцы і плошчы сталіцы ўпрыгожваюцца дзяржаўна-нацыянальнай сімволікай — бел-чырвона-белымі сцягамі, а блакітныя, жоўтыя, чырвоныя, фіялетавыя сцяжкі ды іншыя рознакаляровыя прылады ўпрыгожваюць горад, калі ў ім адбываецца, скажам, свята міра і працы, свята гумару і смеху, карнавалы, шэсці і т.п.

Павучыцца б нам адзначаць свае дзяржаўныя святы так, як, напрыклад, эстонцы, латышы ды літоўцы. А нас пакуль што датычыцца прымаўка: хто як адпачывае, так і працуе. Мы ж пакуль што не ўмеем ні таго, ні другога.

**Ігар КРУЧОНАК, архітэктар**

*г. Мінск*

# ТАЎРО — КАСМАПАЛІТ

## ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ПАЛІТЫЧНАЙ КАМПАНІІ

***Вывучаючы гісторыю СССР, здзіўляешся багаццю ў ёй рознага роду ідэалагічных і палітычных кампаній. Усе яны былі густа замешаны на нянавісці да чаго-небудзь альбо да каго-небудзь. Савецкіх людзей не пакідалі ў спакоі. Перад грамадскім поглядам нязменна павінен быў маячыць вобраз зламысніка, які падкопваецца пад асновы самага прагрэсіўнага ў свеце ладу. Стомленым ад беспрасветнага жыцця, адурачаным ілжывай прапагандай людзям дазвалялася абрыньваць на яго злосць, што назапашвалася гадамі.***

Па заведзенай у бальшавіцкіх эшалонах улады традыцыі любая ініцыятыва Крамля павінна была атрымліваць жывы водгук на месцах. Махавік міні-кампаній, які раскручваўся ўдалечыні ад Цэнтра, зацягваў у свой гібельны кругазварот усё новыя і новыя ахвяры, на гэты раз з ліку мясцовых жыхароў — рабочых, сялян, інтэлігенцыі, ваенных. Дакладна ўлоўліваючы сітуацыю, рэспубліканскія, абласныя і раённыя кіраўнікі паслухмяна следавалі добра вядомым, няпісаным правілам гульні: калі вышэйшае кіраўніцтва краіны выявіла крыніцу антыпартыйнай, антысавецкай «ерасі», то і ім належыць у сваіх «прыходах» выяўляць, выкрываць, кляйміць «ерэтыкоў» — сваіх «нацыяналістаў», сваіх «контррэвалюцыянераў», сваіх «ворагаў народа».

З публікацый апошніх гадоў беларускі чытач змог, нарэшце, многае даведацца пра цэлы шэраг кампаній, якія разгортваліся на тэрыторыі БССР у эпоху сталіншчыны. Але ёсць і такія, што дагэтуль застаюцца па-за полем зроку нашых даследчыкаў. І сярод іх — кампанія барацьбы з «бязродным касмапалітызмам».

Сігналам для пачатку гэтай акцыі ў Беларусі стала публікацыя рэдакцыйных артыкулаў у газетах «Правда» і «Культура и жизнь». У іх выкрывалася «шкодніцкая» дзейнасць літаратурных, тэатральных і музычных крытыкаў /пераважна яўрэйскай нацыянальнасці/, якіх абвінавачвалі ў адсутнасці патрыятызму, у шальмаванні рускага і савецкага мастацтва, у нізкапаклонстве перад замежжам, у працягванні ў савецкае грамадства ідэалогіі і культуры буржуазнага Захаду.

З самага пачатку барацьба з «касмапалітамі», па сутнасці, з'явілася першай маштабнай акцыяй дзяржаўнага антысемітызму ў палітыцы сталінскага кіраўніцтва, хоць асобныя антыяўрэйскія акцэнты ў гэтай палітыцы можна было назіраць і раней.

Як і ў Маскве, першы ўдар па «касмапалітах» на Беларусі вырашана было нанесці праз прэсу. 14 лютага 1949 г. у органе Саюза пісьменнікаў БССР газеце «Літаратура і мастацтва» публікуецца артыкул крытыка А.Есакова «Носьбіты бязроднага касмапалітызму».

Па-за ўсялякага сумнення, артыкул быў напісаны па заданні партыйных органаў, якія падказалі аўтару і першых кандыдатаў на расправу: галоўнага рэжысёра Беларускага тэатра імя Я.Купалы Л.Літвінава, галоўнага рэжысёра Дзяржаўнага рускага тэатра В.Галаўчынера, тэатральнага крытыка М.Модэля. Абазваныя фармалістамі, эстэтамі, дэкадэнтамі, снобамі ад мастацтва, усе трое былі пазначаны кляймом «шкоднікаў савецкага тэатральнага мастацтва», «ваяўнічых эстэтаў», якія павінны быць канчаткова выкрыты».

Наступным днём пасля выхаду газеты адкрыўся XIX з'езд кампартыі Беларусі. Са справаздачным дакладам выступае першы сакратар ЦК Гусараў. Яго стрыжнявая ўстаноўка: «ЦК ВКП/б/ і таварыш Сталін нацэлілі партыю і ўвесь савецкі народ на барацьбу супраць ганебных з'яў нізкапаклонства і рабалепства некаторай часткі інтэлігенцыі перад Захадам».

Дэлегаты з'езда, затаіўшы дыханне, чакаюць ад дакладчыка канкрэтных фактаў. Той, хто паспеў прачытаць публікацыю ў «ЛіМе», ужо ведае імёны першых кандыдатаў на расправу. Хто будзе наступны? Бо з вопыту правядзення падобнага роду кампаній няцяжка зрабіць выснову, што справа не абмяжуецца прынясеннем у ахвяру некалькіх чалавек.

Але вось называюцца і «касмапаліты». Як і трэба было чакаць, сярод іх фігуруе ўжо прыгаданая «тройка». Да яе далучаюцца фалькларыст Л.Бараг, аспірантка Інстытута гісторыі АН БССР М.Меяровіч і інш. Пашыраецца і пералік «злачынстваў», якія прыпісваюцца касмапалітам: процідзеянне пастаноўцы ў тэатрах «лепшых савецкіх патрыятычных п'ес», усхваленне «фармалістычных трукацтваў ворага савецкага рэалістычнага мастацтва Меерхольда», прыніжэнне дасягненняў рускага рэалістычнага мастацтва. На вастрыі атакі — Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР. Яго калектыў абвінавачваюць «у пастаноўцы п'ес, у якіх ідэалізаваўся патрыярхальна-мяшчанскі побыт яўрэйскай дробнай буржуазіі, услаўлялася жыццё ў буржуазнай Амерыцы».

Практычна ўсе абвінавачанні аказаліся надуманымі, прыцягнутымі за вушы. Мастака Б.Малкіна асуджалі за тое, што ў «яго пейзажах /?!/ няма ніводнага чалавечага вобраза, няма вобраза воіна-вызваліцеля». У віну крытыку М.Смолкіну ставілася «крамольная» фраза пра тое, што беларускі рэалізм носіць своеасаблівы характар і мае свой спецыфічны змест. Л.Барага і М.Меяровіч абвінавачвалі у «паклёпе на беларускі народ» за тое, што ў сваіх работах яны «аб'явілі, што беларускі фальклор знаходзіцца пад уплывам сусветнай фалькларыстыкі». Падазроным і крамольным робіцца нават нізкая прадуктыўнасць працы. Старшыню секцыі крытыкі і музыказнаўства Саюза кампазітараў БССР М.Шыфрына асуджаюць за тое, што ён «не напісаў за апошні час ніводнага артыкула пра беларускую савецкую музыку», «ператварыўся ў крытыка-маўчальніка».

Адзін за адным ідуць сходы, нарады работнікаў культуры, мастацтва, літаратуры, навукі. З адзіным парадкам дня: выкрыццё «бязроднага касмапалітызму». Носьбітаў гэтай «ганебнай з'явы» выяўляюць не толькі ў літаратуры і тэатральнай крытыцы, але і ў галіне філасофскіх і гістарычных даследаванняў, у музычным мастацтве, сярод пісьменнікаў і драматургаў, мастакоў і скульптараў. Расследаванню і прапрацоўцы падлягаюць газеты і часопісы, якія публікавалі «пісаніну» касмапалітаў, калектывы, дзе яны працавалі, іх непасрэдныя начальнікі, а то і саслужыўцы.

У запале палявання на касмапалітаў апынуцца ў становішчы «дзічыны» было малапрыемна. Даводзілася каяцца. Каюцца, прызнаюць свае «памылкі» Л.Ліцвінаў, М.Модэль, В.Галаўчынер, Я.Герцовіч і іншыя. Але ім не вераць, на іх ужо таўро, і язычаскі абрад самабічавання нічога не можа змяніць у іх лёсе.

Але пакаяння патрабуюць і ад «паляўнічых». Таму каюцца і тыя, хто па абавязку службы меў якія-небудзь адносіны да «вінаватых». За тое, што не дагледзелі, праміргалі, не папярэдзілі.

П.Броўка: «Мая віна — што Модэль не быў своечасова выкрыты як касмапаліт і фармаліст. Мая памылка ў тым, што шэраг артыкулаў Модэля ў часопісе «Полымя» быў надрукаваны ў бытнасць маю рэдактарам гэтага часопіса».

М.Клімковіч: «Лічу сваёй памылкай, што кнігі Модэля выходзілі пад маёй рэдакцыяй».

Рэдакцыйная калегія «ЛіМа»: «У разгортванні тэатральнай крытыкі ў БССР таксама ёсць значныя недахопы. У гэтым значная частка віны кладзецца на газету «Літаратура і мастацтва», якая прадастаўляла свае старонкі для эстэцка-фармалістычных артыкулаў Л.Літвінава, М.Модэля».

Ухіліцца ад удзелу ў бруднай справе, не рызыкуючы сваёй кар'ерай, было практычна немагчыма. Адным пагражаюць, другіх прымушаюць падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне, трэціх спакушаюць абяцаннямі павышэння па службе. Не пакідаюць у спакоі нават хворых. Гісторыка, акадэміка М.Нікольскага паднялі з ложка, прымусілі недвухсэнсоўна пісаць пісьмо, якое «асуджае варожую дзейнасць касмапалітаў» /яно потым было зачытана на сходзе ў Акадэміі навук/.

«Здаровую савецкую ініцыятыву» на арэне барацьбы з «касмапалітызмам» даводзіцца праяўляць вядомым пісьменнікам, паэтам і драматургам /П.Броўку, К.Крапіве, М.Танку, А.Куляшову, П.Пестраку і інш./, кіраўнікам Акадэміі навук — прэзідэнту Н.Грашчанкову, сакратару партбюро С.Маркевічу, дырэктарам Інстытутаў літаратуры, мовазнаўства і мастацтва /В.Барысенка/, філасофіі і права /І.Ілюшыну/, і, вядома ж, партыйным функцыянерам усіх рангаў.

І ўсё ж, нягледзячы на ўсю пільнасць партыі і КДБ, не-не ды й здараюцца непрадбачаныя праколы. Не ўсё ідзе так гладка, як планавалася. Так, напрыклад,

З пошты "ЛіМа"

# ІВАН ЛАСКОЎ КРОЧЫЦЬ У ПРАВІЛЬНЫМ КІРУНКУ

***Хаця сенсацыйны артыкул Івана Ласкова «Племя пяці родаў» / «ЛіМ», N 33, 18 жніўня 1989 г./ быў апублікаваны параўнальна даўно, у беларускіх гісторыкаў і лінгвістаў было даволі часу спраўдзіць і пераканацца, што аўтар даследу крочыць у правільным кірунку, а менавіта ў тым, што назоў Літва, якім доўгія стагоддзі звалася заходняя частка нашае дзяржавы, а часам нават і ўся Беларусь, мае фіна-угорскае паходжанне, — аднак, на жаль, ніхто як быццам усур'ёз гэта не ўспрыняў, маўляў: прымаем да ведама і не больш! У шматлікіх публікацыях апошніх гадоў па гісторыі Беларусі ўсё адстойваецца тая састарэлая тэза, што назоў Літва мае менавіта балцкае /жамойцкае/ паходжанне. Гэта, прынамсі, бачна і па цяперашніх публікацыях у «Звяздзе» і «Народнай газеце» ў серыяле «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі».***

Мяне таксама захапіла гэтая тэма «племя пяці родаў». Яшчэ жывучы ў Латвіі, я зліставаўся з аўтарам, які жыве ў Якуцку. Плёнам ліставання і абмену думкамі стаў мой матэрыял «Аб чым гавораць геаграфічныя назвы», які надрукавала газета «Веснік Глыбоччыны». Іван Ласкоў шмат дапамог мне для збірання матэрыялаў па гэтай тэме, а менавіта тапаніміцы Глыбоччыны, дзе я прадоўжыў тэму «племя пяці родаў» у стасунках да свайго краю.

Тут я мушу падзяліцца ўласна сваімі меркаваннямі і знаходкамі.

Неяк, разглядаючы карту Эстоніі, я знайшоў цікавыя рэчы. А менавіта. На ўсходзе гэтай краіны ёсць паселішча Прaaгa. Сталіца Чэхіі, як мы ведаем, таксама носіць назоў /праўда, без падвойнага «-аа»/ Прага /Praha/. Што агульнага паміж эстонскай і чэшскай Прагай? І тая і другая стаяць ля вады, эстонская — ля берага Чудскага возера, чэшская — на берагах Влтавы. Не вытрымліваю ад спакусы — разгадаць сэнс назвы іду ў бібліятэку Вентспілса /тады я жыў у Латвіі/. Эстонска-расейскага слоўніка не было, затое быў эстонска-латышскі. Знаходжу: Praaqa — брага, слота /расейск. — слякоть/. Калі ўлічыць, што ў Эстоніі і ў Чэхіі абедзве Прагі сфарміраваліся на берагах вадаёмаў, дзе маглі быць у мінулым забалочаныя мясцовасці /слота/, то гэта з пэўнай доляй верагоднасці падмацоўвае маё меркаванне. Адметна тут і тое, што наш палескі беларускі горад Брагін таксама ляжыць на беразе ракі Брагінкі, якая ў мінулым, магчыма, мела іншы назоў, а ўжо сённяшні, пэўна ж, атрымала ад імя горада. Цікава і тое, што ў беларускай мове ёсць таксама слова «прага», дакладней, «пражыць», напрыклад, у варыянце — «пражаны гарох». Так у нас, у Глыбокім, завуць адну страву, — бяруць гарох і пражаць, гэта значыць, намочваюць, а затым смажаць на патэльні...

На гербе беларускага горада Сянно намаляваны дзве касы, і назву гэтага горада выводзяць ад слова «сена». Недалёка ад гэтага горада ёсць возера Сара, якое, як лічаць даследчыкі, сваёй назвай мае балцкае паходжанне /В.А.Жучкевіч. «Чаму так названа». Мінск, 1969 г./. А вось у Эстоніі ёсць паселішча Сянна, недалёка другое паселішча Сару, ёсць і Саарэ, ёсць Ваалма, а на Беларусі — Волма, Лохва, а ў нас — Лахва; Пярну, а ля Глыбокага — Прыпярна /Прыпернае/; ёсць Вільяндзі, а на Беларусі — Вільня, каля Таліна працякае рака Ягала, а літоўскі князь зваўся Ягайла. Мяне даўно цікавіла гэтае таямнічае слова — «сара», якое ўкаранілася ў шмат якіх геаграфічных назвах, раскіданых па ўсёй Еўропе: Сараева, Сарапул, Саратаў, Саарэ. Наколькі шырока гэтае слова сустракаецца ў геаграфічных назвах, настолькі шырока яно адлюстравана ў слоўніку: sara — кусок зямлі, sari — чарада /руск. вереница/; sara — сіта, sarra — азярод, sāār — вялікі, лытка; saar — ясень; saare — востраў. Не бяруся таму рабіць высновы, які сэнс закладзены ў назве беларускага возера Сара, бо расейская транслітарацыя на картах не заўсёды адпавядае аўтэнтычнаму маўленню. Але пэўна іншае. Так, варыянтам слова sari ёсць sarja /чарада/, а на Верхнядзвіншчыне ёсць мястэчка Сар'я на рэчцы Сар'янка і таму назоў Сар'я ніякі не балцкі, як гэта цвердзяць латышы, якія нават лічаць, што і назоў Полацк /ад р.Палата/ мае латышскае паходжанне і пры стварэнні, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, незалежнае дзяржавы планавалі ўключыць у свой склад землі з беларускімі гарадамі: Браслаў, Асвея, Дрыса /Верхнядзвінск/, Дзісна і Полацк, але гэтаму пашкодзіла польская акупацыя Заходняй Беларусі...

Пад Віцебскам ёсць мястэчка і рэчка з аднайменнай назвай Ула, а па-эстонску «Ula» — «жыць па сваёй волі /па сваім разуменні/», якое, як мне здаецца, адпавядае беларускай тапаніміцы тыпу: Слабада, Слабодка. Іван Ласкоў згадвае ў сваёй апошняй публікацыі раку Віт у басейне Дуная і рэчкі Віць на Беларусі. Тут мне адразу прыйшло ў галаву, што назоў нашага Віцебска паходзіць ад ракі

партыйны сход у кансерваторыі прайшоў без энтузіязму, пры падазрона маўклівай аўдыторыі. Сям-там узнікаюць нават слабыя ачагі супраціўлення. Галасы пратэсту супраць партыйна-бюракратычнага дыктату над мастацтвам гучаць на адкрытых партыйных сходах у тэатры імя Я.Купалы, у тэатры оперы і балета, у дзяржфілармоніі. І вернападданніцкай прэсе даводзіцца выпраўляць сітуацыю, выкрываючы тых, хто «не разумее ўсёй палітычнай значнасці барацьбы з касмапалітызмам», хто асмельваецца выступаць у ролі «адвакатаў» сваіх асуджаных на расправу таварышаў.

«Замест таго, каб па-бальшавіцку раскрыць сапраўднае аблічча Л.Ліцвінава, С.Бірыла /сакратар партарганізацыі тэатра імя Я.Купалы. — **В.С.**/ спрабаваў аблаяць тэатральную крытыку ў газетах, заявіўшы, што і без яе тэатр разбіраўся ў сваіх памылках і вызначаў шляхі свайго развіцця. Гэта непартыйнае выступленне С.Бірылы аб'ектыўна змазала палітычную прынцыповасць пастаўленага пытання... Найбольш дзіўным было выступленне дырэктара тэатра В.Стэльмаха. Ён заняўся ўсхваленнем дасягненняў тэатра, абураўся тэатральнай крытыкай, якая, маўляў, не памагала тэатру... Пагарджальны ў адносінах да крытыкі тон сведчыць аб неразуменні В.Стэльмахам гэтай важнай зброі партыйнай і грамадскай думкі. Ён узяў пад сваю абарону фармалістычны спектакль Ліцвінава «Дзень цудоўных падманаў» і не зрабіў наймалой спробы ўскрыць носьбітаў касмапалітызму ў тэатры» /«Літаратура і мастацтва», 1949, 26 лютага/.

Непасрэдна на Беларусі кампанія барацьбы з «касмапалітамі» садзейнічала ўстанаўленню больш жорсткай партыйна-бюракратычнай цэнзуры над беларускім мастацтвам, якое і без таго стагнала пад яе невымерна цяжкім ігам. Яшчэ раз у жорстка-дырэктыўным тоне было ўказана, што ў мастацтве важныя не столькі мастацкія вартасці, колькі адданасць Сістэме.

Пасля пагрому, учыненага ў галіне літаратурнай, тэатральнай і музычнай крытыкі, мала хто мог асмеліцца крытыкаваць бездапаможна слабыя ў мастацкіх адносінах работы, якія вызначаліся пераможна-патрыятычным ухілам. Сама ж крытыка аказалася канчаткова зведзенай да ролі партыйна-бюракратычнага наглядчыка над мастацтвам.

Кампанія супраць «касмапалітаў» згубна адбілася не толькі на развіцці мастацтва і літаратурнай крытыкі ў Беларусі. Яна балюча ўдарыла і па нашай гістарычнай навуцы, уваскрэсіўшы дух сумна вядомай па 30-х гадах барацьбы з «нацдэмаўшчынай». Зноў на ўвесь голас загучалі грозныя заклікі да «барацьбы супраць рэцыдываў нацыяналістычнай ідэалогіі», да пераадолення «вялікай блытаніны ў ацэнцы спадчыны дарэвалюцыйнай беларускай культуры». Зноў быў падхоплены тэзіс аб неабходнасці барацьбы супраць ідэалагічных «памылак, дапушчаных асобнымі гісторыкамі і літаратарамі».

І ўсё ж была адна асаблівасць, якая надавала барацьбе з «беларускім нацыяналізмам» у гэты час элементы пэўнай навізны. Гэта — больш настойлівая, чым раней, трактоўка беларускай гісторыі ў шчыра антызаходнім і русафільскім ключы. Аддаваліся анафеме любыя спробы разглядаць наша мінулае ў кантэксце сусветнай гісторыі, у рамках складанага, супярэчлівага працэсу барацьбы і ўзаемадзеяння шматстайных палітычных, эканамічных, ваенных і культурных фактараў. Больш мэтанакіравана праводзілася думка, быццам «святло культуры» на Беларусь ішло толькі з Усходу, з Расіі, а з Захаду, наадварот, — толькі змрок, гвалт і экспансія.

У ходзе кампаніі барацьбы з «касмапалітамі» была канчаткова замацавана і ўзаконена ў якасці адзіна дазволенай канцэпцыя, адпаведна з якой перыяды гісторыі, калі беларуская землі знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, павінны былі трактавацца выключна ў чорных фарбах, а пісьменнікі, паэты, філосафы і гісторыкі, што працавалі на глебе не толькі беларускай, а і польскай, іншых заходне-еўрапейскіх культур, аб'яўляліся «дзеячамі панска-шляхетнай культуры і рымска-каталіцкай царквы», рэакцыянерамі і ворагамі беларускай культуры.

У дакладзе на XIX з'ездзе КП/б/Б Гусараў ставіў у заслугу партыйным ідэолагам «выкрыццё», як ён казаў, «нацыяналістычнай тэорыйкі пра «залаты век», які нібыта перажыла Беларусь у сваім эканамічным, палітычным і духоўным развіцці ў XIV—XVI стагоддзях, знаходзячыся ў складзе Літоўскай і Польскай феадальных дзяржаў».

Барацьба з «касмапалітызмам» у рэспубліцы вылілася ў дэманстрацыю такога непрыхаванага русафільства, перад якім пабляклі нават ашалелыя нападкі на «нізкапаклонства перад Захадам». Пакланенне перад сапраўды вялікім мінулым Расіі абарочвалася ганьбаваннем уласнай гісторыі, выкрэсліваннем з яе цэлых перыядаў з іх найбагатымі палітычнымі і культурнымі традыцыямі.

Пасеяныя ў сталінскую эпоху зярняты кампанейшчыны давалі аб сабе знаць ва ўсе наступныя гады. Нават перад канцом КПСС кіраўніцтва ЦК КПБ, яго прапагандысцкая машына працавала на поўную магутнасць. Зноў над грамадствам навісла злавесная здань «палявання на ведзьмаў». Барацьба з «шагаламаніяй», нападкі на «нефармалаў», на антысталінскае таварыства «Мартыралог Беларусі», на Беларускі народны фронт. Акцыі ў абарону справы «Вялікага Кастрычніка», «сацыялістычнага выбару», непарушнасці калгасна-саўгаснага ладу. Выступленні супраць дэмакратызацыі і галоснасці, супраць дзяржаўнага суверэнітэту.

І ўсё ж да ўдзелу ў ідэалагізаваных акцыях партыйнаму кіраўніцтву не ўдалося прыцягнуць хоць колькі вядомых, папулярных у народзе вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва. Тое, што без асаблівай цяжкасці ўдалося ў ходзе кампаніі барацьбы з «бязродным касмапалітызмам», што, хоць і з рыпам, удавалася яшчэ нядаўна, на гэты раз аказалася непасільнай задачай. Давялося мабілізаваць састарэлых пенсіянераў, прадажных журналістаў, цвёрдалобых, зацыкленых на камуністычнай утопіі вузаўскіх выкладчыкаў, акадэмічных псеўдавучоных.

Крах настаў пасля жнівеньскага путчу 1991 г. і роспуску КПБ. Партакратычная вярхушка пазбавілася важнейшых рычагоў уплыву на масы — парткомаў, прэсы, выдавецтваў, радыё і тэлебачання. Пад яе кантролем у рэспубліцы засталіся лічаныя газеты і часопісы — такія, напрыклад, як «Славянские ведомости», «Мы и время», «Политика. Позиция. Прогноз», «Политический собеседник» /год таму гэты бульварна-сталінскі часопіс, былы орган ЦК КПБ, спыніў сваё існаванне/.

Ды згрупаваныя вакол гэтых выданняў сілы зноў уздымаюць сцяг кампанейшчыны. У ход ідуць старыя лозунгі, якія клічуць нас у «слаўнае» таталітарнае мінулае. Зноў чуюцца заклікі да барацьбы. Зноў нам навязваюць вобразы чарговых ворагаў — на гэты раз з ліку дэмакратаў, кааператараў, «сіяністаў» і г.д.

І ўсё ж хацелася б верыць у здаровы сэнс простага люду. У яго здольнасць бачыць сапраўдныя намеры сучасных бальшавікоў. Народ, які паспытаў свабоды, наўрад ці нават у гэты цяжкі час спакусіцца перспектывай звароту ў атмасферу ідэалагічнага дыктату і пастаяннага «прамывання мазгоў».

**У.СЕМЯНЮК,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

---

Віцьба, а можа, нават першапачатковая форма назвы якой была Віцьва /Віць+Ва/.

У свой час /з 1973—75 гг./ я служыў у войску на тэрыторыі Чэха-Славакіі. Ужо тады я заўважыў цікавую акалічнасць: Топольчаны, Градчаны, Альшаны, Тураны, Сучаны, Чэрчаны, Бошаны, Сольчаны, Ліпаны і т.п. ва ўсіх гэтых назвах прысутнічае суфікс — -аны, -яны, а на Беларусі: Ружаны, Пружаны, Дзярчаны, Гараўляны, Літвяны, Ашмяны, Варняны, Гальшаны і г.д.

У размове з адным саслужыўцам /з Украіны/ я выказаў гэтае цікавае назіранне. І ў якасці прыкладу чамусьці з беларускіх гарадоў назваў Свянцяны. Цяпер я задаю сабе пытанне: чаму, калі літоўцы /жамойцы/ лічаць назвы тыпу Ашмяны сваімі, то чаму яны іх на Віленшчыне перайначылі на свой лад? — Свянцяны — Швенчоніс, Турмонт — Турмантас, Меднікі — Медынінкай...

Дарэчы, на Беларусі таксама ёсць геаграфічныя назвы, дзе коранем слова з'яўляецца «тур»: Тураў, Тураўля, Турыца і г.д. Пад Рыгай ёсць горад Сігулда, і ў горадзе ёсць некалькі замкаў: тры сярэдневяковыя, астатнія пабудаваныя недзе ў XIX ст. Адзін з замкаў носіць назоў Турайда, ад наймення вакольнай мясцовасці. Турайда /Тур + Айда/ — на мове ліваў /народ фіна-ўгорскай групы, блізкі па мове да эстонцаў/ мае сэнс Боскі Сад /аб гэтым чытаў у кнізе «Sigulda»/. Паводле І.Ласкова /«Племя пяці родаў»/, «монт» — чалавек /Жыгімонт/. Тады Турмонт /Тур + монт/ — Боскі чалавек. Вядома, што шмат якія назвы населеных пунктаў утварыліся ад мянушкі ці прозвішча першага пасяленца ці заснавальніка паселішча. Цікава, што Тураўка знаходзіцца ў маляўнічай даліне ракі Гаўя. Сапраўды — Боскі сад! Ёсць і на Беларусі, на Гарадзеншчыне рэчкі з падобнай назвай — Гаўя, хаця не бяруся сцвярджаць, балцкае ці фіна-ўгорскае паходжанне назвы, але Гарадзеншчына — месца летапіснай Літвы.

Не бяруся таксама сцвярджаць, што назвы паселішчаў з суфіксам -«аны» маюць фіна-ўгорскае паходжанне, але іх распаўсюджванне ёсць толькі на тэрыторыі Чэха-Славакіі, Беласточчыне /Мастаўляны/ і на Беларусі, а ў астатніх краінах іх няма, мо за выключэннем Varak"lani /Вараkляны/ ў Латвіі і Жуляны пад Кіевам і ўжываюцца яны ў назвах як славянскага паходжання /Дварчаны — Пастаўскі р-н, Гараўляны — Глыбоцкі р-н/, так і фіна-ўгорскага /Ашмяны, Літвяны, Жупраны/, але, як мне падаецца, гэты суфікс прынесены на Беларусь з басейна Дуная. Да таго ж здзіўляе падабенства назваў Чэхіі і Славакіі з Беларуссю: Zbraslav, Zbraslalice — Браслаў, паселішчы з назвамі тыпу Літва ў Босніі, на Беларусі і Чэхіі.

Мне падаецца, што Іван Ласкоў стаіць у сваіх пошуках на правільным шляху і яго высновы адкрываюць новыя невядомыя старонкі нашае старажытнае гісторыі, якія, між іншым, могуць прымусіць пераглядзець усю існуючую канцэпцыю еўрапейскай гісторыі. Важным момантам, як мне падаецца, у адкрыцці І.Ласкова з'яўляецца тое, што фіна-ўгорскае племя літва «ўдзельнічае» ў этнагенезе беларускай нацыі, даўшы нашай старажытнай краіне назоў Літва, і сённяшняя Рэспубліка Беларусь з'яўляецца яе спадчыннікай.

* * *

Лічу, што нам, беларусам, не трэба «спаць у шапку», а неабходна ехаць у Гаагу ў міжнародны арбітраж і аспрэчваць сваё выключнае гістарычнае права на назву Літва і яе сталіцу Вільню. Як гэта, дарэчы, зрабілі самі жамойцы ў 1921 годзе, калі адсудзілі ў Латвіі горад Палангу і атрымалі выйсце да мора. /З адной тэлеперадачы я даведаўся, што Грэцыя не прызнае назоў Македонія і патрабуе ад Сербіі, каб гэты назоў змянілі, бо ён мае грэцкае паходжанне/. Мы не маем права перад будучымі пакаленнямі беларусаў згубіць жамчужыну славянскай культуры — Вільню, але гэтае права мы павінны адстойваць не сілай зброі, а цывілізавана — праз міжнародны суд. Мы не былі агрэсарамі як у Першую, так і Другую сусветныя войны, мы не ваявалі з Савецкім Саюзам на баку Германіі, Італіі, Румыніі, Балгарыі і Японіі. Тыя краіны, якія распачалі Другую сусветную вайну, панеслі ў якасці кантрыбуцыі тэрытарыяльныя страты: Германія згубіла тэрыторыі па Одэры і Нэйсе, Прусію, Румынія — Бесарабію. Дык за якія правінnасці Беларусь пазбавілі яе спрадвечных земляў: Беласточчыны, часткі Віцебшчыны /Дзвінск, Себеж, Невель/, Смаленшчыны, Браншчыны і Віленшчыны?

**Уладзімір СКРАБАТУН**
*г.Глыбокае*

---

Адраджэнне

# ФОНД ЧАКАЕ... ПРЫЗНАННЯ

Мінчукі памятаюць вясновы філарманічны канцэрт аркестра духавых інструментаў «Няміга», калі выконваліся творы беларускіх ды амерыканскіх кампазітараў: А.Мдзівані, Д.Смольскага, Т.Кнокса, Д.Гершвіна, Д.Бернстайна, Ф.Лоу і Ф.Сюзы. Такая музыка была выбрана мастацкім кіраўніком «Нямігі» А.Берыным невыпадкова. Канцэрт стаўся першай акцыяй Міжнароднага гуманітарнага фонду «Адраджэнне Беларусі». А ў зале Беларускага таварыства культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі прайшла ўстаноўчая прэзентацыя фонду. Гэтым афіцыйным падзеям папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца, быў створаны аргкамітэт фонду «Адраджэнне Беларусі».

Ідэя стварэння такога фонду з'явілася ў нашага былога суайчынніка Анатоля Астроўскага, які цяпер жыве ў ЗША. Летась у верасні ён прыехаў у Мінск, сустрэўся са сваімі сябрамі, акунуўся ў атмасферу роднага горада, востра адчуў сацыяльныя, палітычныя праблемы Беларусі, убачыў вялікія цяжкасці на шляху развіцця яе культуры.

Ягоная ідэя мела розгалас у самых шырокіх колах грамадскасці: у дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі, кіраўнікоў дзяржаўных ведамстваў, прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі. На яе адгукнуліся святары розных канфесій, кіраўнікі разнастайных фірмаў, прадпрыемстваў, банкаў, грамадскіх арганізацый...

Мала каму за мяжой вядомая вялікая і трагічная гісторыя Беларусі, звязаная са шматлікімі набегамі з Усходу й Захаду, працяглай паланізацыяй ды русіфікацыяй, сталінскімі рэпрэсіямі, вялікімі людскімі ахвярамі ў другой сусветнай вайне. Пасля таго, як на тэрыторыю Беларусі выпала каля 70% радыёактыўных чарнобыльскіх ападкаў, што спарадзіла праблему самога фізічнага існавання беларускай нацыі, Беларусь стала краінай нацыянальнага бедства.

Не меншую шкоду Беларусі зрабіў чарнобыль духоўны. Ён выявіўся ў падаўленні дэмакратычных свабод, ва ўпадку нацыянальнай самасвядомасці, забыцці гістарычных ды культурных традыцый, разбурэнні святыняў. Духоўны крызіс закрануў не толькі беларускі этнас, але і культуру рускіх, палякаў, татараў, габрэяў, армянаў, украінцаў, іншых нацыянальных супольнасцяў Беларусі.

Пра ўсё гэта гаворыцца ў адозве Міжнароднага гуманітарнага фонду «Адраджэнне Беларусі» да грамадзян, народаў і ўрадаў Сусветнага супольніцтва.

Сёння, калі Рэспубліка Беларусь стала незалежнаю дзяржаваю, аказалася, што падмурак яе нацыянальнага дома не надта ўстойлівы. Каб умацаваць яго, неабходна дапамога. Не сакрэт, што ад стабільнай сітуацыі на Беларусі шмат у чым залежаць спакой і раўнавага ва ўсім свеце.

Міжнародны гуманітарны фонд «Адраджэнне Беларусі» дакладна вызначае мэты сваёй дзейнасці, сярод якіх адраджэнне і развіццё беларускай культуры і навукі; адраджэнне і развіццё духоўнасці ўсіх канфесій; адраджэнне і развіццё эканомікі Беларусі; адраджэнне беларускага генафонду, духоўнага здароўя нацыі; выяўленне і рэалізацыя патэнцыялу нацыі і інш.

Выказваючы свае ідэі ў памянёнай адозве, вызначаючы мэты сваёй дзейнасці, фонд, безумоўна, гатовы зрабіцца надзейным інструментам і прынесці карысць не толькі Беларусі, але і ўсяму свету. Аднак усе высакародныя намеры могуць рэалізавацца толькі ў тым выпадку, калі фонд атрымае прызнанне і матэрыяльную падтрымку як урадавых ды камерцыйных структураў Рэспублікі Беларусь, так і сусветнага супольніцтва.

**Э.СКУРАТАВА**

